Бел 2
К 55

Для старэйшага школьнага ўзросту

Рэцэнзент **У. В. Гніламёдаў**

Мастак **Т. В. Кубліцкая**

**Кобец-Філімонава А.**

К 55 Агні за peравалам: Аповесць. [Для ст. шк. узросту/Маст. Т. В. Кубліцкая].— Мн.: Юнацтва, 1985,— 160 с., іл.

У пер.: 60 к.

«Агні за перавалам» — працяг аповесці «Блакітны экспрэс», якая атрымала прэмію на рэспубліканскім конкурсе, арганізаваным ЦК ЛКСМБ сумесна з Дзяржкамітэтам па прафтэхадукацыі.

У новай кнізе аўтар расказвае пра тое, як беларускія камсамольцы разам з камсамольцамі іншых рэспублік будуюць Байкала-Амурскую магістраль.

К $\frac{4803010200-040}{M\ 307(05)-85}$ 74—85

**ББК 84Бел7**

**Бел 2**



# РАЗДЗЕЛ ПЕРШЫ

## Сустрэча

Гудзела тайга. Не ад звярынага рыку, не ад капытоў бягучага статка аленяў — ад грукату машын, выцця бензапіл і перастуку сякер, што сторазовым рэхам перагукаўся ў сопках.

Ад аўтатрасы, на якой спыніўся парожні самазвал, ішоў чалавек. Ён ішоў з каністрай на дзялянку, дзе працавалі лесарубы, што высякалі ўздоўж дарогі прасеку. Чалавек увайшоў у бярозавы гай і зажмурыўся — так балюча стала вачам ад густога бярэзніку, хоць і чахлага, але беластвольнага і бліскучага ад снегу і сонца. Чалавек падышоў да вальшчыка, які стаяў спіной да яго. Ён падышоў упрытык і памкнуўся перакрыць ашалелы віск бензапілы:

— Сябар! Бензінчыку не дасі? Не дацягну да кар'ера! А там...— шафёр не дагаварыў, бо ў гэты момант

лесаруб, які ўжо спілаваў бярозку і апусціў бензапілу на снег, павярнуўся да яго.

— Вось і сустрэліся,— машынальна вымавіў Рустамаў, нібы не паверыўшы сваім вачам. Здзіўлена і без радасці глядзеў ён на чалавека з каністрай. У гэтым рослым схуднелым чалавеку цяжка было пазнаць Віктара Дзергачова, так ён за тры гады змяніўся. Дзергачоў, таксама не ўзрадаваны сустрэчай, спалохана пазіраў на Рустамава. І той зразумеў яго. У вачах аслупянелага Віктара ён прачытаў: «Нябось абвесціш усім маё мінулае, зняславіш тут мяне?» Яны глядзелі адзін на аднаго, нібы намагаючыся разгадаць, пра што думае кожны.

Некалі яны працавалі майстрамі ў чыгуначным вучылішчы, і здарылася так, што абодва паехалі на камсамольскую будоўлю ў калгас. Віктар быў камандзірам атрада, а Рустамаў атрадным майстрам. За два месяцы сумеснай працы Дзергачоў паказаў сябе з самага кепскага боку. Ён абакраў сваіх жа выхаванцаў, калі налічваў грошы. Пасля таварыскага суда Віктара знялі з Дошкі гонару і не прынялі ў партыю.

Некаторы час Дзергачоў яшчэ працаваў у вучылішчы, а потым знік.

І вось неспадзяваная сустрэча.

— Пашанцавала,— нарэшце вымавіў і Віктар.

І ў гэтым «пашанцавала» Рустамаў улавіў жаль і нават непрыхаваную злосць. Апрытомнеўшы пасля здзіўлення і прыкрасці ад нечаканай сустрэчы, спытаў:

— У мехкалоне даўно?

— Два тыдні.

Рустамаў падумаў: «Калі Дзергачоў працуе ў мехкалоне, значыць, не можа не ведаць пра выпадак, які ўзбударажыў увесь пасёлак. А можа, ён і ёсць той самы навічок, які чысціў дарогу разам з загінуўшым хлопцам? Ва ўсякім разе, калі і не ён, дык усё роўна павінен ведаць пра тое здарэнне».

— Як загінуў Сергіенка?

Віктар сумеўся.

— Не ведаю. Мяне не было. Па хлеб ездзіў з напарнікам.

— Дык гэта ты быў з ім?! — шчыра здзівіўся Рустамаў сваёй здагадцы.

— Я нічога не ведаю. Адкуль мне ведаць... Мы прыехалі, а ён ужо...

Дзергачоў спахмурнеў і адвярнуўся. З яго грудзей міжволі вырваўся стогн. І Рустамаў зразумеў, як яму цяжка. І таму спытаў спагадліва:

— Следчы, пэўна, цікавіцца?

— Вядома. Такая прафесія.— Віктар памаўчаў. Позірк яго рассеяна слізгануў міма вачэй Рустамава. Потым ён загаварыў ціха і сумна.— Не верацъ мне. Навошта, кажуць, па хлеб так далёка ездзіў, калі Заімка побач? А мяне напарнік упрасіў. Баба ў яго там. Вось і паехалі. Уаян жа далёка...

— Сітуацыя складаная,— задумліва прамовіў Рустамаў.

Ён верыў, што Віктар не здольны на злачынства, нават праз сваю баязлівасць не пайшоў бы на яго. Дый не зусім ён канчаны чалавек, але падвесці можа. Вось як падвёў Сергіенку, пакінуўшы аднаго ў тайзе.

— Тры гады што рабіў? — зноў спытаў Рустамаў.

— У Сібіры быў.

— Лайдачыў?

Віктар нядобра ўсміхнуўся.

— Шафёрам працаваў... Надакучыла. Хачу да Рабкова прасіцца. У лесарубы.

— Аб высокіх заробках прачуў?.. Ён не кожнага возьме. Толькі з выпрабавальным тэрмінам. Вытрымаеш? — засумняваўся Рустамаў, намякаючы на мінулае Віктара.

І той зразумеў яго. І загаварыў горача, быццам бы з доўга прытоенай крыўдай, крыўдай за тое, што яму не вераць.

— Другі я цяпер! Разумееш! Другі! Няма таго Дзергачова! Няма! Тры гады на сібірскіх будоўлях — гэта табе не два... не два месяцы на кароўніку! Прайшоў я выпрабавальны тэрмін! Прайшоў!..

«Можа, і так, але выпадак з Сергіенкам»,— падумаў Рустамаў. І ўсё ж ён паверыў гэтай кароткай споведзі, якая вылілася з душы Дзергачова раптоўна і шчыра. Рустамаў улавіў у яго абліччы нешта новае, чаго не было ў ім раней, некалькі гадоў назад. Сталасць, ці што? Пакуль што Рустамаў і сам не ведаў, што адбылося з Віктарам, але перамена ў ім адчувалася. І ў лепшы бок.

Дзергачоў гаварыў нервова. І Рустамаў пашкадаваў яго.

— Ладна. Я пагавару з Рабковым. Я ж у яго брыгадзе.

Віктар нічога не адказаў. Але Рустамаў бачыў, як твар яго памякчэў.

Яны пайшлі ў кусты, дзе стаяў бензін. Рустамаў напоўніў Віктараву каністру. Абодва адышліся ўбок, закурылі.

— Ты адзін? — пацікавіўся Дзергачоў.

— Хутка Аня прыедзе.

Па твары Віктара нібы цень прабег: мала таго што Рустамава спаткаў, дык і Аню яшчэ бог наслаў. Рустамаў больш падатлівы. А вось яна... Хапіла Віктару ад гэтай журналісткі там, у будаўнічым атрадзе. Прынцыповая!

Рустамаў хацеў сказаць, што тут і Сярожа Казлоў, якога Віктар некалі ў атрадзе зрабіў казлом адпушчэння. Але заўважыўшы, як балюча перакрывіўся твар Дзергачова пры ўпамінанні пра Аню, змаўчаў: не ўсё адразу.

— Ажаніўся? — зноў спытаў Віктар.

Рустамаў кіўнуў.

— А ты?

— Адзін я.

Рустамаў думаў: дзіўна, і чаму на яго жыццёвым шляху ўзнікае гэты чалавек? І як Дзергачоў сустрэнецца з Аняй? З Казловым? Як ён павядзе сябе тут? І зноў Рустамаў засумняваўся: а ці праўда, што ён стаў іншы, змяніўся ў лепшы бок? А можа, сапраўды Сібір абчасала яго? Што ж, час пакажа.

Яны разышліся ў розныя бакі. Кожнага чакала праца. На кар'еры не сціхаў грукат матораў: экскаватары бясконца чэрпалі грунт, напаўняючы ім самазвалы. А на прасецы вылі бензапілы.

Яны разышліся ў розныя бакі, але рабілі адну агульную справу — адзін высякаў прасеку для трасы, другі вазіў грунт для адсыпкі чыгуначнага палатна.

Яны рабілі адну, вельмі важную, вялікую справу — будавалі Байкала-Амурскую магістраль.

## РАЗДЗЕЛ ДРУГІ

### Поезд ідзе на ўсход.— Розныя людзі

Агнявыя лісы імкліва бягуць над сопкамі, дарэмна намагаючыся абагнаць поезд. Вось яны замільгалі за рэдкалессем і, вырваўшыся з тайгі, выцягнутыя ў струнку, зноў памчалі над гольцамі, сінявата-шызымі, застылымі, панурымі, дзе-нідзе прыцярушанымі снегам. Толькі самая большая ліса, бегучы над тайгой, чаплялася, пэўна, за вершаліны, і цяпер шматкі рыжай поўсці несліся за ёю ўслед.

Гэты незвычайны з акна поезда захад сонца цешыў Аню. Воблакі імчалі над самым даляглядам, паступова мяняючы колер, яркі, агністы — на цёмна-буры; але вось яны пачалі адставаць ад поезда і гаснуць, гаснуць... Раптам стала змрочна. Ані здалося, быццам праз шкло падзьмуў холад. Зябка скурчыўшыся, яна шчыльней захінулася шалем.

— Хутка Іркуцк,— пачуўся за яе спіной голас хлопца, які вяртаўся з адпачынку ў Тынду.— Шкада, што вечарам. Не ўбачым.— Ён памаўчаў, спадзеючыся, што Аня адгукнецца, але тая не азвалася.— А ноччу пачнецца Байкал, і ўсю раніцу будзем ехаць уздоўж яго ўсходняга берага. Пачнуцца самыя прыгожыя мясціны ў Сібіры. Адзін Байкал чаго варты! — хлопец зноў замаўчаў у чаканні, калі загаворыць Аня. Але тая нібы не чуе.— Зайздрошчу вам, што вы ў Забайкаллі жыць будзеце. Я з-за адной бы прыроды згадзіўся туды. У Тындзе не так прыгожа.

Ані не хацелася падтрымліваць размову. Гэты дваццацігадовы хлопец два дні запар спрабаваў расчараваць яе сваімі расказамі пра БАМ і Сібір, аб якіх у Ані былі зусім іншыя ўяўленні пасля прачытаных кніг, часопісаў, пасля пачутага па радыё і ўбачанага па тэлевізары, і асабліва пасля пісьмаў мужа, які вось ужо без малога год, як будуе магістраль. Упэўненасць у тым, што яны ніколі не сустрэнуцца, надала хлопцу смеласці. Ён прызнаўся, што на БАМ паехаў толькі дзеля грошай і машыны, якую набудзе, калі адробіць дагаворны тэрмін. Аня пярэчыла хлопцу, маўляў, не ўсе ж такія матэрыялісты, як ён. Але той не згаджаўся.

— Многія з-за імпартных кажухоў і дываноў на

БАМ едуць. Адна жанчына, яна бухгалтарам працуе, дык у яе ўвесь пакой у дыванах: на сценах, на падлозе, а пакой вялікі, метраў на дваццаць пяць. Куды ёй столькі! Думаеце, я гаварыў бы такое, каб у адзін пасёлак з вамі ехаў? Мне ў другі бок. Дый не па камсамольскай пуцёўцы я. Вольны казак. Хоць заўтра магу з БАМа паехаць. Ды шкада, два гады засталося, шмат грошай на машыну ўклаў. Адгарую.

— Не можа быць, каб усе былі такімі спажыўцамі, як вы,— абурылася Аня.— У рэшце рэшт, гэта пахне... абывацельшчынай.

Хлопец усміхнуўся.

— Я таксама марыў аб рамантыцы. Спачатку было. А потым... Многія з-за кар'еры едуць.

Аня не паверыла хлопцу. І вось цяпер, калі ён, стоячы за яе спіной, загаварыў пра Байкал, пра яго прыгажосць, пра жаданне жыць на яго ўзбярэжжы, словы гэтыя здаліся ёй фальшывымі. І ўсё ж, калі хлопец загаварыў аб Байкале, нейкі смутак улавіла Аня ў яго голасе, і слабае сумненне варухнулася ў яе душы. А можа, ён мае рацыю? Няўжо і з ёю такое здарыцца? Аня паспешліва адагнала ад сябе гэтую думку. «Не, не! Такога не можа быць!»

Хлопец усё яшчэ стаяў. Аня маўчала. Зразумеўшы яе адчужэнне, ён пайшоў у купэ.

«Такога не можа быць,— разважала Аня.— Вось жа дзяўчаты з суседняга купэ кажуць зусім іншае! За добрую працу іх, лепшых маляроў, прэміравалі паездкай у Чэхаславакію. З захапленнем і наперабой расказвалі яны, як пачыналі будаваць на голым месцы Тынду, а будынкаў ужо столькі паставілі, што і не прыпомніць нават! Краму, школу, ГПТВ... Вось толькі без тэатра і кіно. Яшчэ не пабудавалі. Але затое да іх артысты прыязджаюць, усе «зоркі» ў іх пабывалі». І столькі гонару было ў расказах дзяўчат-маляроў, столькі радасці, што Аня, прыгадаўшы іх, у думках назвала хлапца з Тынды ханжой і кар'ерыстам. І яшчэ падумала яна, што ў Кічары, куды яна едзе, таксама, відаць, сустрэне такіх, як ён.

На жаль, ніхто не можа ёй расказаць пра Кічару. Пра тое, як будуецца новы пасёлак у Забайкаллі. Яна магла б пачуць пра гэта ад дзяўчыны, імя якой Тоня, ці Тоха, як яе называюць у поездзе. Тоха таксама вярталася з замежнай паездкі — за добрую працу і яе

ўзнагародзілі турысцкай пуцёўкай. Але чамусьці Тоха пазбягае яе. У той дзень, калі Аня пазнаёмілася з дзяўчынай, тая спалохана адхіснулася і ціха ўсклікнула:

— Вы... жонка Рустамава?!

Потым, калі яны сутыкаліся ў вузкім калідоры вагона, Аня лавіла на сабе ўважлівыя позіркі дзяўчыны, якая нібы вывучала яе, і нейкім сумам свяціліся яе вялікія шэрыя вочы. Тоха была прывабнай. Некалькі разоў Аня парывалася з ёю пагаварыць. Але нешта яе стрымлівала... Прыгадалася ёй, як Рустамаў пісаў аб маладзёжным тэатры ў пасёлку, якім вельмі захапляўся. Ад Тохі Аня даведалася, што паслалі яе за мяжу не толькі за добрую працу (яна рабіла кухарам у брыгадзе лесарубаў), але і як адну з лепшых удзельніц маладзёжнага тэатра. Хоць тут і не было ніякай сувязі з Рустамавым, але незразумелая трывога закралася ў Аніна сэрца.

Яна ўсё яшчэ глядзела ў акно, за якім праплывалі вячэрнія пейзажы. Але вось у вагоне загарэлася электрычнае святло. І за акном адразу ж наступіла ноч. Прамільгнулі агеньчыкі таежнай вёсачкі. Аня зірнула на гадзіннік: стрэлкі паказвалі гадзіну дня. Ззаду засталіся Новасібірск, Краснаярск, Тайшэт. Поезд Масква — Хабараўск усё яшчэ жыў па маскоўскаму часу, і як ні стараліся пасажыры перастроіцца на мясцовы лад, усё ж прывычка брала сваё: днём спалі, уначы днявалі. Блытаніна ў часе і амаль чацвёра сутак дарогі вельмі ўсіх стаміла.

Горы круты, горы круты,
Горы есть пологие,
Не одна страдаю я,
Страдают очень многие.

Данеслася з Анінага купэ. Гэта Палікарпаўна, бабулька з-пад Кастрамы. Яна села ў поезд на паўстанку Мар'я, і з ёю ў ціхім Аніным купэ стала светла, утульна, весела. Старая аказалася гаваркой і за двое сутак дарогі ўсё расказала аб сабе. Аня ведала, што Палікарпаўна едзе туды ж, куды і яна, у той жа пасёлак у Забайкаллі, што будуюць бамаўцы, едзе наведаць свайго старэйшага сына, «начальніка БАМа», і, вядома, паняньчыць унука. Дзіцячы сад яшчэ не пабудавалі, і Васёк бегае беспрытульнікам, таму што ўсе на працы і даглядаць яго няма каму.

Дабрыня Палікарпаўны на твары напісана. Вочы, твар свяціліся цеплынёй. Дамавітая, утульная. Здавалася, быццам яна толькі што адышлася ад печы, у якую засунула лапату з цестам, і ўжо салодкі дух гарачых боханаў запоўніў чыста прыбраную святліцу. Вось такім жа духмяным павеяла ад Палікарпаўны адразу ж, як толькі яна ўладкавалася ў Аніным купэ. Асабліва руская гаворка старой уразіла Аню, окаючая, мяккая, напеўная. А пагаманіць любіць! Толькі людзі са шчырай душой могуць так нястомна расказваць пра сябе. Але хапала ў яе і прыроджанага такту своечасова спыніцца, калі заўважала, што субяседнік стаміўся. Адным словам, Палікарпаўна вельмі да сябе прывабіла Аню.

Не расстанусь с комсомолом,
Буду вечно молодым...

Зноў звонкім голасам вывела Палікарпаўна.

«Якія розныя людзі! Які ў іх розны лёс! — думала Аня.— І як гэта цікава, як добра ўсё ведаць, спазнаваць, падарожнічаць! І як не хочацца з гэтымі людзьмі расставацца!»

Не ведала Аня, што ёй прадстаяла сустрэцца неаднойчы ў самых розных абставінах і з чуллівай дамавітай Палікарпаўнай, і з абаяльнай Тохай, глыбока схаваўшай у сабе нейкую горкую таямніцу. Але ўсё гэта яшчэ наперадзе.

Аня ўвайшла ў купэ. Старая вязала.

— Гуляць хадзіла? — падняла яна вочы на Аню.

— Глядзела ў акно,— адказала тая, сядаючы.

Аня ўжо не была той нясмелай дзяўчынай, як у студэнцкія гады. Праца ў будаўнічым атрадзе навучыла яе сыходзіцца з людзьмі, разумець іх, дый замужжа надало самастойнасці. З Рустамавым Аня знайшла сваё шчасце. Але ці ж магла яна ўседзець, ведаючы, што недзе за тысячы кіламетраў ад яе ўтульнага сямейнага гняздзечка, якое яна звіла разам з Рустамавым у родным Мінску, ёсць іншае жыццё, дзелавое, кіпучае. Ды і Рустамаў марыў паехаць на БАМ, каб наталіць прагу сваіх рук, якія знудзіліся па фізічнай працы. Абое, і ён і Аня, быццам згаварыліся. І як толькі Рустамаў скончыў інстытут чыгуначнага транспарту, адразу ж падаў заяву ў камітэт камсамола з просьбай паслаць яго на будаўніцтва чыгун-

кі. I разам з атрадам ён паехаў у Забайкалле. Аня чакала яго выкліку. I вось яна едзе. Што чакае яе там? Ці не пашкадуе, што кінула газету, дзе працавала пасля інстытута? Хто ведае, як там будзе... А пакуль што поезд ідзе на ўсход.

## РАЗДЗЕЛ ТРЭЦІ

### Вогнішчы на адхоне.— Адзін сярод белай цішы

Грузавік, крыты брызентам, крута звярнуў з аўтатрасы да падножжа хрыбта і, рэзка збавіўшы хуткасць, палез уверх па адхоне. Пасля ўчарашняй нядоўгай адлігі снег моцна прыхапіла марозам, і цяпер тоўсты ледзяны шарпак ламаўся пад коламі. Трапляліся наледзі, па якіх машына спаўзала назад. «Урал» спыняўся і чмыхаў, як знясілены конь, прасунуўся яшчэ на якіх метраў сто і ўткнуўся ў падаліцу, дрэвы, што бязладна ляжалі пад снегам, наглуха забіўшы дарогу.

Чацвёра ў брызентавых робах саскочылі з кузава, выгрузілі сякеры і рукзак з правіянтам. Сёння гэта была апошняя група, якая высадзілася ў тайзе, астатнія брыгады працавалі ўжо на сваіх дзялянках.

Вахтоўка так-сяк павярнулася і паражняком падалася назад да аўтатрасы. Хлопцы памахалі на развітанне шафёру. Грузавік ужо знік з вачэй, а людзі ўсё яшчэ стаялі і зачаравана глядзелі на ўсход, туды, дзе толькі што за паваротам знікла машына. Там, за рэдкалессем, па другі бок дарогі свяціўся блакітам ужо застылы Байкал. У тайзе на мяжы ночы і ранка яшчэ цёмна, але над Байкалам з-за снежнай сопкі ўжо ўзыходзіла сонца.

Размытай круглай плямай узыходзіла над возерам сонца: бледнае і млявае, як прывідная здань, марэнава-жоўтае. Быццам з пэндзля мастака неасцярожна капнула акварэльная фарба, занадта разбаўленая вадой. А наўкол усё блакітна-белае і ружаватае: застылая вада з туманам над ёю, снежная сопка, паветра, неба. I ўсё такое празрыстае...

Чацвёра, схамянуўшыся, быццам па камандзе, павярнуліся на захад і хутка, каб не марнаваць час, пай-

шлі вышэй па адхоне. Яны ішлі гужам спярша па вытаптанай імі летам сцежцы, якая ледзь адгадвалася пад тонкім покрывам снегу, але потым сцежка згубілася, лесарубы збіліся з дарогі і, махнуўшы на гэта рукой, падаліся па тайзе нацянькі. Пракладваць новую сцежку па крутым адхоне было цяжка: дзе-нідзе снег ляжаў глыбокі, і ногі правальваліся пад шарпак. Людзі мусілі пераступаць цераз векавыя лісцвякі-паданіцу, час ад часу вызваляючыся з карэнняў і ламачча, якія хапалі падарожнікаў за ногі, быццам не хацелі пускаць у тайгу.

Але хлопцы ішлі, не прыцішаючы кроку. Яны ішлі на прагаліну, якую атрад высек яшчэ ўлетку пад высакавольтавую лінію электраперадачы для будучай магістралі. Прагаліна цягнулася ад Ніжнеангарска, што на паўночным беразе Байкала, і далей на ўсход, ажно да Брацкай ГЭС. Адна толькі брыгада Рабкова, якая працавала тут летам, высекла сорак кіламетраў тайгі. Але павал ляжаў яшчэ не спалены. Летам вогнішчы паліць небяспечна: высушаны гарачым сонцам буралом, пасохлыя на пні дрэвы ды і выпаленая спёкай трава ад маленькай іскаркі маглі ўспыхнуць, як порах. А таежны пажар — гэта страшная бяда і для зверыны, і для людзей. Таму ўсё гэта паляць зімой.

Вось і прыехалі падпальшчыкі з брыгады Рабкова на прагаліну, каб паліць спілаваную драўніну, падрыхтаваную з лета: трэба ачысціць дзялянку для здачы. У гэтай чацвёртцы быў і Рустамаў. Ён ішоў ззаду.

Пасля нуднага пад'ёму хлопцы выйшлі нарэшце на прагаліну і апынуліся ля самага падножжа сопкі. На прагаліне ляжаў тонкі слой снегу, дзе-нідзе нават прасвечвала зямля. Снег, мусіць, здзьмула ветрам. І не дзіва: зямля, пазбаўленая лесу, аказалася без аховы. Прагаліна выглядала так, быццам цырульнік тупой брытвай правёў па цемені лясістага хрыбта — і цяпер вузкая доўгая лысіна з яшчэ не голенымі кучамі ламачча, зваленага для вогнішчаў, пралягала па перавалах на сотні вёрст. Вось дзе раздолле гуляй-ветру! Ён і выветрыў снег.

Рустамаў сказаў:

— Гэта няблага, лягчэй паліць. Добра гарэць будзе.

Прайшоўшы яшчэ крыху, падпальшчыкі знайшлі сваю дзялянку. А яшчэ праз колькі хвілін адзін за адным пачалі загарацца на адхоне вогнішчы, і дым чор-

най гадзюкай папоўз па зямлі, запаўняючы ўпадзіны, засцілаючы і без таго сёння змрочнае, як здалося Рустамаву, неба над тайгой.

Хлопцы разышліся па прагаліне з паходнямі, якіх нарабілі з бяросты, саскрабаючы яе сякерамі з чахлых бяроз. Падпальшчыкі хадзілі ад груды да груды, з якіх дзівосна тырчалі карэнні-вываратні, што нагадвалі пачвар. Драўніна, вылежаная за лета, прасохлая і смольная, загаралася лёгка. Рустамаў так улёг у работу, што і не заўважыў, як застаўся адзін. Трое былі ўжо далёка ў нізіне, схаванай ад вачэй кручай на адхоне. Рустамаву далі работу няцяжкую, каб шмат не хадзіў: учора на лесапавале ён выцяў нагу (таму яго і перавялі з лесапавалу, пакуль не загоіцца нага). Ён паліў вогнішчы на раўнінных мясцінах. Затое на яго абавязку было накарміць хлопцаў. Ён мусіў гатаваць абед і мыць посуд.

Рустамаў агледзеўся наўкол. Далёка ўлева хвалямі ўцякала прагаліна. Яна то праходзіла па роўнядзі, то ўзбягала на пагоркі і пасля крутога перавала раптам прапала недзе ў марозным, імглістым небе. На прагаліне снегу мала, але ў тайзе ён ляжыць, з-пад яго нерухома тырчыць ламачча. Наўкол бязлюддзе і ціша. Толькі патрэскваюць вогнішчы ды недзе далёка ўнізе, на аўтатрасе, глуха гудзяць самазвалы, якія возяць грунт з кар'ера. Ля падножжа сопкі, дзе рабіў Рустамаў, застаўся некрануты лесарубамі рад тонкіх бяроз. Сопка, парослая тайгой і толькі дзе-нідзе пакрытая снегам, нагадвала зліналы вярблюджы горб. За гэтым «гарбом» узвышаліся далёкія гальцы, іх снежныя вяршыні ярка блішчалі на сонцы, над імі сінела неба.

Над прагалінай было дымна і чадна. Але дым гэты не быў гаркавы. Піхты, сосны, кедры, лісцвякі, згараючы, настоялі паветра водарам хвоі, які дрэвы назапасілі за ўсё сваё доўгае і нядоўгае жыццё. Асабліва моцную духмянасць струменіў малады багун, які яшчэ сёння ўпарта рос з-пад снегу, нецярпліва чакаючы вясны, каб аздобіць схілы сваім ліловым разлівам. А цяпер, дурманісты, даўкі і смольны, ён загараўся ад іскраў, што стралялі з вогнішчаў, і здавалася, што гарыць зямля, на якую плюхнулі густы, духмяны бальзам. Бушуе полымя вогнішчаў, дробна патрэсквае тонкае галлё, і ў гэтую шайтанскую музыку, у гэты ашалелы танец агню раз-пораз урываліся звонкія стрэлы, быццам

лопаліся туга напятыя струны — так гарыць лісцвяк, самае смольнае дрэва.

Рустамаў глядзеў на агонь і думаў аб яго таямнічай уласцівасці: ён спапяляе, але і грэе, ён знішчае, але і дорыць жыццё адагрэтаму ля яго змерзламу падарожніку. Наўкол такое хараство, але вочы чамусьці цягнуцца да агню — прыцягальнай сілай валодае агонь.

Адталы ствол асіны раптам заблішчаў ад вільгаці, выступіўшай на ім, пачаў жаўцець, быццам акунулі яго ў бронзу, і заззяў, як золата. Залаты ствол доўга яшчэ ляжаў некрануты агнём, пакуль не выпарылася з яго вільгаць. Потым загарэўся, пачаў цямнець, чарнець і... абвугліўся. Рустамаў уздрыгнуў, зябка павёў плячыма. Абвуглены ствол нагадаў яму штосьці, што яшчэ дзень назад было чалавекам, добрым хлопцам па імені Генка. Сёння ўсё нагадвала пра яго: застылы сонечны ўсход над Байкалам і гэты абвуглены ствол, што зусім нядаўна быў як злітак золата...

...Гэта здарылася днямі. Сергіенка, бывалы бамавец, які пабудаваў ужо Зорны і Паўночна-Байкальск, рабіў у атрадзе шафёрам. Чатыры дні назад начальнік мехкалоны звярнуўся ў атрад з просьбай даць яму на падмогу людзей на некалькі дзён. З кар'ера сваіх знімаць нельга, і без таго не хапае. А трэба зімнік расчысціць, што на новы кар'ер вядзе. Дарогу пурга замяла. Ды і людзі з Заімкі прасілі зрабіць ім ласку: па зімовай дарозе ім бліжэй дабірацца ў суседні пасёлак.

Начальнік поезда ведаў, што на старым кар'еры грунт канчаецца. Дый прасека далёка цяпер. Адсыпку палатна рабіць не паспяваюць, не ўгнацца за лесарубамі, таму што стары кар'ер далёка ззаду застаўся. Грунт бліжэй знайшлі. З новым кар'ерам спяшацца трэба. А тут замяло дарогу. Бульдазерысты патрэбны. А дзе іх возьмеш? Хоць аднаго пакуль што даць. Стаў думаць начальнік, каго паслаць на расчыстку дарогі. І спыніў свой выбар на Сергіенку: ён і машыну водзіць, і на бульдозеры працаваў. Хлопец сямейны, не п'е, сур'ёзны. У тайгу толькі такіх і пасылаць. Ці мала што: тайга ж наўкола! Ды яшчэ з людзьмі незнаёмымі жыць давядзецца: два хлопцы з мехкалоны. Хто іх ведае, што за людзі, там прышлых шмат, нетутэйшых. А Сергіенка чалавек памяркоўны, на ражон не палезе.

Не хацелася Генадзю ехаць. Быццам сэрцам бяду прадчуваў, адмаўляўся. Але Яцэнка і слухаць не хацеў. Што ж, паехаў. Праз тры дні на хвілінку заскочыў дамоў задаволены, сказаў, што дарогу амаль усю расчысцілі. Жонцы і дачцэ паабяцаў увечары наступнага дня вярнуцца і папрасіў, каб у лазню яму падрыхтавалі ўсё, адмыцца трэба. Але не вярнуўся. А на другі дзень за шэсць кіламетраў ад Заімкі знайшлі згарэўшую палатку і ў ёй Генку. Яго сябры ды два хлопцы з мехкалоны апазналі труп у прысутнасці следчага. Але як усё здарылася, напарнікі не маглі расказаць, таму што былі ў адлучцы, па хлеб ездзілі ў пасёлак Уаян. Чаму паехалі па хлеб у далёкі пасёлак, калі Заімка побач? Чаму пакінулі таварыша аднаго ў тайзе? Чаму палатку паставілі так далёка ад зімніка? На апошняе пытанне адказ быў слушны: бліжэй да Заімкі. І зноў жа: тады чаму паехалі па хлеб у такую далячынь? Вось над усім гэтым і ломіць галаву следчы. Карацей кажучы, вядзецца расследаванне... ды вось чалавека ўжо няма.

Паўднёвыя цені ляглі на горы глыбокімі складкамі. Прагаліна, што хвалямі падымалася на захад, стала рэльефнай, затое груды яшчэ не спаленага бурелому, сярод якіх хадзіў з паходняй Рустамаў, агарнуў цень. Набліжаўся час абеду.

Прайшоўшы назад па прагаліне, Рустамаў выбраў яшчэ нязгаслае, але ўжо саслабелае вогнішча. Ля яго было цёпла і твар не апякала гарачынёй. Перацягнуў да вогнішча рукзак і ўзяўся гатаваць абед: неўзабаве падыдуць хлопцы. Ад гэтай думкі стала весялей. Аднаму неяк трывожна. Ні чалавечых галасоў, ні птушыных — быццам павымірала ўсё; толькі патрэскваюць вогнішчы. Раптам забрахаў сабака. Рустамаў прыгледзеўся — два паляўнічыя са стрэльбамі і рукзакамі перасякалі прагаліну. У нізкарослага за спіной матлялася гітара, за ім бегла лайка. «Мабыць, эвенкі з Халоднага, пасёлак жа побач, за перавалам»,— падумаў Рустамаў. Паляўнічыя толькі раз азірнуліся ў яго бок і, не выказаўшы цікавасці, пайшлі ў тайгу.

І зноў бязлюддзе. Ціша. Адзінота. За спіною тайга. Спераду зубчасты горны хрыбет з лясістымі схіламі, паўкруглы, як амфітэатр, за ім удалечыні высокія снежныя вяршыні. Хіба гэта не тэатр! Дэкарацыя ёсць. Вось толькі гледачоў няма. А сонца, неба — вось яны,

гледачы! Моўчкі пазіраюць яны на яго, Рустамава, як на злога духа сярод палаючых дымных вогнішчаў, сярод агню, які знішчае лес... Вучоныя даказваюць, маўляў, дрэвы адчуваюць боль, усё бачаць і разумеюць. Хто яго ведае? Можа, і так. Можа, таму прырода і помсціць чалавеку?..

Раптам у небе пачулася стракатанне. Над прагалінай сонна пралятаў верталёт, быццам нехаця выглядаў, што робіцца ўнізе: ці не пажар гэта? Дзіва што! Усё ў агні, у дыме, быццам гарыць тайга!

— Пажарнікі,— уздыхнуўшы, прамовіў Рустамаў.

Неўзабаве прыйшлі хлопцы з чорнымі ад гару рукамі і тварамі, але задаволеныя. Памыўшыся снегам, селі наўкол абруса з газет. Елі з аднаго кацялка кашу з канцэнтратаў.

— Заўтра даробім. Думалі, на тры дні хопіць, але за два ўправімся,— сказаў цыбаты вузкатвары хлопец у акулярах.

— Не кажы «гоп», пакуль не пераскочыш,— засмуціў яго радасць каржакаваты барадач.

Перакінуліся яшчэ двума-трыма словамі аб сваіх справах і, быццам згаварыўшыся, асцярожна завялі гаворку пра здарэнне. І зразумеў Рустамаў: не толькі яго гэта мучыць.

— Дык што, разабраліся? — спытаў барадаты Іван Дрозд.

— Няшчасны выпадак, кажуць. Па сваёй дурасці, мабыць. Можа, выпіў, можа, акурак кінуў, можа, заснуў...

— Кінь ты, Белазёраў! Заладзіў: можа, тое, можа, гэта...— перабіў вузкатварага барадач.— Не пітушчы ён! Выгадна так гаварыць. Каб справу замяць. Такі акуратны чалавек быў: закурыць — запалкі на падлогу не кіне. Жонка выхавала. А следчы ведае, чаму ён ехаць не хацеў? Там Валодзька Забелін быў. Шалёны. Сядзеў шмат разоў, піў, біўся, бандзюга... З Генкам разам у Зорным рабіў. Я ж ведаю, мне Генка расказваў. Дый жонка гаворыць, што Генадзь чалавекам слова быў. Скажа: прыеду — прыедзе. І ў палатцы заснуць у той вечар ён не мог, бо дамоў збіраўся. У любым выпадку дамоў бы паехаў. Тым больш што Людка другім ходзіць, вось-вось разродзіцца... Тут нешта іншае.

— Дрозд мае рацыю, тут нешта іншае,— умяшаўся ў размову трэці, маўклівы хлопец.

— А можа... залацішка? — асцярожна выказаў сваю здагадку Белазёраў.

— Якое яшчэ залацішка? — насцярожыўся Дрозд.

— Ці мала было выпадкаў, калі бульдозер на залатыя зліткі натыкаўся? А золата калі знойдзеш — здавай дзяржаве. Ну, а Забелін, мусіць, не той чалавек, каб...

— Усё ясна, Шэрлак Холмс. У цябе ўжо і дэтэктыўчык гатовы. Каб Генка не данёс, яго і прыкончылі, а каб схаваць сляды злачынства, труп спалілі. Але ж тыя двое былі ва Уаяне і куплялі хлеб! Гэта праверана.

— А калі паехалі па хлеб, да таго ці пасля?

— Не ведаю... — Дрозд задумаўся, потым сказаў: — Можа, пабіліся? У Зорным яны не ладзілі. Забелін баяўся Генкі. Ён быў слабейшы за яго. А той калі ўдарыць, то трымайся. Генка не раз казаў: «Я баюся і мезенцам каго крануць, за сваю сілу не ручаюся». Таму ён ніколі ні з кім не біўся.— Крыху памаўчаўшы, Дрозд раптам спытаў: — А хто быў трэці? Кажуць, навічок, толькі прыехаў...

Рустамаў слухаў, але сам у размову не ўступаў. І на апошняе пытанне не адказаў, хоць і ведаў, хто быў трэці. Не захацелася яму ўпамінаць імя Віктара.

— Ну, хопіць, братва. Працаваць трэба. Без нас разбяруцца,— падымаючыся з паваленага кедра, на якім сядзеў, сказаў Рустамаў. Ён быў тут за старшага.

— Ты з намі ідзі, нельга аднаму. Мядзведзь у гэтым годзе не залёг. Пажар спудзіў, дый галодны год быў,— сказаў Рустамаву Дрозд.

На пачатку восені гарэў Баргузінскі запаведнік і зверына разбеглася па ўсёй тайзе. Шатун можа завітаць сюды кожную хвіліну. І ўсё ж Рустамаў застаўся тут, ля сцежкі, якая вяла да аўтатрасы: боль у назе ўсё яшчэ адчуваўся. Спускацца з адхону, потым зноў караскацца наверх... не, лепей застацца тут.

Сонца зімой заходзіць рана ў гарах. Як толькі пераваліць за поўдзень — тады змяркаецца хутка. Затое ўлетку дзень даўгі. А цяпер, хаваючыся за рэдкія дрэвы, сонца павольна перасоўвалася на захад і яшчэ больш марудліва спускалася над сопкай, над яе снежнай вяршыняй. Пацямнелі горы, хрыбет усёй сваёй аграмадай нібы насунуўся на Рустамава. Здавалася,

ужо настаў вечар. Але раптам свяціла, нібы дражнячыся, выйшла з-за рэдкалесся, велічна паплыло над маленькім полем — і адразу ажывіліся горы, павесялела наўкол. Бярозы, што стаялі ля падножжа хрыбта, пацяплелі, і нават вярблюджы горб прыветна высвеціўся, радуючыся нечаканай сустрэчы з сонцам. Затое снежная вяршыня яго стала панура-папялістай: сонечны прамень пакінуў яе. І як заблішчала далёкая нграда снегавых гор, якую раней хаваў цень! Але нядоўга так было. Прыцемкі згусціліся хутка, як толькі сонца пайшло садзіцца за пагоркі.

Рустамаў здзіўлена глядзеў на захад сонца, на пералівы святла і ценяў, адчуваючы, як у яго не стае сілы адвесці вочы ад гэтага хараства. І раптам яго позірк упаў на прагаліну. Дагаралі, дыміліся вогнішчы, а некаторыя разгарэліся так, што, здавалася, вогненныя языкі ліжуць неба... І здалося Рустамаву: сонца дзеля яго падоўжыла дзень, дзеля яго не спяшалася ісці за далягляд, каб не толькі паказаць веліч прыроды, але і кінуць папрок чалавеку: «Любуешся? Вачэй не адвядзеш? Дык што ж ты робіш, сукін сын, згубіцель ты наш!» І яшчэ Рустамаву памроілася, быццам насупілася сонца: гэта пасма чорнага дыму на імгненне засланіла яго.

Рустамаў адагнаў ад сябе непрыемнае насланнё і, заміраючы ад захаплення, назіраў захад сонца да канца.

Вось яно, яшчэ яркае, схавалася за воблака, як за празрыстую шырму, прасвечваючы скрозь яе бледна-чырвоным золатам. І раптам выслізнула непазнавальным, быццам пераапранулася ў спакойную, бляклую мантыю, каб ісці на спачынак. Дым ад сонца стаў ружовы. Сонечны дыск пакаціўся за далёкую горную вяршыню, праламляючыся скрозь прызму дрыготкага дыму: то пашыраўся ў вялізны бліскучы шар, то змяншаўся да памераў цьмянага апельсіна, калі яго засланяў дым густымі пасмамі... І раптам, як толькі сонца амаль зайшло, над вузкім яго серпікам, які яшчэ застаўся, узнік зеленаваты німб. Але схаваўся і гэты апошні беражок — і зялёнае ззянне знікла. А неба афарбавалася ў вячэрні малінавы колер, але халодны, сібірскі. Дзень пагас. У тайгу мядзведжымі лапамі ўчапіўся вечар. Больш выразна абазначыўся грэбень хрыбта, і на ім натапырыліся, драпаючы неба, калю-

чыя, быццам вожыкі, дрэўцы (раней іх не было відаць). Але знік і гэты прывід. Яшчэ хвіліна — і горныя вяршыні зліліся ў адну суцэльную хвалістую лінію. Цямней сталі лясістыя пагоркі, паярчэлі снежныя гальцы.

Рустамаў назіраў за гэтай барацьбой святла і цемры і думаў, што вось так і ў жыцці чалавека: бывае то светла, то цёмна. І калі наступае цемра, не трэба ўпадаць у адчай і траціць надзею. Нездарма ж гавораць, што цямней за ўсё бывае перад святлом. Цемра — гэта своеасаблівая перадышка светлага, якое часова нібы адступае, каб потым, набраўшыся сілы, перамагчы цемру. І хай нават доўгая непраглядная ноч. Але ж заўтра зноў узыдзе сонца і будзе свяціць! Праўда, не кожны ўбачыць ззянне новага дня, хтосьці адыдзе ў іншы свет назаўжды. Вось як адышоў Сергіенка. Але жыццё застанецца! Сонца будзе свяціць не табе, дык іншым! І ты ўвесь не памрэш, памрэ толькі твая плоць, а справы твае — гэта твой працяг, дзеці твае — гэта твой працяг, ты будзеш жыць у памяці, у добрай памяці, таму што пры жыцці клапаціўся аб тых, хто застанецца пасля цябе. Не кожны адважыцца прыйсці ў гэтыя таежныя нетры са звярынымі сцежкамі, не кожны здолее ўзабрацца на кручу. А ты, праклаўшы магістраль і пусціўшы па ёй сталёвую машыну, наблізіш гэта хараство да людзей, дасі ім магчымасць убачыць тое, што зараз убачыў сам. Калі пабягуць сталёвыя рэйкі праз тайгу і рэкі, па горных дарогах і скрозь тунелі міма багатых на карысныя выкапні і гаючыя крыніцы зямель — тады ўзнікнуць новыя заводы, капальні, электрастанцыі, плаціны, гарады, пасёлкі, здраўніцы! Можа, тут народзяцца твае дзеці, і сын твой будзе вадзіць паязды па вялікай сібірскай дарозе, якую будуеш ты! Не, не з дакорам глядзела на Рустамава сонца, а з захапленнем, здзіўляючыся яго дзёрзкасці, цярплівасці і волі! А ахвяры?.. Што ж, вялікія справы без іх не абыходзіліся ніколі.

Да такога вываду прыйшоў Рустамаў, застаўшыся адзін у цішы і бязлюддзі, сам-насам са сваімі думкамі, сонцам, тайгой і горнымі вяршынямі.

Дагараюць вогнішчы. Мароз стаў мацнейшы. На ўсходзе зусім звечарэла. Раптам Рустамаву здалося, быццам хтосьці набліжаецца з цемры. Вяртаюцца паляўнічыя? А можа... шатун! Ад гэтай здагадкі мароз

прабег па скуры. Рустамаў прыгадаў размову за абедам і пашкадаваў, што не паслухаў хлопцаў. У тайзе здараецца ўсякае: і звер задраць можа, і ліхі чалавек у тайгу іншы раз завітае. Рустамаў да болю ў вачах углядаўся ў невыразны сілуэт. Быццам варушыцца... Нарэшце здагадаўся: гэта куст, і варушыўся ён таму, што Рустамаў глядзеў на яго скрозь дрыготкі дым вогнішча. Уздыхнуў з палёгкай, але страх застаўся. Хлопцы далёка, і ён адзін у гэтым таежным бязлюддзі.

Час збірацца ў пасёлак: хутка па іх вернецца вахтоўка і будзе чакаць на аўтатрасе. Пакуль спусцішся ўніз... Трэба памыць яшчэ посуд, а чыстага снегу на дзялянцы няма, на ім сажа, попел... Ісці ў тайгу? Але ісці ад вогнішча не хацелася: ледзь адхінешся — так і пацягне з гор холадам, быццам акунешся ў ледзяны шарпак. А тут яшчэ вецер падзьмуў. Але мыць посуд трэба.

Набраўшы ў кацялок чыстага снегу пад уцалелымі дрэвамі, Рустамаў пайшоў да абрыву, з якога прагаліна стромка збягала ва ўпадзіну. Адсюль ён убачыў таварышаў. Яны былі далёка ўнізе і, як казачныя гномікі, запальвалі чырвоныя ліхтары на сінім снезе. На душы ў Рустамава пацяплела. Далёкія агні вогнішчаў вабілі, клікалі да сябе. І ён прыгадаў Аню. Дзе яна цяпер? Ці дабралася да пасёлка? А можа, яшчэ пакутуе ў дарозе? Хутка ён убачыць яе. Цёплая, пяшчотная хваля агарнула Рустамава пры ўспаміне аб мілым, дарагім чалавеку. Ён больш не адчуваў сваёй адзіноты.

А таварышы ўсё важдаліся з вогнішчамі. Ледзь чутны іхнія галасы ў яру, з усіх бакоў сціснутым сопкамі і тайгой. Іншым разам далятаў стук сякеры, глухі ўдар ад кінутай у вогнішча драўніны. Калі-нікалі то справа, то злева, то недзе за спіной чуліся паляўнічыя стрэлы.

## РАЗДЗЕЛ ЧАЦВЁРТЫ

### Баба Ліна.— Халоднае.— Агні за пераваламі

Па дарозе Аня пагубляла ўсіх сваіх спадарожнікаў, з якімі ехала ў поездзе. Палікарпаўна засталася ва Улан-Удэ, каб наведаць знаёмых. Тоха засталася ў

парту — трэба было завітаць у райком камсамола. У Кічару Аня паехала адна.

Трапіць у пасёлак аказалася нялёгка. Аўтатрасу праклалі нядаўна і яшчэ не паспелі пусціць па ёй маршрутны аўтобус. Давялося ехаць на спадарожным «Урале». Шафёр, малады чарнявы хлопец, узяўся давезці Аню толькі да эвенкійскага пасёлка Халоднае. Аня паехала, спадзеючыся, што з Халоднага яна даедзе да месца таксама «на перакладных».

Калі Аня выйшла з машыны, Рыгор (так звалі шафёра) сказаў:

— Вось пасёлак Халоднае, а там — ён паказаў на хатку, усю ў плакатах,— там савецкая ўлада.

Аня пайшла ў сельсавет даведацца наконт машыны, але той быў зачынены. Усе пайшлі на абед. У чаканні Аня блукала па бязлюдных заснежаных вулачках, бязладна ўтыканых хаткамі, што да самых вокнаў патаналі ў снезе.

Яна ступала па цвёрдай, утаптанай сцежцы, з асалодай размінаючы ногі, зацёкшыя ад доўгага сядзення ў кабіне. І здзіўлялася цішыні. Пасля грукату паяздоў, самалётаў, машын Аня быццам правалілася ў вату. На нейкае імгненне нават здалося, што яна аглухла — але храбусцеў пад нагамі снег і нешта грукнула на ўскраіне сялібы.

Аня ўзышла на пагорак і азірнулася. Перад ёю, як на далоні, ляжаў увесь пасёлак. Вялікая сяліба, хат шэсцьдзесят. З крамай, сельсаветам, па ўскраінах — фермы пушной гаспадаркі. Пасёлак, з усіх бакоў абкружаны гарамі і лесам, стаяў ля самага падножжа хрыбта. Паміж хрыбтом і сялібай пад тоўстым покрывам снегу ляжала скаваная лёдам рачулка. Праз яе на стромкую лясістую гару вяла сцяжынка, зусім свежая, відаць, нядаўна пратаптаная. Аня падумала, што, мусіць, шмат сцяжынак засталося ў тайзе і гарах, пратаптаных эвенкамі старадаўняга кіндзігірскага роду, патомнымі забайкальскімі качэўнікамі. Дзесяцігоддзі назад спусціліся яны з гор і тут аселі, выбраўшы зацішнае ад вятроў месца. І назвалі сялібу так, як і сцюдзёную горную рачулку, што працякала побач. Ведала Аня і тое, што зусім нядаўна тут канчалася аўтамабільная дарога ад Ніжнеангарска. Але з прыходам БАМа аўтатраса пабегла далей на ўсход. Ані вельмі захацелася даведацца пра жыццё тунгусаў (так звалі

эвенкаў раней) як мага болей, убачыць іх, пагаварыць з імі.

Мароз мацнеў. Страшэнна азябнуўшы, яна зайшла ў краму. Звычайны сельмаг, у кожнай вёсцы такія. Прадаўшчыца параіла Ані пайсці ў хатку, што стаяла насупраць крамы, каб абагрэцца і паслухаць расказы старой рыбачкі. Старая, якую тут усе называюць «бабай Лінай», любіць гасцей прымаць дый пагаварыць любіць. Таму што адзінокая,— так сказала прадаўшчыца.

Аня зайшла ў хатку. Пасярэдзіне стаяла руская печ, ад яе ішоў цёплы дух. Насупраць печы — стол. За перагародкай праз няшчыльна зашморгнутую фіранку былі відаць табурэткі, засланыя аленевымі шкуркамі з арнаментам. Бадай, толькі гэтыя аленевыя шкуркі і былі адзінай прыкметай таго, што гэта сібірская таежная хаціна. Усё астатняе было так, як усюды, па-сучаснаму. І гэта крыху здзівіла Аню, нават расчаравала.

Старая сустрэла госцю так, нібы толькі ўчора з ёю развіталася. Баба Ліна сапраўды аказалася гаваркой. Проста і добра было Ані. Ля стала, накрытага клятчастай цыратай, яна слухала старую рыбачку.

— Вазьму кніжку, пагляджу малюнкі, а чытаць жа я не ўмею. Дый вочы мае папсаваныя,— расказвала баба Ліна.— Цяпер як рыбу ловяць? На маторцы, ледабуры ёсць. А мы на лодцы, на руках, на грэбя́х ездзілі. Як жабы скакалі ў вадзе. Знабіліся людзі. Я раней марозу не адчувала, ніколі рукавіц не надзявала, а цяпер рукавіцы трэба. Рукі баляць, грудзі баляць... Гэта ж усё жыццё так. Ледзь мора ўстае — мы напагатове. Толькі на лёд і глядзім. Як зашавеліцца — дык і рыбачым. Круглы год з вады не выходзім, акрамя зімы. А вада толькі ўлетку цёплая. Выйду на бераг — ногі нічога не разумеюць, вочы крывёй наліваюцца. Нічога не бачыла. Надта ад снегу кепска было, сляпіў снег. Мылам вочы прамывала, чырвоную анучку прыкладвала. Усё роўна гараць мае вочы, агнём гараць. Можа, мылам папорціла, хто яго ведае. Вось не бачу цяпер. Жылы баляць, рукі баляць... Мне семдзесят чатыры толькі, а ўжо я прапала...

Аня ўважліва прыгледзелася да старой. Усё на ёй было заношанае. Цёмна-бардовая хустачка шчыльна закрывала лоб, а зверху другая, светлая, з вузельчы-

кам пад падбародкам. Зацыраваная зялёная кофта, доўгая цёмная спадніца, буркі-самаробкі. Бедна, але апранута цёпла, па сезону. А пальцы ў яе скурчаныя, ці то ад падагры, ці то ад вечнай работы ў ледзяной вадзе. Вузлаватыя, натруджаныя рукі ў рыжым рабацінні. Твар цёмны, таксама ў рабацінках. Нос вялікі, вочы ледзь раскосыя, скулы на вузкім твары. Хоць і руская баба Ліна, а ўсё ж па раскосых вачах і па скулах відаць прымешка тунгускай крыві.

— Рыбачыць мне была ахвота, хоць і ўсяк даводзілася. Дзе на карчагу лодкай наляціш, а то за якар зачэпішся... якараў на дне мора шмат ляжыць: іх на дно кідаюць, каб не заліло баркас. Мы невадам рыбачылі. У нас былі вешалы, мы на іх сеткі сушылі; катарыя з дзіркамі — адкідвалі або цыравалі. Потым адпачывалі. Гадзіннікаў не было. Па сонцу жылі. Уначы сеткі ставілі. Потым вогнішча палілі. Для сябе адзін невад выбярэм, апчаны́ смажым, омуляў, значыць, на вятру падсохлых. Гэта ўначы, на вогнішчах, каб весялей было. Хто юшку з омуляў варыць, хто смажыць тулу́н... На золку, ледзь развіднее, ускоквалі сеткі глядзець. Аднойчы пад зыб выбіралі сеткі, хутчэй зняць трэба было, каб да шторму паспець. А ўжо цягне баркас на бераг. Ну, думаем, выкіне нас, разаб'е ўшчэнт. Пачалі мы з усяе сілы грэбці, каб з мора ў Кічару трапіць. І тут як заштарміла-а-а!.. Дзякуй, муж мой умеў лодку ўпоперак хвалі ставіць. Гэта летам было. Летам вада цяжэле, спакайней. А ўвосень лёгкай бывае, вось тады штарміць! Раз нашу лодку ўсё ж выкінула. Усяк бывала...

Слухаць бабу Ліну цяжка. Скажа два-тры словы — і ў грудзях у яе быццам лопне штосьці, як паветраны шар. А голас рыпучы!.. Бранхітны кашаль перашкаджаў ёй гаварыць. Здавалася, што старой не хапае паветра, і каб не задыхнуцца, пасля кожнага прыступу кашля, яна спынялася і заглытвала паветра зноў. Яна нагадвала рыбу, выкінутую з вады на бераг. Каб лягчэй было гаварыць, старая выбірала кароткія сказы, і таму мова атрымлівалася адрывістай. Аня адчула вялікі жаль да бабы Ліны.

— Байкал шыбка не шуміць летам. А ўвосень ён страшны. Вада астывае, падымаецца. Калі мора поўнае, тады зусім страшна. Мы на тым баку рыбачылі. А тут мора спакойнае: ці то месца ніжэй, ці, можа, дно глеіс-

тае, ці меней вады стала? Цяпер вада роўная. І зіма цёплая. Такіх маразоў няма, як бывала. Раней у лістападзе ўжо чуем: трашчыць Байкал, садзіцца лёд. А цяпер мора ў палове снежня застывае...

Раптам баба Ліна змоўкла, убачыўшы Аніну шклянку з недапітым чаем.

— Чайку вы так і не папілі,— схамянулася старая, гледзячы на Аню з дакорам: маўляў, не падабаецца табе ў мяне.

Аня так заслухалася, што і забылася на чай. Яна ўзялася за шклянку.

— Ды ён астыў ужо, я гарачага падалью,— узрадавалася старая і зноў замітусілася, да пліты пайшла, каб чайнік зняць.

Аня піла бледны, але гарачы чай з варэннем, а гаспадыня адтопленае малако. Толькі яно, па яе словах, карысна для страўніка.

— Раней мы ў Заімцы жылі, за морам,— вяла далей свой расказ баба Ліна, маленькімі глыткамі адпіваючы малако.— У нас невялічкая хацінка была. Як ставілі? Там сушняк быў. З гэтага сушняку мы рабілі плахі, ставілі хаціну. Метра два з паловай усяго. З печкай паставілі. Стол, ложак, печка, куратнік тут жа. У нас была ралля. Карчажнік, пясок, каменне. Секлі секачамі зямлю. Цвёрдая. Ударым секачом — ён і адскочыць. У мяне рукі адсыхаюць цяпер. У нас конь маладзец быў. Усю зямлю разараў. Мы з бацькам на кулака рабілі. А потым не захацелі. Рашылі рыбачыць. Селі ў лодку і ўверх па Ангары падаліся. У Душкачан. Так і жылі. Маці дома з малымі дзецьмі засталася, а мы з бацькам усё ў моры жывём. У яго нага пасечаная была, не мог хадзіць далёка. Я ўсё жыццё з бацькам была, яго не пакідала. Працавала, рыбачыла, усю сям'ю карміла. А што зробіш? Не было каму нават дроў насячы. А я ж самая старэйшая. Вось і выпала мне... Раней патрэбілаўка была. Собаля і рыбу людзі ў калгас здавалі. Кіло рыбы за трыццаць капеек. У дваццаць адзін год я толькі замуж пайшла... Рана тут старэюць і рана паміраюць. Трыццаць пяць, сорак гадоў — і паміраюць. Я тут самая старая. Адна засталася. А якая мне радасць? Адны хваробы. І вось на пенсіі. Нішто, жыву сабе. Клара, меньшая дачка, дапамагае. У клубе касірам робіць, у Ніжнім (Аня ўжо ведала, што мясцовыя жыхары так называюць Ніжнеангарск). Адна жыве, га-

ротніца, з унучкам. Самой не хапае. Зяць пайшоў ад яе. Піў, гуляць хадзіў... Рэўнасць замучыла яе. Увесь час дакарала яго. Ён і пайшоў. Сама вінавата. Жонка цярпець павінна.

Баба Ліна па-старэчаму трасе галавой, і рукі ў яе трасуцца.

— З Душкачана мы ў Казлова жыць пераехалі. Вёска такая ёсць. Банда Дуганава там была. Шмат людзей перабілі, і Казлова забілі, ён савецкую ўладу там ствараў. Вось яго імем і назвалі вёску. Мы тады яшчэ ў Заімцы жылі. А з Казлова мы сюды пераехалі. Так і засталіся тут. Цяпер у Халодным жывуць тунгусы і рускія. А раней бураты. Бураты адразу ж раз'ехаліся, не спадабалася ім тут. Цяпер мы ў іх дамах жывём. Самыя добрыя дамы. Тунгусы — горныя людзі. Качавалі, у стойбішчах жылі. У лесе на гары іх юрты стаялі. І на рацэ Халоднай стаялі. Там процьма галубіцы была. Шайдакі́ — так называлі іх стойбішча. Некалькі год там стаялі. Гэта калі ў нас ужо першая машына з'явілася. У Халодным шмат тунгусаў, але яны прышлыя, нетутэйшыя. А з гор адна тунгуска і засталася. Усе памерлі або пайшлі адсюль. Не змаглі прывыкнуць да аднаго месца. Усё жыццё качавалі ж. Дзяцей у зыбках да аленяў прывязвалі з аднаго боку, а клункі — з другога, для раўнавагі. Кавалкамі аленевай шкуры іх прыкрыюць — ніколі не змерзнуць. Мой стары качаваў з імі. І здзіўляўся. Як могуць? Агеньчык у юрце ўсю ноч дыміць. Ён спаць не мог, а яны спяць сабе...

Баба Ліна гаварыла з ахвотай, і здавалася, яе не спыніш. Расказвае і ўсё падлівае ў Аніну шклянку гарачы чай, падсоўвае госці то варэнне малінавае (ягады сама ў тайзе збірала), то малако адтопленае (сама яго ў печы таміла), то жытні хлеб з маслам. Ніхто не праміне яе хацінку, ідуць да яе людзі, каб сагрэцца пасля дарогі, падсілкавацца. Са сваім прыходзяць. Ды і ў гаспадынькі заўсёды што-небудзь знойдзецца. Любіць старая людзей, мілы чалавек і надзвычай гасцінны.

Аня загаварыла пра БАМ. Хацелася ёй ведаць, ці спадабаецца халодненцам тое, што магістраль побач пройдзе. Але баба Ліна ўхілілася ад прамога адказу:

— Я чалавек непісьменны. Пра БАМ нічога не ведаю.

І Аня зразумела, што старая хітрыць, праўду гаварыць не хоча. І ўсё ж баба Ліна расказала.

— У нас рака Халодная. Раней моста не было. Мы брадзілі цераз гэтую рэчку. Шышкі збіралі. У верасні. Зімой жа лускаць ахвота! На тым беразе кедраў шмат было. Шышкі ветрам збівала. Як вецер пройдзе — дык два ці тры броды рабілі цераз Халодную. Спярша людзі, потым мядзведзь збірае, што знойдзе на зямлі, людзьмі ці ветрам збітае. У людзей шасты былі шышкі збіваць, колаты іх называлі. Бывала, дзеці ў школу — а я за шышкамі. Яны, шышкі гэтыя, за дрэва моцна трымаюцца, не заўсёды саб'еш. Тады мы трасем, трасем, калоцім, калоцім — і самі падаем замест шышкі,— баба Ліна засмяялася бяззубым ротам.— А бывае, на галаву ўпадзе. Але гэта нішто. Абы шышка была.

Старая памаўчала.

— А цяпер... якая шышка цяпер? БАМ спілаваў. Катора была, мядзведзь сабраў. Узяць мост той жа. БАМ разбурыў яго і свой зрабіў. Жалезны. Хадуном ходзіць, хістаецца. Я раз ледзь не паляцела ў раку. Палову моста прайшла, а тут машына ідзе. Мост хліпкі, дрыжыць... Я паспела схапіцца рукой за слупок, стаю, падскокваю. Утрымалася ўсё ж. А які драўляны быў! Быкі былі з каменя. БАМ знёс гэтыя быкі. Гэты мост не гадзіцца. І жывёла перастала хадзіць на той бок. Страшна ёй па такім мосце хадзіць, увесь пераламаны. Рэчышча змянілі. Але Халодная не хоча там ісці, яна прама хоча. БАМ зламаў, перакруціў яе. Калі з розумам, тады добра. Раней дзеці за дваццаць кіламетраў у школу хадзілі. У Ніжні. А цяпер іх на транспарце возяць. Ці ж я супраць БАМа? Калі на карысць, тады добра.

Убачыўшы засмучаны твар Ані, якая ўжо збіралася ісці, баба Ліна сказала пяшчотным голасам:

— Ты на мяне не злуй. Кажу тое, што ёсць. А яшчэ сакратар сельсавета Ганюгін Аляксей Мікалаевіч можа шмат табе расказаць,— зноў прасвятлеўшы тварам, на развітанне сказала баба Ліна.

З машынай Ані пашанцавала. Ужо цямнела, калі ў сельсавет увайшоў той самы шафёр, які прывёз яе ў Халоднае. Пакінуўшы Аню ў пасёлку, ён вярнуўся ў Ніжні. Адтуль яго маршрут ляжаў у Кічару, і па дарозе ён рашыў зазірнуць у сельсавет, каб даведацца, ці паехала яго спадарожніца. А калі не, дык прыхапіць яе з сабой. Сапраўды, свет не без добрых людзей.

З сельсавета Аня выйшла засмучаная. Прадстаўнікі

мясцовай улады сказалі ёй усё, што набалела ў жыхароў Халоднага. І самае сумнае тое, што старшыня і сакратар мелі рацыю. Як жа ж не абурацца халодненцам, калі будаўнікі БАМа пазбавілі іх электрычнасці і тэлефоннай сувязі! Ні тэлевізара паглядзець, ні ўрокаў падрыхтаваць увечары дзеткам, ні з начальствам ніжнеангарскім звязацца. І даводзіцца сельсавету па ўсякіх пытаннях, нават дробязных, за дваццаць кіламетраў на машыне ў Ніжні ганяць. А ўсё таму, што нечыя разумныя галовы там, у Кічары, куды едзе Аня, далі загад спілаваць электрычныя і тэлефонныя слупы, высякаючы прасеку пад ЛЭП. Каб хутчэй было, каб план перавыканаць і прэміяльныя атрымаць. Цяпер толькі праз які год новыя слупы паставяць, калі БАМ сваю ЛЭП правядзе. У іншых сялібах [redacted] прыходам БАМа электрычнасць з'явілася, а ў іх наадварот.

З мостам тым жа. Адзін метр сорак сантыметраў вышыня быкоў павінна быць. А яны зверху на старыя новыя паставілі. На каменныя — жалезныя. Высока занадта! Як жа мосту не хістацца? Мост гэты вельмі патрэбен. І БАМу і геолагам. Край гэты багаты. За Халоднай на перавале поліметалаў шмат знайшлі. З тысяча дзевяцьсот трыццаць другога года геалагічная разведка вядзецца! Дый навошта камень браць на рацэ? Выберуць увесь — дно будзе глеістым. І вада забрудзілася: машыны ў ёй мыюць. Бензін, салярка расцякаюцца — рыба гіне. Звер бяжыць! Пушная гаспадарка — асноўны промысел, а самы каштоўны звер, собаль, уцёк! Чым людзі цяпер зоймуцца? Моладзь рада, што БАМ тут вядуць. Не хочуць дзеці аленяў пасвіць. І яны ўжо будуюць магістраль. А старым што рабіць? Не хочуць яны сваё рамяство кідаць, прывыклі. Дый куды ім ужо новыя прафесіі асвойваць! Эх, трэба было спярша запаведнікі зрабіць. Каб звер застаўся.

Каб неяк змякчыць вострую размову, Аня, выходзячы з сельсавета, на развітанне пацiснула руку старшыні Бароева і сказала:

— А ваша імя па бацьку, Раман Мамантавіч, вам адпавядае.

Той пачырванеў, а пажылы хударлявы Ганюгін шчыра засмяяўся і растлумачыў:

— Ён увесь у бацьку, аднак. Вялікі і дужы, як мамант.

Старшыня ўсміхнуўся і зноў загудзеў басам:

— Нядаўна бівень майго продка знайшлі на рацэ Халоднай. Побач з пасёлкам. У музей здалі.

Анін жарт удаўся. Калі яна выходзіла з сельсавета, эвенкі весела ўсміхаліся.

У дарозе сумныя думкі не пакідалі Аню пасля ўсяго, што яна пачула. І нібы дзеля таго, каб яна пераканалася ў бядзе халодненцаў, «Урал» уз'ехаў на вузкі мост, дзе дзвюм машынам не размінуцца. Увесь у дзірках, хліпенькі мост. Каб праехаць па ім, шафёр мусіў вылезці і пры святле фар закласці дзіркі ў мосце дошкамі, якія пазбівала перад гэтым другая машына. А пакуль ён латаў мост, сустрэчны «БелАЗ» сышоў на абочыну і чакаў, калі праедзе «Урал», каб потым паправіць дошкі для сваёй машыны. Гэта быў той самы мост, пра які гаварылі баба Ліна і ў сельсавеце.

Калі мост застаўся ззаду, Аня раптам успомніла шафёра, што стаяў на абочыне ля свайго «БелАЗа». Здалося, што твар шафёра ёй знаёмы. Вельмі знаёмы. Але як ні намагалася Аня, усё ж не прыгадала, хто гэта быў. Шафёр стаяў, асветлены аўтамабільнымі фарамі, барадаты, у футравай вушанцы, насунутай на вочы, у кажуху. У слабым святле фар ці пазнаеш такога зарослага ды захутанага ў футры? Вось толькі вочы, круглыя, немігаючыя, так і стаяць перад Аняй. Знаёмыя вочы. Так і не прыгадаўшы, хто гэта быў, Аня зноў аддалася роздуму аб лесё халодненцаў, забыўшыся на шафёра з яго непрыемнымі, але знаёмымі вачамі, якія чамусьці ўстрывожылі яе.

Аня падзялілася сваімі думкамі з Рыгорам, пераказаўшы ў двух словах размову ў сельсавеце.

— Нічога. Гэтыя цяжкасці часовыя,— адказаў Рыгор.— Людзі не разумеюць яшчэ, што з прыходам БАМа жыццё павернецца да іх лепшым бокам. Вось тут у лагу па правы бок аўтатрасы і пойдзе цягнік. Мы з вамі па перавале едзем. Некруты, праўда, перавал, але зімой небяспечны: дарога слізкая. Тут вельмі прыгожа. Летам вадаспады сцякаюць з гор. Цяпер яны пазамярзалі. Справа Байкал ляжыць. Ужо цёмна, не відаць. Во каб удзень... Тут адзін з вытокаў. Кічара ўпадае. Мядзведзяў шмат было. Паўцякалі ад БАМа. Халодненцы — паляўнічыя добрыя. Вось і перажываюць людзі за тайгу. Вядома, з усім прывычным цяжка расставацца. Цяпер жа ўсё іначай будзе. Многія знімуцца з якара, у Кічару паедуць. Ці доўга ім нагрузіць свае няхітрыя

манаткі на аленяў ды па таежных сцежках рушыць у дарогу? І гадзіны не пройдзе, як у Кічары будуць. Вы заўважылі, як жывуць халодненцы? Тунгусы. Яны нават у самы люты мароз прыносяць дровы толькі на адно паленне. Доўга лічылі, што яны гультаяватыя. А ім, аказваецца, рэлігія не дазваляе дровамі запасацца.— Рыгор памаўчаў.— Вас легенды цікавяць?

— Раскажыце,— папрасіла Аня, радуючыся гаварлівасці шафёра.

— Чаму ва ўсіх звяроў белае мяса ёсць? Хоць крыху, а ёсць? Гэта ад рабчыка. Некалі ён вялізны быў! А гаспадар узяў і падзяліў ад яго ўсім патрошку. І тады рабчык стаў маленькі. Затое цяпер ва ўсіх, нават у рыбы, белае мяса ёсць.

— Які гаспадар? — спытала Аня.

— Гаспадар тайгі. Які ён, ніхто не ведае. Ніхто не бачыў яго. Але ён добры. Калі паляўнічыя заблудзяць у тайзе і напаткаюць зімовішча, яны ўсё ў ім знойдуць: запалкі, дровы, хлеб, соль — адным словам, усё, каб не загінуць. Гэта гаспадар пра іх клапоціцца. Так сібіракі гавораць,— хітравата ўсміхнуўся Рыгор.

Машына грузна падымалася на гару. Фары вострымі промнямі разразалі напалам густую, ліпкую цемрадзь. У святло траплялі толькі тыя дрэвы, што стаялі абапал дарогі. Калі «Урал» апынуўся на самым грэбені, Аня раптам убачыла, як далёка-далёка ўнізе, за перавалам, замільгалі агні.

— Што гэта? — спытала яна.

— Вогнішчы дагараюць. На трасе, па якой пойдзе цягнік. Лесарубы пакінулі. Валяць дрэвы і адразу ж дробнае паляць. А буйняк тралёўшчыкі на будоўлю адвозяць.

Убачыўшы вогнішчы, Аня павесялела. Вось яна, таежная рамантыка. І падумала аб Рустамаве: «Можа, і ён цяпер паліць вогнішчы?» Ад думкі, што хутка яна ўбачыцца з мужам, усю яе ахапіла радаснае хваляванне. І дзіўна. Аня падумала пра Рустамава ў тую самую хвіліну, калі і ён падумаў пра яе, палячы вогнішчы на адхоне. Тэлепатыя? Магчыма. Толькі на прагаліне былі яшчэ прыцемкі, а ў тайзе, на дарозе, непраглядная цемра.

Вогнішчы засталіся ззаду. І зноў святло ад фар разразае напалам густую цемру. Раптам злева, як насцярожаныя фасфарычныя вочы гіганцкай рысі, праплылі

агні. І раней, чым спытаць, што гэта, Аня чамусьці зноў прыгадала шафёра, які стаяў ля моста, гледзячы перад сабой круглымі неміргаючымі вачыма. Хто ж гэта быў? Аня так і не ўспомніла.

— Бачылі агні? Гэта свяціліся вокны. Брыгада Бандарчука тут працуе. У палатцы жывуць. Усе ў пасёлак даўно перакачавалі, а яны яшчэ тон задаюць. Брыгада-казка. Можа, чулі? — спытаў вадзіцель Аню, адрываючы яе ад непрыемных думак.

— Гэта тая, у якой тэатр? — машынальна спытала Аня.

— Тая самая. Перадавая. Але не ўсё золата, што блішчыць. Пажывеце — самі пераканаецеся.— У голасе шафёра Аня ўлавіла несхаваную іронію.— Я з Бандарчуком яшчэ ў Зорным працаваў. І сюды яго брыгаду перавозіў. Ён высока ўзляцеў, але хутка чмякнецца. Ведаеце легенду аб маленькай птушачцы, якой захацелася ўзляцець да сонца? Вось так і з ім будзе.

Аня так стамілася за дарогу, што ўжо з вяласцю, ёй неўласцівай, слухала ўсё, што гаварыў Рыгор аб гэтай брыгадзе. Яшчэ толькі сеўшы ў кабіну «Урала», яна, змораная ад бясконцай дарогі і ўражанняў, раптам адчула нейкае заспакаенне, нават размагнічанасць. Вось яна сядзіць, нарэшце, у машыне, якая давязе яе да месца, і не трэба больш думаць ні пра транспарт, ні пра білеты, ні пра харчаванне, ні пра начлег. Хутка яе сустрэне Рустамаў і большую частку клопатаў возьме на сябе. Як добра, што ўсе блуканні засталіся ззаду.

Сагрэтая ў цёплай кабіне і закалыханая аднастайным шумам матора, Аня непрыкметна заснула.

Прачнулася яна ад раптоўнай цішыні. Чамусьці заглух матор, і як ні стараўся Рыгор, машыну ўсё ж не завёў. Давялося пакінуць «Урал» на дарозе, а самім вяртацца пехатой у лагер Бандарчука.

## РАЗДЗЕЛ ПЯТЫ

Апошняя палатка.—
Кухар у клятчастай кашулі.—
За чаем.— У яру

Усё, што было далей, Аня памятае як у тумане. У прасторнай салдацкай палатцы цьмяна свяціла адзінокая лямпачка. У палатцы яшчэ не спалі. Нехта пад-

вёў Аню да шырокіх, на ўсю сцяну, нараў, на якіх ляжалі спальныя мяшкі. Яна адмовілася ад вячэры і, скінуўшы з сябе кажушок, стомленая і сонная, улезла ў спальны мяшок і быццам правалілася некуды.

Раніцай не адразу сцяміла, дзе яна. Спярша пачула невыразныя галасы. Расплюшчыла вочы — і ўбачыла над сабой зялёны шацёр у белых плямах інею. Узняўшы галаву, Аня пачала аглядацца і, нарэшце, зразумела, што яна ў палатцы. У палатцы было змрочна, і толькі яркі сноп сонечных промняў падаў праз акенца на гітару, што вісела на супрацьлеглай сцяне. Галасы даносіліся знадворку. Аня правяла рукой па твары, нібы жадаючы скінуць з сябе апошнія рэшткі сну,— рука стала вільготнай. Саскочыўшы з нараў, яна сунула ногі ў чыесьці валёнкі і наблізілася да люстэрка, што вісела на сцяне. Убачыла свой твар, усміхнулася — вось яна, сібірская рамантыка: валасы, бровы, вейкі былі ў белым пушку. У процілеглых канцах палаткі стаялі дзве буржуйкі. Аня падышла да адной,— там ляжаў грудок халоднага вугалля.

Аня з цікавасцю разглядала жыллё таежнікаў. На нарах бязладна ляжалі кнігі, шахматы, напалову складзеныя рукзакі і ўжо скручаныя спальныя мяшкі. Аня падумала і скруціла мяшок, у якім спала. Пасля зноў пачала разглядаць палатку. На сцяне віселі «Камсамольскі пражэктар», які высмейваў соняў і п'яніц, і фотаздымкі з жартаўлівымі надпісамі. На адным фотаздымку — рыбалоў. Твар рыбалова здаўся Ані знаёмым. «Ды гэта ж Сярожа Казлоў!» — ледзь не крыкнула яна радасна, прыгадаўшы байца з атрада «Блакітны экспрэс», у якім яна была на практыцы яшчэ студэнткай журфака. «Няўжо ён тут, у Кічары? І сапраўды: свет цесны»,— падумала Аня. А можа, ёй здалося? І не Казлоў гэта зусім? То вочы шафёра, што стаяў ля моста, ёй знаёмымі здаліся, то рыбалоў на фотаздымку... Мусіць, у яе пачаліся галюцынацыі. Ад стомленасці. Дзіва што! Амаль два тыдні ў дарозе! Яна зірнула на гадзіннік. Стрэлкі паказвалі восем. Папраўіўшы раскалмачаныя пасля сну валасы, Аня апранулася і выйшла з палаткі-спальні.

Яна нават зажмурылася — так незвычайна, так прыгожа было наўкол. Дзве палаткі стаялі ў лесе ля падножжа сопкі. Іх раздзяляла даволі глыбокая, але вузкая расколіна, цераз яе быў перакінуты масток з

бярозавых бярвенцаў. Вокны палаткі глядзелі скрозь рэдкалессе на аўтатрасу, за якой драмаў застылы Байкал з вусцем Кічары. Гэта яны, вокны, свяціліся ўчора і здаліся Ані рысінымі вачамі. Ані ўявілася, як увесну па распадку, што праклаў сабе шлях паміж сопак, бурнай плынню сцякае горны ручай, напаўняючы расталым снегам Байкал. І грукат, пэўна, стаіць ад вадаспаду, які звяргаецца, пераліваючыся ўсімі колерамі вясёлкі, грымучым рэхам аддаючыся ў гарах. Але цяпер было ціха, усё стаяла застылым, патанаючы ў белым, пульхным, бліскучым ад сонца снезе. І Аня адна ў гэтай спрадвечнасці. Як у казцы. Прачнулася Беласнежка — анікога няма, усе гномікі ў лес працаваць пайшлі. Параўнаўшы сябе з Беласнежкай, Аня ціха засмяялася.

Перайшоўшы масток і абмінуўшы летнюю кухню, яна пайшла па глыбокім снезе. Снег маннымі крупамі рассыпаўся пад нагамі. Даводзілася высока ўзнімаць ногі, каб «крупы» не насыпаліся ў валёнкі. Узышоўшы на невысокі пагорак, Аня ўбачыла ўвесь лагер. За палаткамі стаяла маленькая пераносная электрастанцыя. Ля яе завіхаліся людзі, пэўна, збіралі яе для перавозкі. Унізе, на аўтатрасе, скрозь дрэвы былі відаць два грузавікі, крытыя брызентам, ля іх стаяў натоўп людзей. Аня хацела спусціцца да іх, але тут з палаткі-сталовай выйшаў чалавек у клятчастай кашулі і паманіў яе пальцам. Калі яна падыходзіла да сталовай, адтуль пацягнула мясным булёнам. Аня зразумела, што яе клікалі снедаць. Прыгадаўшы, што ўжо некалькі дзён не ела нармальнай стравы, пайшла ў палатку.

Чалавек у клятчастай кашулі назваўся Ільёй. Ён ужо накрываў сталы на ўсю брыгаду. Ад Анінай дапамогі далікатна адмовіўся, і тая ў чаканні сняданка хадзіла па палатцы, разглядала яе і слухала гаваркога кухара, які аказаўся пажарным інспектарам тайгі. У брыгадзе ён праводзіў свой адпачынак, часова замяніўшы галоўную кухарку, якая была ў ад'ездзе. Кухар паведаміў Ані, што ўсе брыгады з першымі замаразкамі пераехалі жыць у пасёлак, а на работу іх возяць. Толькі «бандарчукі» з палаткай расставацца не пажадалі, але надышла і іх чарга. Надта ж мароз стаў пякучы, а потым не так яшчэ ўдарыць. Сёння яны будуць знімаць палатку. Расказаў ён Ані і пра тое, што пазнаёміўся з Бандарчуком яшчэ ў Зорным, і калі даве-

даўся, што брыгада едзе ў Кічару, паравёўся на працу бліжэй. Праўда, праца ў яго такая, што часта даводзіцца бываць у адлучцы. Але ўсё роўна, яны будуць кача-ваць усе разам. І Тоха таксама.

«Тоха... Ці не тая гэта дзяўчына, што ехала ў поез-дзе?» — падумала Аня. А кухар працягваў:

— Тоху ўзнагародзілі пуцёўкай у Японію за тое, што смачна гатуе і артыстка добрая. Хай дзяўчына адпачне і свет пабачыць. А працаваць замест яе мне няцяжка.

І расказаў Ілья, як Тоха ў летняй кухні кашаварыла, калі брыгада толькі прыехала сюды. Сталовай яшчэ не было. Толькі спальня-палатка, дый тую паставіць яшчэ як след не паспелі, без сценак стаяла. Усе працаваць пайшлі на прасеку. Тоха адна засталася. Раптам бачыць — мядзведзь спускаецца з сопкі. Схавацца няма куды. Што рабіць? На дапамогу зваць? Далёка, не пачуюць. Бегчы Тоха таксама не стала. І прыгадала яна, што мядзведзі нібыта бразгання баяцца. Пачала яна нажом па бляшанай бочцы пастукваць, спадзеючыся такім чынам напалохаць мядзведзя. Але гаспадар тайгі нават увагі не звярнуў ні на Тоху, ні на яе «музычны інструмент», а спакойна ішоў да памыйніцы. З'еў тухлую рыбу і пайшоў далей, нават не азірнуўшыся. Тоха і напалохацца не паспела.

Аднойчы пачуў Ілья страшэнны віск у сталоўцы. Убег у палатку і бачыць — стаіць Тоха на лаўцы з паленцамі ў руках, плача і прыгаворвае: «Што ты дзень з ноччу пераблытала!» Гэта яна на мыш так. І шпурляе паленцы ў кут, куды мыш схавалася.

— Вось якая наша Тоха... мядзведзя не спалохалася, а мышы...— Ілья добразычліва засмяяўся.

«Ці не закахаўся ён? — падумала Аня.— З языка яе не спускае». Пра што б ён ні казаў, неяк атрымлівалася, што без Тохі і жыцця нібы няма. І Аня прыгадала абаяльны твар невысокай дзяўчыны з вялікімі і чамусьці сумнымі вачамі. І зноў незразумелая трывога варухнулася ў Аніным сэрцы.

— Яна хутка прыедзе. У Ніжнім затрымалася. Я з ёю ў поездзе ехала,— сказала Аня.

— Няўжо?..— радасна схамянуўся Ілья.— Так, так! Яна павінна хутка быць...— чамусьці разгубіўся ён.

І калі б у палатцы было крыху святлей, Аня ўбачыла б, як сарамліва пачырванелі яго шчокі. Але яна і

без таго ўжо здагадалася, і каб не бянтэжыць чалавека, завяла гаворку на другую тэму.

— У вас працуе Сяргей Казлоў? — спытала яна.

— А вы яго ведаеце? Так, гэта ваш, беларус. Ён з брыгады Бандарчука. У Зорным быў манцёрам пуці, а зараз працуе цесляром на «самбудзе». Скажу вам па сакрэту: ён нядаўна ажаніўся і часова працуе на «самбудзе», каб больш заставалася часу для будаўніцтва сямейнага катэджа. У нашай брыгадзе... даруйце, я кажу «нашай» таму, што мяне ўсе тут лічаць за свайго... у нашай брыгадзе ўсе перажаніліся. Толькі два халасцякі засталіся: я і Тоха,— сказаў Ілья і зноў пачырванеў па самыя вушы, сарамліва ўсміхнуўся.

Неўзабаве ў палатку набегла шмат людзей, сярод іх — тры маскоўскія кіношнікі. Усе з апетытам елі гарачы наварысты суп, у кожнага ў місцы плаваў вялікі кавалак мяса. А потым, апякаючыся, пілі з вялікіх эмаліраваных кубкаў чай з цукрам і пячэннем.

За чаем усё і пачалося.

— Ну што ж, пачнём. Сёння на парадку дня паводзіны Ігара Зарубіна,— сказаў рослы смуглявы хлопец з чорнай цыганскай барадой.

«Выліты Прохар Громаў»,— сама сабе адзначыла Аня.

— Гэта брыгадзір,— шапнуў ёй Ілья.

Голас у Бандарчука басавіты і глухаваты, ці таму, што гаварыў у бараду, ці мо ад прыроды такі. Гаварыў нетаропка, нешматслоўна. З яго выступлення Аня зразумела, што юнак з Ніжнеангарска, Ігар Зарубін, самы малодшы сярод лесарубаў і ўзялі яго ў брыгаду на перавыхаванне па просьбе яго маці, якая працавала бухгалтарам і калі-нікалі прыязджала ў атрад рабіць рэвізію. Прайшоў месяц пасля таго, як юнака ўзялі ў брыгаду, але вынікаў пакуль што ніякіх. Ён па-ранейшаму грубіяніць, хлусіць, позніцца на працу, прыкідваецца хворым. З юнаком гаварылі неаднойчы. Вось і цяпер сабралася ўся брыгада для таго, каб пасля новай хлусні вывесці хлопца на чыстую ваду і «мазгі яму ўправіць». Некалькі дзён таму назад Ігар знік з лагера, а калі вярнуўся, сказаў, што быў дома ў маці і там захварэў. А калі ў яго запатрабавалі бальнічны ліст, ён яшчэ раз з'ездзіў у Ніжні, але вярнуўся без бюлетэня. Бандарчук гаварыў з маці, але тая са слязьмі сказала яму, што нічога не ведае пра хваробу сына, што дамоў

ён не прыязджаў. Потым высветлілася: Ігар «біў лынды» са сваімі сябрукамі і ўсё скончылася п'янай бойкай, за што хлопец трапіў у міліцыю.

Бандарчук быў мяккі. Ён сказаў:

— Ты праспаў і прагуляў трыццаць тры гадзіны. Але ў цябе яшчэ ёсць час іх адрабіць. Адробіш — атрымаеш свае грошы. А не — вылічым за прагул.

Пасля Бандарчука па чарзе выступалі ўсе, хто быў у палатцы. Усе, апрача Ільі, Ані, маскоўскіх кіношнікаў і... Сяргея Казлова.

Аня пазнала яго. Ён сядзеў за сталом ля супрацьлеглай сцяны палаткі. Быў змрочны, як і ў той дзень, калі яго вось гэтак жа распякалі ў будаўнічым атрадзе «Блакітны экспрэс» за тое, што не прыйшоў начаваць у лагер. У той дзень камандзір атрада Віктар Дзергачоў быў жорсткі і бязлітасны, ён пагражаў выгнаць яго з атрада і выключыць з камсамола. Магчыма, і Сяргей зараз прыгадаў той дзень...

Аня пільна ўглядалася ў Казлова, і той, адчуўшы на сабе яе позірк, узняў галаву. Сустрэўшыся з Аняй вачыма, заўсміхаўся, ветліва кіўнуў. Але не здзівіўся, убачыўшы яе, і Аня падумала, што Сяргей, пэўна, ведаў аб яе прыездзе.

Сход працягваўся. Ён быў падобны на той, як шмат гадоў назад у будаўнічым атрадзе, але і нечым не падобны. І Аня зразумела, тады ўсё было натуральна і кожны выказваў свае думкі. А тут гаварылі, як па нотах, быццам кожны загадзя вывучыў сваю партыю.

Спачатку ўсё ішло, як у добра наладжаным ансамблі. Хлопцы з абурэннем гаварылі Ігару, што ён тут не адзін і павінен лічыцца з калектывам, што ён сапсаваў брыгаду і ў апошнім квартале з-за яго не выйшлі на першае месца.

Потым выступаў каржакаваты мужчына з жорсткімі блакітнымі вачамі і рашучым падбародкам.

— Гэта прараб Чубакоў,— зноў шапнуў Ані Ілья.

Аня зацікаўлена слухала напорыстую прамову Чубакова. А той так расхвальваўся, што нейкі час не мог гаварыць, і толькі вочы яго нібы свідравалі хлопца.

— Табе яшчэ няма васемнаццаці... Цябе ўзялі ў самую лепшую брыгаду, брыгаду-казку! Гэта ж пашана якая! Далі табе магчымасць выправіцца, чалавекам стаць, а ты... Вось мы тут усе сабраліся з-за цябе. Тан-

цуем перад табой. Вось скажы ты мне, дзіва ў гарохавых штанах, ці доўга ты нас будзеш мучыць? Не сорамна табе? Мы ж зараз працаваць павінны, павінны быць на трасе. Няўжо ты нічога не разумееш?.. Дасі ты, нарэшце, усім спакойна працаваць ці не?..

У палатцы стала вельмі ціха. Усе глядзелі на панурага юнака, чакаючы, што ён адкажа. Але Зарубін упарта маўчаў. Астываў у кубках чай, усе забыліся на яго. Усе чакалі. І ў гэты напружаны момант у акно раптам пырснулі нясцерпна яркія сонечныя промні. І ці то ад сонца, ці то ад цяпла ў нагрэтай людзьмі палатцы іней на століі пачаў раставаць і закапаў на драўляны стол. І нéяк не вязалася гэта яркае сонца і вясёлы капеж з панурым Зарубіным, са строгімі тварамі яго таварышаў і разгубленымі кіношнікамі, якія чакалі зусім іншага. Зарубін упарта маўчаў. Тады загаварыў доўгавалосы чалавек з прыемным інтэлектуальным тварам, які нагадаў Ані разначынца шасцідзесятых гадоў мінулага стагоддзя. Гэта быў рэжысёр маладзёжнага тэатра Анатоль Бітаў. Аня пазнала яго па фатаграфіі, якую бачыла ў газеце «Паўночны Байкал» у Ніжнеангарску. Бітаў гаварыў спакойна:

— Цяжкі ты чалавек, Зарубін. Ты ў нас ужо месяц. Шкада, што нічога пакуль не зразумеў. Але з брыгады мы цябе не выключым. Будзем выхоўваць.

Аню не пакідала непрыемная думка, ёй здавалася, што ўся гэта сцэна з перавыхаваннем Зарубіна была загадзя распрацавана і адрэпеціравана для маскоўскіх кіношнікаў. Вось толькі галоўны герой усіх падвёў. Па сцэнарыю Зарубін, мусіць, павінен быў пакаяцца. Чубакоў перажываў, бо яму, відаць, было непрыемна перад людзьмі з кінастудыі. А Зарубін з'едліва ўсміхаўся. «Чаму ён такі нахабны і нічога не баіцца?» — думала Аня. Ёй прыгадаўся Віктар Дзергачоў, які рабіў у атрадзе ўсё, што яму хацелася. Але ў таго за плячыма, як потым высветлілася, стаялі дырэктар вучылішча і зампаліт. Можа, і ў Зарубіна ёсць падтрымка? Ці сапраўды яму на ўсё напляваць? А мо пераходны ўзрост?..

Пакуль Аня разважала, намагаючыся разабрацца ва ўсім, што бачыла і чула ў гэтую раніцу, частка брыгады разам з раззлаваным Чубаковым паехала на трасу. Некалькі чалавек засталося скручваць палатку. А Бандарчук, Казлоў, яшчэ адзін лесаруб і тры маскві-

чы палезлі на сопку рабіць кіназдымку. За імі пайшла і Аня, каб там, на сопцы, правесці час да ад'езду ў Кічару. Дый цікава было: ці ж такое ўбачыш? Падняўшыся па глыбокім сыпкім снезе на круты адхон, усе апынуліся на прасецы, высечанай пад ЛЭП. Аня спынілася, каб аддыхацца, і пачала аглядацца наўкола. Бялюткі снег казачна іскрыўся на сонцы. Але затоена і маўкліва стаялі сопкі, якія раптам наблізіліся; магутныя кедры, лістоўніцы, піхты, што раслі ўздоўж высечкі, панура глядзелі на Аню. Яна зірнула ўніз, у распадак, які раздзяляў дзве сопкі. Распадак быў глыбокі і шырокі, па яго дне пралягала прасека. Смела ўзбегшы на суседнюю крутасць, яна ўпіралася ў неба.

Аня адпачывала, а ўсе ўжо спускаліся ў яр на самае дно распадка. Па крутым схіле ды глыбокім, па пояс, снезе, ісці было немагчыма. І таму рашылі скарыстаць альпінісцкі прыём: з'ехаць уніз на «пятай кропцы». Першым спусціўся такім чынам Бандарчук, за ім кіношнікі, трымаючы над галавой кінакамеры. Шаснаццацікілаграмовую бензапілу над галавой не ўтрымаеш, і таму Казлоў і яго напарнік даволі доўга спускаліся ўніз, асцярожна трымаючы ўдвух неад'емны атрыбут лесаруба.

Аня стаяла наверсе. З абрыву людзі здаваліся маленькімі кропкамі. Неўзабаве яна пачула стук сякеры, ад якога разносілася звонкае на моцным марозе рэха.

Аня спачатку пайшла, але потым, не ўтрымаўшыся на нагах, села ў снег і з'ехала па адхоне, уздымаючы фантаны серабрыстага снежнага пылу.

А Бандарчук тым часам падышоў да лістоўніцы ў два абхваты. Яго «Дружба» лёгка ўвайшла ў ствол. Дрэва пахіснулася. Жаласна, быццам рвалася жывая плоць, затрашчала недапілаваная драўніна; потым дрэва, набіраючы хуткасць, пачало імкліва падаць, ломячы суседнія бярозкі; прашамацеўшы лістотай, глуха ўпала ў снег, узвіхрыўшы яго над сабой. Ад удару здрыганулася зямля ды рэха пракацілася ў сопках.

Бандарчук падышоў да другой лістоўніцы. Кіношнікі, студэнты-выпускнікі інстытута кінематаграфіі, яны рабілі дыпломную работу, заходзілі то справа, то злева, наводзячы на пільшчыкаў кінааб'ектывы.

Аня ўжо была ў яру. Яна бачыла, як, люта ўзвыўшы, бензапіла Бандарчука прагна ўгрызлася ў здаровы ствол. Чырвонае пілавінне, нібыта кроў, пырснула з

кары. Аня нервова сцепанулася: ёй ніколі не даводзілася бачыць, як пілуюць лістоўніцу, не ведала яна і таго, што кара ў гэтага дрэва ўсярэдзіне чырвоная. Спілаваная лістоўніца ўпала на паваленае дрэва. Адубелы на трыццаціградусным марозе ствол пераламаўся з такім звонам, быццам разбілася шкло.

Бандарчук, апусціўшы бензапілу, выціраў спацелы лоб. Аня падышла да яго.

— Не шкада? — спытала яна з дакорам.

— Сухастой не, а гэта... у імя мастацтва,— з усмешкай адказаў Бандарчук.

Потым падалі кедры.

— Нам па чану строга не дадуць? — раптам спытаў Граф, або Казлоў.

— За што? — пацікавіўся Бандарчук.

— За кедры. Мы ж прасеку пад ЛЭП даўно высеклі. А гэтыя ўбаку, нікому не заміналі. Дарэмныя ахвяры.

— Не хвалюйся, Граф. Я адказваю. Мой чан вытрымае. Ну, валі! Твая чарга. Выбірай любое дрэва ды папрыгажэй!

Казлоў выбраў засохлы кедр, без макаўкі, без галін, быццам хто абчасаў яго. І як ні ўпрошвалі Сяргея выбраць здаровае дрэва, ён наадрэз адмовіўся.

Калі вярнуліся ў лагер, паабедалі, і неўзабаве «Урал» разам з брыгадным інвентаром, лесарубамі, Аняй і кіношнікамі паехаў у пасёлак.

У дарозе Аня запыталася ў Казлова, чаму яго Графам называюць. Сяргей сарамліва растлумачыў:

— Казлоў — прозвішча невязучае. Памятаеце, колькі бяды ў мяне было ў будаўнічым атрадзе? Мне хлопцы яшчэ тады параілі: змяні, кажуць, козлік, сваё прозвішча, інакш усё жыццё будзеш казлом адпушчэння. А тут выпадак дапамог. Калі ў Сібір прыехаў, доўга не мог на новы час перастроіцца. На працу спазняўся, бо пазней за ўсіх уставаў. Вось тады хлопцы пачалі будзіць мяне такімі словамі: «Падымайцеся, граф, вас чакаюць вялікія справы!» І дапамагло. З тае пары мяне Графам і называюць.

Грузавік спыніўся, каб высадзіць «бандарчукоў» на трасе, дзе на ўсю моц вылі бензапілы, бухалі сякеры, палалі вогнішчы.

І Аня сказала:

— Злазьце, Граф, вас чакаюць вялікія справы!

— Мы яшчэ сустрэнемся, Аня! — крыкнуў Казлоў.

## РАЗДЗЕЛ
## ШОСТЫ

### Кічара, або Камсамольск-на-Байкале.— Кедр.— У брусчатым дамку

Аня адлажыла ўбок тоўстую кнігу ў вішнёвай вокладцы, на якой золатам было выціснута — «Мужнасць». І задумалася. Моладзь трыццатых гадоў будавала Камсамольск-на-Амуры і ўжо тады марыла пра БАМ. І дарогу пачалі будаваць. Але перашкодзіла вайна. У ліхую гадзіну першыя ўкладзеныя рэйкі былі зняты і адвезены да берагоў Волгі, каб па іх перапраўляць ваенныя грузы на фронт. А потым яшчэ некалькі разоў прыступалі да будаўніцтва магістралі. У 1974 годзе, разумеючы, якое вялікае значэнне для ўсёй краіны мае гэта дарога, за яе ўзяліся зноў.

Разгарнуўшы карту, Аня прасачыла за тоўстай ломанай рысай — гэта Байкала-Амурская магістраль, яна перасекла ўсю Паўночную Сібір і Далёкі Усход. Сталёвыя рэйкі працягнуцца на тысячы кіламетраў! Дарогі пралягуць цераз вечную мерзлату, балоты, наледзі, горныя хрыбты, перавалы, упадзіны, цераз тысячы рэк, вялікіх і малых. Колькі трэба будаваць мастоў, прабіць тунеляў! Працаваць у люты мароз і раз'юшаны вецер, у спёку і ліўні, церпячы гнус, змагаючыся з таежнымі пажарамі і паводкамі, якія зносяць нават масты. Будаўнікі чыгунак яшчэ не ведалі такіх цяжкасцей, якія выпалі на долю бамаўцаў. Ці, можа, толькі ў мінулыя часы, калі пракладвалі вялікі Сібірскі шлях. Не ўсе тады вытрымлівалі — многія гінулі, а расчараваныя пакідалі Сібір, хаця ў тую пару менш складаным было будаўніцтва, таму што не прабівалі тунелі і дарогу вялі ў абход гор. А цяпер дарога пройдзе скрозь скалы. Пры сённяшняй тэхніцы, умовах ды маладым камсамольскім запале можна і горы зрушыць! І іх зрушваюць! Затое потым якая дарога будзе! Уздоўж яе вырастуць пасёлкі і гарады, заводы і руднікі, будуць узараны і засеяны новыя землі. І таму патрэбны станцыі. Іх будзе шмат, вельмі шмат, вялікіх і маленькіх раз'ездаў і станцый.

Заплюшчыўшы вочы, Аня ўявіла, як цягнік з захаду імчыць на ўсход. Вось ён ненадоўга спыніўся на беразе Байкала і, як страла, рвануўся далей цераз Ніжне-

ангарск, Кічару... Стоп! Кічара. Аня глядзіць на карту. Такой станцыі пакуль яшчэ няма. Але яна будзе! І, знайшоўшы на карце блакітны ражок Байкала, Аня паставіла на яго паўночна-ўсходнім беразе тоўстую чырвоную кропку, як гэта зрабіў герой у рамане «Мужнасць», паставіўшы такую ж кропку на беразе Амура.

Ці патрэбна такая станцыя? — разважала Аня. Патрэбна. Тут, у Забайкальскай тайзе, знойдзена шмат каштоўных поліметалаў. На перавале за пасёлкам Халодным, дзе яна пабывала, ужо вядзецца разведка цынку і свінцу. Тут, на бурацкай зямлі, знойдзены запасы рассыпнога і руднага золата. А колькі яшчэ каштоўных выкапняў тоіць у сабе зямля! Колькі работы геолагам! Станцыя тут патрэбна.

А дзе станцыя, там і пасёлак. Кічара — ужо не «белая зямля», а запаветная. Гэта пасёлак, хоць яшчэ і не дабудаваны.

Вось ужо тры дні, як Аня жыве ў пасёлку. Атрад прыехаў вясной, а цяпер лістапад. Паўгода прайшло, як высадзіліся камсамольцы ля таежнай ракі Кічары. І цяпер не пазнаць тайгі. Рустамаў вадзіў Аню па пасёлку і з гонарам паказваў усё, што людзі зрабілі за мінулыя паўгода. Інтэрнаты, сталовая, крама, школа, кацельня, спартыўная зала, склады, шчытавыя дзевяціквартэрныя дамы, траншэі для цеплатрасы. Свая дызельная электрастанцыя.

Пасёлак будуецца выспачкамі. На адной выспачцы — інтэрнаты, на другой — магазін і сталовая, на трэцяй — жылыя катэджы. І ўсё гэта ў хвойніку, які не высякаюць, каб прыгажэй было. Як грыбы растуць новыя аб'екты — лазня, клуб, дзіцячы сад... Ці тое яшчэ будзе!

Пасёлак стаіць ля аўтатрасы, па другі бок якой высякаюць прасеку для чыгункі. Калі правядуць дарогу, тады на беразе Кічары, якая ўпадае ў Байкал, пабудуюць станцыю з бетанаваным перонам, вакзалам, кіёскамі.

Пра ўсё гэта расказваў Ані Рустамаў. «І як цудоўна,— падумала яна,— што камсамольцы рашылі назваць свой пасёлак — «Камсамольск-на-Байкале».

Рустамаў на дзялянцы ўвесь дзень, а Аня адна сумуе ў хаце. Так атрымалася, што ўся брыгада Рабкова ў адным доме жыве і толькі Рустамаў ад усіх асобна: гэта таму, што ён прыйшоў у брыгаду пазней.

Жывуць Рустамавы ў рубленым з брусоў дамку, займаючы адну яго палавіну. У другой пасялілася яшчэ сям'я. Так павялося ўжо на БАМе: сямейным дазваляюць дамы будаваць. Вось і Рустамаў да прыезду Ані звіў гняздзечка. Два пакоі, пярэдняя, кухня. Брусы і цвікі бясплатна даюць. Толькі рукі свае. Домік вырас хутка, як грыбок у дажджлівы дзень. Рустамаў кожны вечар працаваў, вярнуўшыся з прасекі. Нават мэблю сам змайстраваў — шафу, ложак, сервант, табурэткі: гаспадыньку ж у дом чакаў. Думаў, абрадуецца. А прыехала Аня — засмуцілася. Пасля таго як убачыла палатку Бандарчука, хацінка здалася ёй сумнай. І ёй закарцела ў палатцы пажыць: яна ж за рамантыкай ехала. Пакрыўдзіўся Рустамаў. Але за тры дні, прыгледзеўшыся да жыцця ў пасёлку, Аня ўсё ж здолела ацаніць «залатыя рукі» мужа. У дамку і цэнтральнае ацяпленне і электрапліта. Але больш за ўсё спадабалася Ані руская печ. Хутка і гарачая вада будзе.

За акном люты мароз трашчыць, а ў дамку цёпла, утульна. Печ пыхае гарачынёй, і ад яе па ўсіх кутках ідзе салодкі дух цеста. Аня пякла пірог. Пакуль вольнага часу шмат, можна заняцца гатаваннем, заглядваючы ў кулінарную кнігу,— мусіць, усе маладыя гаспадынькі так пачынаюць.

Аня выняла з печы ўжо гатовы пірог. Паставіла на прыпечак і, накрыўшы яго ручніком, каб не астыў, пайшла ў магазін: у хаце скончыўся цукар.

Хатка Рустамавых стаіць на вуліцы Лесарубаў. Прайшоўшы палову вуліцы, Аня павярнула ў завулак Першапраходцаў і пайшла на несціханы шум рухавічка электрастанцыі, якая стаяла на другім канцы пасёлка амаль ля самага падножжа сопкі. Гэта сопка — як Адміралцейскі шпіль у Ленінградзе: куды ні пойдзеш — адусюль яе ўбачыш. У сонечны дзень яна замяняе кічарцам гадзіннік. З-за сопкі ўзыходзіць сонца, і па тым, як асвятляецца вяршыня, жыхары пасёлка вызначаюць час, ніколі не памыляюцца. Таму і на гадзіннік глядзець не было патрэбы.

Зараз сопка была шэрай і непрыветнай, толькі снежная вяршыня свяцілася халодным блакітам: сонца перамясцілася на поўнач. Мінуўшы школу, якая ўтульна стаяла ў прыціхлым лесе, Аня павярнула ўлева і выйшла на яшчэ не забудаваную вуліцу, якая нагадвала шырокі лясны гасцінец. Абапал яе ўзвышаліся сосны,

трапляліся кедры і лістоўніцы. Дрэвы; захутаныя ў снежнае футра, стаялі ў таежнай цішы нерухома. Калі-нікалі даносіўся шум самазвалаў, якія зрэдку, а ўсе ж праязджалі ў гэты ціхі час, даляталі і гукі ад піларамы. А дрэвы стаялі сцішаныя, нібы задумаўшыся.

Аб чым яны думалі? Можа, прыглядаюцца і прыслухоўваюцца да ўсяго новага, што так раптоўна ўварвалася ў іх жыццё? «А можа, і сапраўды яны ўсё бачаць і чуюць?» — падумалася Ані. Рустамаў сказаў ёй, што дрэвы ў пасёлку гінуць. Хоць і пакінулі іх для прыгажосці, яны ўсё ж падаюць. Самі. «З шумам не могуць звыкнуцца»,— зноў падумала Аня. І толькі яна гэтак падумала, як раптам пачула дзіўны гук. Аня спынілася. Прыслухалася. Гук быў высокі, хрыплы і нагадваў гучанне бензапілы, але толькі жаласнае і ціхае. Аня ўгледзелася ў тайгу: можа, хто дрэва пілуе? Але навокал нікога. Дарослыя знаходзіліся на сваіх рабочых месцах, а дзеці ў школе. Гук паўтарыўся. Ён быў кароткі, нібы ўскрык ад болю. «Можа, вецер?» — падумала Аня. Але ветру не было. Дый адкуль тут ветру быць, калі пасёлак ляжыць у катлавіне, калі наўкол яго сопкі?

Не, гэта не вецер. Дрэвы стаялі, не варухнуўшыся, быццам і яны прыслухоўваліся. Зноў гэты стогн, недзе зусім побач. Аня падняла галаву — і ўбачыла кедр. Ён быў вельмі стары і стаяў ледзь нахіліўшыся, быццам згорбіўся. Няўжо ён? Аня прыгледзелася да дрэва. Ствол быў дзіўны: ад самага камля да высокай вяршыні цягнулася ўспушаная палоса, як шрам. І Аня зразумела — гэта два кедры, але так цесна зрасліся, што толькі па шраму ды рыпенню можна здагадацца: яны блізняты. Кедр паміраў. Ён стаяў ля дарогі, а за ім, як за яго спіной,— тайга, маўклівая, нібы ў жалобе. «Ён засланіў сабою дрэвы, а сам памірае»,— падумала Аня. Ад сібіракоў яна чула, што калі памірае таежнае дрэва, яно падае, як чалавек. А ўсё таму, што карэннем не прарастае ў глыб прамерзлай зямлі, і дрэвы падтрымліваюць адно аднаго, цесна пераплёўшыся пад зямлёй карэннямі. Але варта якому захварэць і ўпасці, як і ўсе, не ўтрымаўшыся, падаюць. Вось так і гэты кедр. Ён стаіць на ўзбочыне вуліцы, дзе зусім нядаўна раслі яго сябры. Не стала сяброў — і ён памірае.

«Дрэвы, як людзі,— падумала Аня,— у адзіночку выстаяць цяжка». Яна слухала, як стогне кедр. І пры-

гадала бабу Ліну. Гэтае дрэва чымсьці нагадвала старую рыбачку. Можа, тым, што ў бабы Ліны такі ж натужлівы голас? Ці таму, што яна такая ж старая, хворая, адзінокая? Сказала ж яна: «Усе старажылы паўміралі. Адна я засталася». Вось і сагнулася баба Ліна, як стары кедр, вось і стогне яна, як стогне ён.

Спыніўшыся ля дрэва, Аня так задумалася, што пачула крокі за спіной толькі тады, калі нейкі чалавек з ёй параўняўся. Аня азірнулася — і ад нечаканасці аслупянела: на яе глядзеў шафёр, той самы, які стаяў ля моста, калі Аня ехала з Халоднага ў Кічару. «Дзергачоў!» — пранеслася ў Анінай галаве. Так, гэта быў ён. У той вечар ля моста яна ўбачыла яго ў святле фар: магла і памыліцца. Але цяпер было светла, і яна пазнала яго. Тыя ж круглыя неміргаючыя вочы, тонкая верхняя губа, над якой крыху задзіраўся кончык кароткага носа. Але галоўнае — вочы. Такія вочы не забываюцца. Дзергачоў не падабаўся Ані: у яго была прывычка заўсёды ўсміхацца. Ці пазнаеш, што ў такіх людзей на душы, калі яны ўвесь час усміхаюцца? Але зараз, сутыкнуўшыся з Віктарам твар у твар праз тры гады, нешта новае ўлавіла Аня ў яго абліччы. Дзергачоў не ўсміхаўся, як некалі, а ў вачах, хоць і па-ранейшаму неміргаючых, затаіўся смутак. Віктараў твар мільгануў перад Аняй, але яна паспела заўважыць у ім гэту перамену. І Дзергачоў пазнаў Аню, ён не сумняваўся, што гэта яна: чуў ад Рустамава, што прыедзе. І ўсё ж, убачыўшы Аню, Віктар спалохана адхіснуўся: надта раптоўнай была сустрэча.

Аня бачыла, як Віктар прыспешыў хаду. На душы яе стала неспакойна. Яна адчувала, што Дзергачоў ненавідзіць яе за мінулае, за тое, што яна ўмешвалася ў атраднае жыццё «Блакітнага экспрэса», камандзірам якога быў Віктар, і на правах журналісткі і члена штаба атрада рабіла яму заўвагі, калі той зрываўся і вярнуў у свой бок. Што ён тут робіць? Працуе? Кім? І чаму лёс падстроіў так, што Віктар прыехаў у Кічару, менавіта туды, куды прыехала Аня? Гэтыя пытанні амаль увесь дзень не давалі спакою. Трывожна было ў яе на душы.

...Аня ўжо ставіла хлеб для вячэры, бо ведала, хутка прыедзе Рустамаў, як дзверы адчыніліся і, напусціўшы ў цёплую хату клубы белай марознай пары, увайшлі трое: Рустамаў, Чубакоў і брыгадзір Рабкоў (апош-

няга Аня бачыла ўпершыню). Адразу ж ёй кінулася ў вочы знешняе падабенства прараба і незнаёмага. Нават калі абодва скінулі з сябе кажухі, Ані спачатку цяжка было адрозніць аднаго ад другога. Каржакаватыя, бялявыя і светлавокія. Вось толькі ў брыгадзіра, як і ў Рустамава, румянец быў на ўсю шчаку, мусіць, ад здароўя і фізічнай працы на марозе, а ў Чубакова шчокі ледзь прыкметна ружавелі.

Рабкоў увайшоў у хату нясмела. Ён разгублена пазіраў на гаспадыню, саромеючыся таго, што натаптаў у пярэднім пакоі. Чубакоў жа, наадварот, уварваўся шумна, быццам ён тут быў гаспадар. І адразу ж бурна прывеціў Аню:

— З наваселлем, маладая гаспадынька!.. Ну і вецер узняўся! Няйначай як завея на ноч збіраецца! Вам не страшна? Вы ад нас не паедзеце? Прычына заўсёды знойдзецца. Вось як мой прыяцель. Яго дачка не паступіла ў інстытут. Гэта ж трэба, якая драма! Дык ён паехаў адсюль, каб з гэтай дурніцай чаго не здарылася. Бачыў я гэта дзіва ў гарохавай спадніцы! Прыязджала сюды. У галаве адзін вецер! Я б з такой іначай. Я на яе руку рэзка падняў бы і назад паехаў. З дзецьмі трэба крута. Бо на галаву сядуць. Гэта мая вам парада. Як будучай маці.

Апошнія словы прараб сказаў амаль паўшэптам і па-сяброўску падміргнуў Ані.

Позірк у Чубакова хітраваты і жорсткі. Гэта Аня падмеціла яшчэ ў палатцы Бандарчука, калі ўбачыла прараба ўпершыню. Ён не глядзеў на субяседніка, калі гаварыў, і вочы яго бегалі, ні на чым падоўгу не спыняючыся. Гэта выклікала да Чубакова недавер. Жэсты ў яго былі рэзкія, і ўвесь ён вельмі рухавы. Пра такіх кажуць — непаседа. І ўсё ж ва ўсім яго аблічны было нешта такое, што выклікала павагу. «Гэта, мусіць, таму,— падумала Аня,— што ў ім адчуваецца самаўпэўненасць». Брыгадзіра Аня бачыла ўпершыню і таму ніякіх меркаванняў аб ім складці пакуль не магла. Але пра яго ёй шмат расказваў Рустамаў, які не нахваліцца Рабковым. І таму Аня адразу аднеслася да яго прыхільна.

Аня запрасіла ўсіх да стала, і паказала не абы-які спрыт, прымаючы першых гасцей у сваёй хаце.

Хутка Рустамаў і госці, падмацаваўшыся лёгкім віном і закускай, са смакам пілі духмяны гарачы чай,

заядаючы яго пірагом. І гаварылі пра справы. Здавалася, яны зусім забыліся на Аню, і тая, задаволеная гэтым, спакваля назірала за ўсімі.

Яна глядзела на рукі Рабкова. Дужыя, рабочыя рукі, яны былі ў мазуце і ад іх пахла бензінам. Аня ведала, што мазут не адмыеш, калі кожны дзень працаваць з бензапілой. Яна глядзела, як Рабкоў адпівае чай з фаянсавага кубка, і якім маленькім і крохкім здаўся ёй кубак у яго руках. Такія ж рукі былі і ў Рустамава. Міжволі падумала: «З такімі ў тайзе не страшна».

Аня прыслухалася, аб чым гаварылі. Размова вялася аб нядаўнім спаборніцтве брыгад за званне лепшых лесарубаў. Высякалі прасеку пад ЛЭП. Першае месца заняла брыгада Рабкова.

— Ты прафесійны майстар, Лёша. Нікому за табой не ўгнацца. Выканаць план на трыста шэсцьдзесят працэнтаў! Так перавысіць норму ды яшчэ пры выдатнай якасці не кожны зможа,— гаварыў прараб брыгадзіру.

— А што тут умець? — сціпла заўважыў Рабкоў.— Бяры пілу, востра наточаную сякеру і рабі тое, што ўсе робяць. Праўда, у мяне свая тэхналогія.

— Вось у тым і справа, што свая. Кацялок у цябе варыць. А брыгада Шутава — гэта ж курам на смех! Дрывасекі! Ссеклі падлесак і завалілі яго буйняком. Паспрабуй выцягні з-пад яго ламачча. А ты малайчына! Не тое што некаторыя. Ёсць у нас такія, што адным росчыркам пяра грошы зарабляюць. Я маю на ўвазе сяго-таго з кіраўнікоў. А ты працавіты.

Аня бачыла, як звузіліся вочы Рабкова і напружыўся твар. Куды хіліць прараб? Што будзе за гэтай пахвалой? Хутка ўсё высветлілася.

— Але разумееш, Лёша? Прэстыж — гэта добра. Вось у цябе ёсць і слава і грошы. Але не толькі ж паталогоннай сістэмай заваёўваюць аўтарытэт. Вось, напрыклад, брыгада Бандарчука. Ну, хай яны не так умела працуюць, як твае людзі. Але колькі часу ў іх ідзе на культурнае жыццё! Адзін тэатр чаго варты!

І тут Аня прыгадала, як Чубакоў сказаў кінематаграфістам:

«Гэта самая цікавая брыгада. Іншыя інтарэса не выклікаюць. А ў гэтай адзін тэатр чаго варты!» Вось і зараз прараб занадта захапляецца «бандарчукамі». Пасля таго, што бачыла і пачула Аня ў іхнім лагеры,

ці справядліва гэта? Аня насцярожылася, прыслухоўваючыся да далейшай размовы.

— Мы не артысты,— незадаволена сказаў раптам спахмурнелы Рабкоў.

— Мы сюды працаваць прыехалі,— падтрымаў яго Рустамаў.

— Добра. Хай вы не артысты. Але падумай аб выхаваўчай рабоце, брыгадзір. Вось, скажам, адстаючыя брыгады. Як падняць іх настрой, каб яны падцягнуліся? Ты аб гэтым падумаў?

— Змяніць брыгадзіраў, або... хай паглядзяць, як працуем мы.

— Для гэтага час патрэбен. А дзе яго возьмеш? Калі ўсе гледачамі стануць, хто ж тады працаваць будзе?

Чубакоў узяў кубак і дапіў ужо астылы чай да дна.

— У мяне прапанова ёсць. Вось якая,— зноў загаварыў ён. І па тым, як рашуча гэта было сказана, відаць было, што ён усё абдумаў раней.— Я рыхтую справаздачу за апошні квартал. Ты зноў на першае месца выйшаў.— Тут Чубакоў рэзка паставіў на стол пусты кубак, які ўсё яшчэ трымаў у руцэ. Паставіў так, нібы пячатку. І рашуча сказаў: — Ты павінен адмовіцца ад яго. Уступі яго Шутаву. Каб узняць дух брыгады.

На тварах Рабкова і Рустамава адбілася здзіўленне.

— Каб узняць дух?!.— нібы не паверыўшы сваім вушам, нарэшце спытаў Рабкоў.

— Нездаровы дух, аднак,— хмурна сказаў Рустамаў.

— А Бандарчук, ён на якім? — раптам спытаў Рабкоў.

Чубакоў сумеўся.

— Што табе Бандарчук? Бач ты, саперніку!.. У Сашкі тэатр!.. На гэты раз ён сеў макам. Толькі чацвёртае месца,— нехаця сказаў прараб.— Шутаў на трэцім.

— Гэта нам аж на трэцяе?! — усклікнуў пакрыўджаны Рабкоў.— Хто гэтаму паверыць!

Чубакоў занерваваўся.

— Ды зразумей жа ты! Падцягнуць адстаючую брыгаду трэба! Цябе ж і так усе паважаюць, ты сам сабе цану ведаеш. Карона з цябе не зваліцца! Адзін толькі раз! Ты ж не першы год на БАМе. Паўночна-Байкальск за спіной, лаўрэат! А Шутаў толькі пачаў, зялёны яшчэ!

Рабкоў маўчаў, упарта сціснуўшы вусны. Відаць было, што яму, перадавіку, вельмі не хацелася быць у апошніх.

— Гэта не метад працоўнага перавыхавання,— задумліва сказаў Рустамаў.— На падтасоўку падобна. Я думаю, што «шутаўцы» на гэта не пойдуць. Самі адмовяцца ад такой міласці.

Запанавала цяжкае маўчанне. Усе думалі.

— Ну, справа ваша, канечне. Ніхто вас не прымусіць. Асабіста мне гэта трэба, як зайцу стоп-сігнал,— незадаволена заявіў Чубакоў.— Але вы аб сабе падумайце. Ці не здаецца вам, што ваша брыгада адмежавалася ад усяго калектыву, што вас хвалююць толькі ўласныя інтарэсы, а не поспех усяго атрада? І потым, Рабкоў... не забывай, што ты камісар усяго атрада. Цябе, здаецца, другім Макаранкам называюць?..

«Ну і хітры ж гэты Чубакоў»,— падумала Аня. І ёй стала шкада Рабкова.

— Не я адзін рашаю. Уся брыгада. Я павінен пагаварыць з людзьмі,— хмура сказаў брыгадзір.

— Ну вось і цудоўненька! — весела ўсклікнуў Чубакоў.— Я ўпэўнены, што хлопцы зразумеюць. Грошы свае яны атрымаюць. Так ім і перадай. І ўсё будзе ладненька,— прараб адпіў чаю. (Аня зноў напоўніла кубкі.) — Наша жыццё, як цяльняшка, усё ў палосачку. Няхай і Шутаву яна блісне светленькай! — засмяяўся задаволены Чубакоў.— І яшчэ адно пытанне трэба рашыць зараз жа, неадкладна. Мост! Адрамантаваць яго ў самы кароткі тэрмін. Без аплаты. Дзеля прэстыжу.

Рустамаў і Рабкоў пераглянуліся.

— Ці не занадта многа для нас прэстыжу? — іранічна спытаў Рабкоў.

Але Чубакоў зрабіў выгляд, быццам не пачуў, і гаварыў далей.

— Халодненцы і без таго косяцца на нас за спілаваныя слупы. Без святла і тэлевізара сядзяць. Трэба хоць мост паправіць.

— Мы не маставікі... Хай Бандарчук рамантуе. У яго вопыт ёсць. Ён у Зорным масты ставіў,— адказаў Рабкоў.

Чубакоў абдумваў, што сказаць.

— Вось што. Ты на Сашку не валі. Ледзь што — дык

Бандарчук, Бандарчук... Ён не лічыцца, як ты. Яго папросіш зрабіць не за грошы — робіць.

— А што ён зрабіў? — раптам ускіпеў Рабкоў.— Дом для цябе?!

Тут ужо і Чубакоў не стрымаўся:

— Ты лягчэй! Бач які! Домам мяне дакараць!.. Я тут гаспадар!.. Ну і пабудаваў! Цябе ж прасіў — ты адмовіўся! А Сашка і над дзетсадам шэфствуе!.. Ты нябось свой дзевяцікватэрны пад дзетсад не аддаў, а ён аддаў! А сам у інтэрнаце з брыгадай жыў, дый цяпер яшчэ сёй-той у вагончыках туліцца з сям'ёй, з дзецьмі!..

— Паслухай, Чубакоў,— брыгадзір рашуча пайшоў у контратаку і напачатку загаварыў нібы спакойна.— Я табе не хлапчук. І сваю справу ведаю. А як ты сваю робіш — мне вядома. І таму не крычы. Мае людзі працуюць сумленна. І ты іх не крыўдзі. Ад грамадскай працы мы не адмаўляемся. Хто пабудаваў горку для дзяцей? А спартыўную пляцоўку? Школу хто давёў да ладу, каб паспець да яе адкрыцця? Сталовую хто афармляў? Гэтага мала? Але мы не крычым, не выхваляемся. А ты аб сваім Бандарчуку ўсім вушы пратрубіў. Што да нашага дома, дык мы для сябе яго будавалі, для нашых сем'яў, каб па-людску жыць, каб адпачыць можна было пасля працы. А чаму ж твой хвалёны Сашка да гэтай пары дзетсад не дабудаваў? Ты кажаш, ён шэфствуе над ім? А дзе ён? Як у тым анекдоце: «Пеця, злазь з падножкі»? Які ж ён шэф? Як толькі ўпрасілі яго дом дзетсаду аддаць, дык і замарозіў? Інтарэс прапаў? Затое на «самбудзе» да сёмага поту надрываўся — цяпер амаль уся брыгада ў брусавых дамах жыве. А мне трэба, каб усе гуртам. Адной сям'ёй. Разам! Так мае людзі захацелі. І працуюць яны з усёй аддачай! Зразумеў? І больш мяне домам не дакарай!..

Аня глядзела на расчырванелы ад гневу твар Рабкова, і толькі цяпер зразумела, у чым галоўнае падабенства гэтых двух людзей: у таго і другога падбародкі выступалі ўперад, што сведчыла аб іх упартасці і волі. Вось і схапіліся яны, як два казлы на вузкім масточку. Але пасля такога націску праараб нібы здаўся:

— Ну хопіць, хопіць. Пераканаў. Скажу Сашку, хай мост рамантуе. А ты з хлопцамі наконт Шутава пагавары.— Чубакоў зірнуў на гадзіннік.— Ну што, брыгадзір, па конях? — Чубакоў падняўся.— А вы,

Аня, заходзьце да нас. З жонкай вас пазнаёмлю. Марыя ў школе настаўнічае.

— Дзякую,— адказала Аня.— Але вы ўсе такія занятыя, што... і не ведаю, калі...

— У любы час! Не саромцеся! Да сяброў па раскладу не ходзяць! А дзверы ў нашым доме не замыкаюцца. Замок не вешаем. Школа насупраць — дык то жонка, то дзеці дамоў на пераменках прыбягаюць... Людзі прыходзяць... справы, справы!

Прараб з брыгадзірам пайшлі.

«Дзелавы чалавек»,— падумала Аня пра Чубакова, які пакінуў у душы непрыемны асадак.

Чубакоў як напрарочыў: за акном ужо круціла завея. Але ў дамку было цёпла. Рустамаў і Аня, абое ўсхваляваныя размовай за чаем, доўга не маглі заснуць.

— Ты памятаеш, як ён сказаў: «Адзін толькі раз!» Мусіць, яшчэ нейкую справу хоча правярнуць, заплаціўшы за яе першынством нашай брыгады,— засмучана сказаў Рустамаў.

— Скажы, а чаму ён Бандарчука так выстаўляе? Літаральна ва ўсім. Вось і ў лагеры...— Аня ўжо расказала мужу пра тое, што чула і бачыла ў лагеры Бандарчука.

— Яшчэ б яму не выстаўляць! Ты ж чула — Бандарчук дом яму пабудаваў бясплатна. Мо яшчэ што зрабіў...

— Не падабаецца мне Чубакоў,— сказала Аня.

— Гэта спачатку. Ёсць у ім штосьці... Хватка ёсць. Яго тут паважаюць. Разумны мужык, кемлівы. Бачыла б ты, які ён камін сабе адгрукаў. Па сваіх чарцяжах.

— Зноў для сябе,— іранічна ўсміхнулася Аня.

— Ён мужык хітры... Але спецыяліст што трэба і ўмацаваўся тут трывала. Дарэчы, ён сам сібірак і амаль дваццаць гадоў працуе на сібірскіх будоўлях. Такіх людзей цэняць. А калі і не так што зробяць, мо і трэба ім даравать...— неяк няпэўна дадаў Рустамаў, бо, мусіць, і сам засумняваўся ў тым, што сказаў.

— А ты... пакладзісты. Цябе вельмі проста абдурыць, і ўсім ты даруеш... Які ты быў, такім застаўся,— пяшчотна, але з жалем дадала Аня.

Рустамаў толькі ўздыхнуў.

— Рабкоў малайчына: за сваіх пастаяць можа,— зноў загаварыла Аня.

— Я ж казаў табе. Лёша — чалавек, якіх мала. Хлопцы любяць яго. Сама палюбіш, калі пазнаеш.

— Я забылася табе сказаць,— раптам спахапілася Аня.— Сёння я бачыла... ведаеш каго? І не паверыш нават... Дзергачова!.. Ты ведаў, што ён тут? Чаму мне не сказаў?

— Не было калі. Дый цябе не хацеў хваляваць. Некалькі дзён назад таксама сустрэў. На прасецы. Бензіну прасіў. У мехкалоне працуе... Здаецца мне, ён другім чалавекам стаў, вось толькі кепскія ў яго справы: яго падазраюць у забойстве.

— Не можа быць! — усклікнула Аня. І, памаўчаўшы, спытала: — Таго чалавека, аб якім ты мне расказваў?.. Дык вось чаму ў Віктара такія вочы...

— Якія?

— Позірк у яго цяжкі... туга ў вачах.

— Ён не здольны на такое.

— І я так думаю.

— У нашу брыгаду прасіўся.

— Ці возьме Рабкоў?

— Паглядзім.

Нейкі час абое прыслухоўваліся да завеі, якая ўсё стагнала і круціла за акном. Раптам Аня прыціснулася да мужа і неяк таямніча, усхвалявана зашаптала:

— Лёня... я даўно хацела табе сказаць... але ў пісьме не адважылася... У нас будзе дзіця.

Узрушаны такой навіной, Рустамаў доўга маўчаў. Потым, ні слова не кажучы, пачаў асыпаць Аню пяшчотнымі, удзячнымі пацалункамі. Ён мілаваў яе твар, валасы, грудзі, распаляючыся ўсё больш і больш, і ўтрапёна шаптаў:

— Нарадзі мне хлопчыка, чуеш?.. Нарадзі мне Рустама...

— А калі дзяўчынку? — смеючыся і слаба адбіваючыся ад настойлівых пяшчот мужа, спытала Аня.

— Тады ў нас будзе Анюта,— ціха засмяяўся шчаслівы будучы бацька.— Усё роўна наша дзіця будзе маленькім бамаўцам. Рустам будзе вадзіць паязды, а калі Анюта, то стане журналісткай. Наша дзіця будзе расці на Байкале, а як вырасце, прадоўжыць нашы справы.

Рустамаў цалаваў сваю жонку, такую родную, цалаваў маці свайго будучага дзіцяці.

А за акном панавала цішыня. Ні снегу, ні посвісту

ветру. Сціхла завея. Здавалася, што тайга затаіла дыханне, разумеючы, што ў гэтую ноч нельга непакоіць закаханых. І сцерагла спакой у брусавым дамку, каб не выдзьмуць з яго цеплыню, не выстудзіць гарачага пачуцця.

## РАЗДЗЕЛ СЁМЫ

Адрынуты.— Таежны дэсант.— «Камбат».— Крыніцы.— Дзесяць кіламетраў

Віктар падняўся, як заўсёды, да світанку. Інтэрнат для халасцякоў і сёння нагадваў патрывожаны мурашнік. Усе спяшаліся ў сталовую. З харчаваннем яшчэ ніяк не ладзіцца, і калі прыйсці ў сталовую пазней, дык прастаіш у чарзе гадзіну, другую, потым плюнеш і пойдзеш галодны, каб не спазніцца на працу. Сямейным добра: дома ядуць. А калі адзінокі... Хто аб табе паклапоціцца? Нават рук не памыеш.

У рукамыйніку па-ранейшаму было пуста: вось ужо трэці дзень няма вадавозкі. З вадой таксама бяда. Геадэзісты дабраліся толькі да малой вады, і з першымі халадамі ваду скаваў мароз. Вось і возяць яе з Кічары, а рака кіламетраў шэсць ад пасёлка. Парадку пакуль што няма. Нездарма першы этап будаўніцтва «неразбярыхай» назвалі.

Віктар выйшаў з інтэрната. Хоць на гадзінніку палова сёмай, у тайзе яшчэ ноч. У месячным святле блакітнымі зоркамі іскрыўся снег. Ціха стаяць дрэвы, быццам яшчэ спяць. Дзергачоў падышоў да высокага пня ў пульхнай снежнай шапцы, якая так і ззяла блакітам, змахнуў далонню верхнія сняжынкі — пад ногі з мільгаценнем пасыпаліся зоркі. Дзергачову нават здалося, што яны зазвінелі. Ён заўсміхаўся і яшчэ раз змёў пухкі снег. «Што гэта са мной сёння? — падумаў Віктар.— Быццам закаханы, на рамантыку пацягнула. Досыць дурэць»,— суняў ён сябе.

Ён чэрпаў прыгаршчамі зорны снег і мыўся. Але на моцным марозе нават у цёплых далонях снег не раставаў, ён рассыпаўся, апякаючы холадам шчокі. «І ручнік не патрэбен»,— падумаў Віктар: твар заставаўся сухі. Ледзяны дотык снегу ўсё ж канчаткова прагнаў санлівасць.

Віктару пашанцавала: ён прыйшоў першы і, не спяшаючыся, паснедаў. А калі пакідаў сталовую, ужо шумела чарга: не было чым мыць посуд і ўсе мусілі чакаць, пакуль растопяць снег. Але ці многа яго растопіш! Людзей процьма, і ўсе спяшаюцца.

Дзергачоў крочыў у гараж. Над тайгой яшчэ чарнела неба, але жыццё ў пасёлку бурліла: свяціліся вокны, на вуліцах у жоўтым святле ліхтароў гулі самазвалы, таропкай хадой ішлі людзі.

Калі Віктар наблізіўся да гаража, яго паклікалі:

— Дзергачоў, ты?.. Да Яцэнкі хутчэй!

— Навошта? — азваўся на голас Віктар.

— Там скажуць.

Віктар не спяшаўся. Лагодна настроены, ён з цікавасцю назіраў, як Васёк, сын загадчыка гаража, бегаў і фырчаў, развёўшы рукі, мусіць, уяўляў сябе «Уралам». Але вось малы ўбачыў Віктара, падбег да яго і забалабоніў:

— Радзіма чакае грунт, а ты стаіш, панімаеш!

Шафёры весела зарагаталі. Тут, як з неба, звалілася Палікарпаўна і, схапіўшы ўнука за руку, пацягнула за сабой.

— Ах ты неслух!.. Колькі разоў табе казала: сюды не хадзі!.. І калі нарэшце дзіцячы сад пабудуюць!.. Малое зусім ад рук адбілася... З самай раніцы ў гаражы аціраецца!..

Віктар яшчэ пастаяў, разгублена ўсміхаючыся, і пайшоў назад да сталовай. Завярнуў на Таежную вуліцу, дзе стаялі вагончыкі для сямейных, і выйшаў на квадратную пляцоўку, якую стваралі чатыры вагоны, пастаўленыя літарай «п». Тут і размяшчалася бухгалтэрыя, партком і ўсё кіраўніцтва.

У начальніка поезда было цесна: як заўсёды, на пачатку дня праводзілася пяціхвілінутка. Віктару доўга чакаць не давялося. Калі ўсе разышліся, ён увайшоў да Яцэнкі. Той працягнуў ружовую паперку і незадаволена сказаў:

— Следчы выклікае.— Ён падазрона, спадылба, нібы вывучаючы, глядзеў на Дзергачова.— У Паўночна-Байкальск паедзеш на вахтоўцы Рыгора Шэлеста. Чубакова прыхапі. Справы ў яго. І брыгаду Рабкова адвязі на трасу. Па дарозе назад усіх забярэш.

— А... як жа... адсыпка? — прыгнечана спытаў Він-

тар. Пальцы яго, што трымалі судовую позву, дробненька трымцелі.

— Рыгор замест цябе. Гэта часова. Усё. Ідзі на другі ўчастак. Там чакаюць.

Віктар глядзеў на пешчаны прыгожы твар Яцэнкі і думаў: «Яму добра. Усё ў яго гладка. Мусіць, толькі крыху старэйшы за мяне, а глядзі ж ты, як высока ўзляцеў — начальнік поезда!»

Віктару было прыкра. Ён зразумеў, што Яцэнка не давярае яму, падазрае ў злачынстве і таму не адпускае ў Паўночна-Байкальск аднаго. Два разы ўсяго бачыў ён гэтага чалавека — калі прыйшоў да яго прасіцца ў атрад і вось цяпер... Яшчэ тады ён улавіў пагарду ў яго позірку, усмешцы, словах. І сапраўды, хто ён такі, Віктар Дзергачоў? Усяго толькі шафёр, якога прынялі ў атрад з ласкі Яцэнкі, і то пасля доўгіх ваганняў. Сёння Віктар асабліва востра адчуваў яго пагарду, да якой прымешвалася яшчэ і падазронасць. Як цяжка, калі табе не вераць! «А ці даўно і ты вось такім жа камандзірам быў?» — падсвядома варухнулася думка. Але Віктар адразу ж адагнаў яе: не час у сабе капацца.

Дзергачоў стаяў, уцягнуўшы галаву ў плечы, быццам на яго замахнуліся. І каб адвесці ўдар, яму закарцела сказаць, што не ён... Але ў халодных вачах, што глядзелі на яго насцярожана, з несхаванай непрыхільнасцю, ён прачытаў: «Ведаць бы... Не апраўдвайся. Ты вінаваты».

Віктар нізка апусціў галаву і выйшаў з канторы.

Другі прарабскі ўчастак быў непадалёку. Скарачаючы шлях, Дзергачоў прайшоў паміж вагончыкамі, што роўнымі радамі стаялі ў хвойніку на пакатым узгорку, пералез цераз плот, які адгароджваў участак, дзе будаваліся падсобныя пабудовы для стацыянарнай электрастанцыі, і спусціўся да маленькай хаткі з сасновых брусоў. Гэта і быў прарабскі ўчастак лесарубаў. Адсюль яны выязджалі на трасу.

Хатка выглядала маляўніча. Па баках ганка і над ім перапляліся дзіўна выгнутыя беластвольныя бярозы. А побач, на разгалістай сасне, вісеў старамодны, вялізны, з масіўным ланцугом ліхтар. Святло ад ліхтара круглай бледна-жоўтай плямай падала на снег. У такіх хатках павінны жыць казачныя гномы.

Калі Віктар наблізіўся да прарабкі, ужо ледзь бралася на світанак, і расплывістыя ў шэрым змроку по-

стаці людзей, што мітусіліся, здаваліся зданямі. У пасёлку, які стаяў у катлавіне, абкружанай сопкамі, світанак пачынаўся пазнавата, і лесарубы кожны дзень выязджалі на трасу яшчэ ў цемрадзі. Ранішнюю зару яны сустракалі ў дарозе.

Справа ад хаткі, на пляцоўцы, стаялі прыгнаныя з гаража грузавікі. Яны стаялі, нібы на старце, і нецярпліва чакалі сігналу. Дзверы ў прарабку былі расчыненыя — у ёй было шумна. На ганку таксама тоўпіўся народ. Хутка натоўп пачаў радзець, адна за адной знікалі бензапілы, сякеры, рукзакі, што стаялі ля ганка. Загулі маторы. Грузавікі адвозілі людзей на дзялянкі.

Неўзабаве і Віктар з Чубаковым і брыгадай Рабкова адбылі ў дарогу. «Урал», як толькі выбраўся з пасёлка, узяў разгон і пакаціўся па аўтатрасе сярод дрымотнай тайгі.

Чубакоў сядзеў у кабіне побач з Віктарам. Ён паказваў, дзе спыняцца. Людзі выходзілі па двое, па трое ў розных мясцінах дзялянкі. Высадзіўшы брыгаду, Віктар з прарабам паехалі далей. Калі зусім развіднела, у Ніжнім выйшаў і Чубакоў. У Віктара на душы палягчэла. Значыць, яму здалося: прараб ехаў не дзеля таго, каб за ім сачыць.

Віктар паехаў у Паўночна-Байкальск, дзе яго чакаў следчы.

Не першы раз яго выклікалі. Віктар не разумеў; што ад яго хочуць? Прызнання ў тым, чаго ён не рабіў? Зноў паўтараць тое, што ўжо расказваў?.. Ведалі б яны, як цяжка ўспамінаць той дзень! Ён, як прывід, неадвязны, кашмарны, прыгнятае Віктара і наяве і ў сне.

...Зноў прыгадалася тая раніца. Усе трое прачнуліся ў палатцы ад нясцерпнага холаду. Сергіенка падняўся раней за ўсіх (у той дзень была яго чарга кашаварыць). Развёў агонь, паставіў на пліту чайнік, набіты снегам. Генадзь быў у прыўзнятым настроі: канчаўся тэрмін яго працы ў тайзе, і адвячоркам ён збіраўся вярнуцца ў Кічару да жонкі і дачкі, па якіх дужа засумаваў. За сняданкам з'елі апошні хлеб, і было вырашана да абеду паехаць па яго ў Заімку. Гэта быў самы бліжэйшы адсюль пасёлак. Па хлеб вызваўся ехаць Забелін. Паснедаўшы, ён з Дзергачовым паехаў на зімнік. Сергіенка застаўся мыць посуд і гатаваць абед. У поўдзень Забелін пакінуў Віктара і вярнуўся ў палатку збірацца ў дарогу. Але праз якую гадзіну ён падкаціў на грузавіку

да Віктара і пачаў яго ўпрошваць паехаць з ім разам, маўляў, крыху выпіў і баіцца ў дарозе трапіць у аварыю. Забелін і сапраўды здаўся Віктару нецвярозым, і таму ён прапанаваў Забеліну застацца, а самому паехаць па хлеб. Але той наадрэз адмовіўся. Паехалі разам. У дарозе Віктар занепакоіўся:

— Генка адзін у тайзе. Ці мала што? Раптам шатун які ці рысь...

— У яго стрэльба. Дый дзень жа, не ноч. Увечары вернемся.

— Увечары?! — здзівіўся Віктар.— Да Заімкі рукой падаць!

— А мы не ў Заімку. Далей паедзем. Ва Уаян. Мілка там у мяне. Разумееш? Да яе загляну. А якая ж любоў без пляшкі? Радасці мала. Назад ты мяне цёпленькага павязеш.

«Вось яно што!» — з прыкрасцю падумаў тады Віктар і пашкадаваў, што згадзіўся паехаць з Забеліным. І чалавека аднаго кінуў, і работа спынілася. Але цяпер было позна. Дый пярэчыць Забеліну было боязна. Віктар ведаў яго: ва Усць-Куце рабілі разам. Ён і там жыў, як хацеў, не любіў працаваць. Больш месяца нідзе не затрымліваўся: гналі яго адусюль за ляноту, п'янку і бойкі. Характарам буйны, лепей яго не чапаць. Забелін, як і Дзергачоў, у Кічары нядаўна. З Усць-Кута яго выгналі, потым з Зорнага, і падаўся, лайдак, сюды. У мехкалоне людзі патрэбны. Вось і ўзялі яго. Не ведалі, мусіць, які ён.

Далёка Уаян, не тое што Заімка. Пакуль хлеба купілі, пакуль Забелін з мілкай сваёй гуляў-мілаваўся, ужо і вечар настаў. А вярнуліся...

Віктара кінула ў халодны пот і затрэсла як у ліхаманцы. «Не, лепей не ўспамінаць»,— падумаў ён. Нервова сціснуўшы руль, рукі самі скіравалі машыну ўбок, на абочыну. Спыніўшы машыну, Дзергачоў ціха і неяк здаўлена застагнаў, адкінуўся на спінку сядзення і заплюшчыў вочы. Потым правёў па вачах рукой, быццам намагаючыся адагнаць ад сябе жахлівы прывід,— далонь стала вільготнай. Віктар выцер на твары пот і некалькі хвілін сядзеў нерухома. У такім стане далей ехаць нельга. Ён ведаў, што наперадзе вельмі круты перавал, а дарога над безданню і слізкая — чаго добрага, зляціш у прорву. А жыць так хочацца... І чаму ў яго ўсё цераз пень-калоду, не так, як у людзей?

Як ні намагаўся Дзергачоў адагнаць ад сябе змрочныя думкі, яны напаўзалі адна на адну, ахіналі яго мозг і сэрца пякучай крыўдай і познім раскаяннем у тым, у чым ён быў вінаваты. Кавалак жыцця пранёсся ў яго ўспамінах з таго моманту, калі ён развітаўся з чыгуначным вучылішчам, у якім вучыўся два гады. Шчаслівая была пара. Пасля вёскі апынуцца ў сталіцы — ці ж гэта не цікава? Потым служба ў арміі, год працы... І нарэшце будаўнічы атрад. Во адкуль усё ліха пайшло. Павяло яго, закруціла. І ва ўсім вінаватыя Рустамаў і Аня. Гэтыя два чалавекі ўсё яго жыццё дагары нагамі перавярнулі. Яго погляды ім не спадабаліся. Перавыхоўваць пачалі. Вось і найшла, як кажуць, каса на камень, вось і пачалі яму палкі ў колы ўстаўляць... Гэта ў іх перавыхаваннем завецца. Зганьбілі на ўсё вучылішча ды і на ўвесь горад, бадай. Плюнуў Віктар на ўсё і паехаў у Сібір. Працаваў шафёрам, Усць-Ілімскую ГЭС будаваў. Яму не сорамна. А потым на БАМ падаўся. У Кічару. Здавалася, усё добра пайшло, дык не... трэба ж было фартуне так падстроіць, каб ён аказаўся замешаным у смерці чалавека. Ды яшчэ людзей, што яму жыццё сапсавалі, зноў напаткаў. Усё ў адну кучу. «Уцякаць трэба адсюль,— мільганула думка.— Уцякаць, і ўсё. Цяпер тут жыцця не будзе».

Адчуўшы, што яму палягчэла, Віктар націснуў на старцёр і выехаў на дарогу. Гэта новае рашэнне, узнікшае раптоўна, супакоіла яго. І зноў, як раней, закіпела ў ім злосць і нянавісць да тых, хто замінае яму, не дае жыць, як ён хоча.

Сцяўшы вусны, ён глядзеў на дарогу. Наперадзе ўзвышаўся Байкальскі хрыбет. Дарога пятляла па спадах і невысокіх узгор'ях, горныя вяршыні ўзнікалі то справа, то злева, часова іх засланяла тайга, і ўсё ж вышыня ўжо адчувалася: нібы абручом сціснула галаву і ватай пазакладала вушы. Віктар збавіў хуткасць: яшчэ некалькі паваротаў — і пачнецца самы круты перавал. Віктар ведаў яго: праязджаў аднойчы. І каб не ўспамінаць страшнае, Дзергачоў увесь час паўтараў пра сябе адно і тое ж: яму трэба ўцякаць з Кічары. Гудзеў на пад'ёме перагружаны матор, а мозг Дзергачова нібы хто свідраваў танюсенькай іголачкай. І гэты боль увасабляўся ў бясконцую думку: «Я адрынуты... трэба ўцякаць... Я адрынуты... трэба ўцякаць...»

А наперадзе, ужо зусім блізка, непрыступнай крэ-

пасцю ўзвышалася адгор'е магутнага, суровага Байкальскага хрыбта. І Віктару здавалася, што не ён набліжаецца да гэтай аграмадзіны, а яна цяжка і марудліва пасоўваецца насустрач, нібы жадаючы раздушыць яго сваім грозным, непахісным гмахам.

Дзень выдаўся хмурны, туманны. Неба шэрай набраклай ватай спаўзло на зямлю. І ўсё сыпле і сыпле пароша. Дзялянка, дзе высадзілася брыгада, была на адхоне. Ісці па ім цяжка. Глыбокі, па калена, снег і падаліца зрабілі яго непраходным. Дрэвы, пападаўшыя ад хваробы і старасці, бязладна ляжаць адно на адным, удоўж і ўпоперак, з-пад снегу тырчаць абломкі... А над гэтымі могілкамі сярод уцалелага драбналесся яшчэ цягнуцца ўгору магутныя кедры, лістоўніцы, піхты, сосны... Але пападаўшых дрэў болей. Іх замшэлыя, зацярушаныя снегам камлі-вываратні з сівымі пасмамі моху замест кары нагадваюць рогі аленяў ці гіганцкіх усохлых, як мошчы, мядуз, што выцягнулі шчупальцы ў неба, нібыта просячы літасці... Па такой тайзе не паходзіш. Мядзведжы рай! Вось толькі разбегліся звяры, бо напалохаў іх вялікі гоман.

Лесарубаў нездарма назвалі таежным дэсантам. Высадзіўшыся на дзялянцы, «рабчыкі» (такую мянушку далі хлопцам з брыгады Рабкова) вялі наступленне на тайгу. Гулка вухкала, калацілася зямля ад udараў, калі падалі дрэвы, рэхам поўніўся лес ад выцця бензапіл, ад перастуку сякер. І мроіцца: вось выйдзе зараз гаспадар тайгі, такі ж казачны, як камлі-вываратні, трасяне раз'юшана сівымі пасмамі, узмахне пагрозліва кіёчкам і скажа што-небудзь сярдзітае смельчакам, што адважыліся патурбаваць яго, патрывожыць спрадвечны спакой тайгі... Але па-ранейшаму сыпле пароша, дуе лёгкі вятрыска і дрэмле ўнізе, ля падножжа сопкі, закаваная ў блакітнаваты лёд Кічара з зацярушанымі снегам выспачкамі, што бялеюць скрозь вершаліны аголеных бяроз. Ды звонка стукаюць сякеры, ды люта выюць бензапілы...

Рабкоў хуткай хадой падымаўся на сопку: ён прывык ужо да такога непралазнага бурелому. Да вушэй яго далятаў аддалены стук сякер. Лёша не выехаў разам з усімі, бо затрымаўся ў пасёлку, каб праверыць, ці правільна налічылі бухгалтары грошы брыгадзе за

мінулы месяц. Радасна было брыгадзіру: хлопцы зарабілі з гакам. Дзіва што! За месяц яны выканалі план больш чым на трыста працэнтаў! А па якасці распілоўкі і ачысткі прасекі, як заўсёды, выйшлі на першае месца. Рабкоў не сумняваўся ў тым, што хлопцы абрадуюцца. Але як яны прымуць просьбу прараба саступіць першае месца другой брыгадзе? Ці захочуць? Ён прадбачыў незадаволенасць людзей. Што ж, трэба ім растлумачыць... Але што тлумачыць? Лёша і сам не разумеў, навошта спатрэбілася Чубакову выпрошваць у іх першае месца для адстаючай брыгады? Ці ж так дабіваюцца поспехаў? Наўрад ці лайдакі пачнуць працаваць лепей пасля такога падману. А мо гэта хітрыкі? Можа, прараб нешта задумаў? Але што цяпер ламаць галаву! Пасля бойкі кулакамі не махаюць. Трэ было адразу адмовіцца. Паабяцаў пагаварыць з людзьмі, дык гавары. Рабкоў сам не рашае. Так ужо павялося ў брыгадзе: ён прапануе — а рашаюць усе.

Лёша ішоў па ўчастку, падрыхтаваным ужо да валкі буйняку. Усё было як трэба. Падлесак прыбраны ў кучы, раўнамерна размешчаны для спальвання. Пасля таго як прыбралі хмызняк, тонкі бярэзнік, сасняк, асіннік і ўсякае ламачча, засталося спілаваць і распілаваць буйныя дрэвы. Рабкоў папярэдзіў, каб буйняк без яго не валілі. І вось стаяць, чакаюць яго аджыўшыя свой век лістоўніцы, піхты. Счарнелыя, нібы ў жалобе, чакаюць свайго апошняга часу.

Калі Рабкоў узышоў на адхон, стук сякер стаў гучней. Здалёк ён убачыў, як хлопцы ссякалі падлесак. Яны працавалі спакойна, зладжана, без мітусні, каб не траціць дарэмна сілы. «Мая вывучка»,— не без гонару падумаў Рабкоў.

— Перакур,— сказаў ён, падышоўшы да першага лесаруба.

— Пераку-у-ур!.. Пераку-у-ур!..— эстафетай панеслася ўверх па дзялянцы.

Адзін за адным падыходзілі хлопцы да свайго брыгадзіра. Лёша заслаў нечай спяцоўкай выварацень, сеў і закурыў. Пакуль ішлі людзі, ён дыміў і дыміў, робячы глыбокія зацяжкі. За ім, абы-дзе пасеўшы, задымілі ўсе. Каб не марнаваць час, Рабкоў загасіў цыгарку, памацаў кішэні свайго кажушка і выняў табель з паказчыкамі за мінулы месяц. Ён чытаў яго ўголас, каб кожны ведаў, колькі зарабіў і за што. Называючы прозві-

шчы, брыгадзір кагосьці хваліў, кагосьці дакараў, іншы раз кідаючы позіркі на хлопцаў, і бачыў, як святлелі або хмурнелі твары. Але ніхто не сказаў ні слова, бо ведалі: іх брыгадзір справядлівы. Калі дакарае «камбат» — значыць, варты таго, зарабіў. Людзі вераць яму. Народ у брыгадзе трывалы, цярплівы. Рабкоў набіраў у брыгаду не толькі зялёных хлапчукоў, што прыехалі ў Сібір па пуцёўках, але і людзей, фізічна загартаваных і пазнаўшых жыццё. У Рабкова на людзей свой погляд. Калі просяцца ў яго брыгаду, прымае з выпрабавальным тэрмінам. За паўгода ўсе як быццам зраўняліся: узмужнелі дамарослыя, адтаялі тыя, з кім жыццё абышлося няласкава. І вось сядзяць яны ўсе перад ім з прасветленымі ці засмучанымі тварамі, а ўголас сваю радасць ці смутак не выказваюць. Але Рабкоў ведае, што кожны наматае сабе на вус усё, што зараз пачуе.

Пакончыўшы з першым пытаннем, брыгадзір прыступіў да другога. Уважліва выслухалі яго лесарубы. І было ўсё так, як прадбачыў Рабкоў. Пахмурнелі хлопцы. Усе, як адзін. Памаўчалі, старанна пускаючы дым, і пачалі выказвацца.

— Не разумею штосьці. Выходзіць — мы за «дзякуй» рабілі? «Дзякуй» у кішэню не засунеш,— панура сказаў адзін.

— Чужымі рукамі жар заграбаюць! — абурыўся другі.

— Браточкі, дык гэта ж... чорт ведае што!

Пашумелі крыху хлопцы, бо пакрыўдзіліся, хоць і зразумелі, што грошы ім выплацяць цалкам. Але ж гаворка ідзе пра прэстыж брыгады! Вырашылі:

— Эксперымент няўдалы. Але хай. Паглядзім, што будзе.

— Саступім. Адзін толькі раз.

Не паверылі хлопцы ў тое, што іх уступчывасць паможа падцягнуцца адстаючай брыгадзе. Як і Рабкоў, яны не разумелі, навошта гэта спатрэбілася прарабу.

Неўзабаве ўсе разышліся па сваіх месцах. Частка людзей пайшла вышэй па адхоне расчышчаць дзялянку ад драбналесся і збіраць ламачча для вогнішчаў, сёй-той застаўся на расчышчаным участку валіць буйняк і рабіць распілоўку разам з брыгадзірам.

Лёша доўга адаграваў застылую на марозе бензапілу, трымаючы яе над агнём, пакуль не аслабіўся ланцуг. Калі піла завялася, ён скінуў з сябе кажушок і,

застаўшыся ў лёгкай спяцоўцы, падышоў да сухастоіны. Піла лёгка прайшла скрозь ствол. Вось і здаровая лістоўніца надрэзана. Недапілаваная драўніна затрашчала, і дрэва нахілілася. Лёша накіраваў яго падзенне таўкачом — лістоўніца ўпала вяршалінай у вогнішча. Адразу ж шуганула з трэскам полымя, прагна злізваючы смалістае вецце.

І загула тайга... Выццё бензапіл, перастук сякер, забушавалі вогнішчы, ад якіх стаяў гул са звонкай стралянінай смалістага галля. Перамяшаліся водар смалы, пах бензіну, дыму... Чалавеку, які ўпершыню трапіць на такую дзялянку, можа здацца, што, маўляў, тут асаблівага? Валі сабе лес, кідай дрэвы ў агонь, дый годзе. Але не так усё проста. У кожнага лесаруба свой абавязак. Вальшчыкі — самыя дужыя хлопцы. Асілкі! Паспрабуй пацягаць цэлы дзень бензапілу — без рук застанешся: кілаграмаў шаснаццаць важыць. Сучкарубы адсякаюць галлё з паваленых дрэў і збіраюць іх для вогнішчаў. Падпальшчыкі паляць ламачча. І ва ўсім гэтым ёсць свая, непрыкметная чужому воку зладжанасць, свая тэхналогія, над якой не адну ноч ламаў галаву брыгадзір. І ўсё для таго, каб людзям працавалася спорна, лёгка і весела.

Адчуўшы ў руках стомленасць, Рабкоў рашыў адпачыць. Дый пара па дзялянцы прайсціся — можа, парада камусьці патрэбна або дапамога. Асцярожна прыхінуўшы да дрэва пілу, ён пайшоў уверх па дзялянцы. Паўсюль ляжалі паваленыя дрэвы. Каля лістоўніц, ля самага зрэзу, быццам нешта распырскана і цямнеюць лужыны — гэта апілкі: ружовыя, ледзь прыцярушаныя парошай, яны здаваліся ржавымі. А пароша ўсё сыпала, сыпала... У шэрым імглістым небе ледзь абазначылася бледная, круглая, смуглявая пляма. «Таежнае сонца скрозь снег»,— падумаў, сцішыўшы крок, Лёша. Ён прабіраўся скрозь буралом, міма палаючых вогнішчаў. Звонка стралялі ў агні лістоўніцы, з шыпеннем, быццам змазаная тлушчам, гарэла кедравая хвоя, вялізнымі вогненнымі языкамі ліжучы шэрае неба. Шыпенне і стрэлы даносіліся адусюль, і здавалася, што гэта лесавік гатуе сабе сняданак, смажыць сала на гіганцкай патэльні. Час ад часу чуліся галасы вальшчыкаў, якія папярэджвалі, што падае дрэва: каб не прыдушыла каго.

Глуха падаюць у пульхны снег дрэвы, а тыя, што

трапляюць на паваленыя ствалы, разбіваюцца з грукатам. Але ўсе яны падаюць вершалінай у вогнішчы або кладуцца ля іх. Не адразу прыйшоў гэты спрыт. Затое цяпер іншым брыгадам за «рабчыкамі» не ўгнацца.

Прайшоўшы яшчэ крыху, Лёша ўбачыў Дроздзіка (у брыгадзе былі два браты, і каб іх не блытаць, малодшага звалі Дроздзік, а старэйшага — Дрозд). Валодзя пілаваў паваленую спарахнелую сасну, ужо абсечаную ад галля. Нёс ён цяжкія калоды лёгка, як пёркі, кідаў іх у агонь. «Ладны хлопец. Не пазнаць яго! Не бацькі ж, а вуліца выхоўвала. Выправіўся тут. Ды і ўсе хлопцы ў брыгадзе як на падбор. Брыгада што трэба, што і казаць».

Дроздзік ужо адсякаў галлё ад здаровай лістоўніцы, якую толькі што павалілі. Добра сучкарубам: вогнішчы побач, далёка хадзіць не трэба — збераэжэш і сілы і час. Калі Дроздзік скончыў з распілоўкай, Рабкоў падышоў да яго і дапамог адцягнуць ад агню карысную драўніну, каб яна не згарэла, дачакалася тралёўшчыкаў.

Рабкоў падымаўся ўсё вышэй і вышэй, пераступаючы павалены сушняк і здаровыя магутныя ствалы. «Цяжка будзе тралёўшчыкам адвозіць буйняк,— падумаў ён,— занадта круты адхон».

Лёша спыніўся. Ён глядзеў, як падае кедр, загарадзіўшы яму дарогу. Дрэва чмякнулася вершалінай у самае вогнішча — аж да неба ўзнялося полымя. Жаль працяў Лёшава сэрца. Але тут жа раззлаваўся на сябе за такую чуллівасць. «Ну і няхай! Дарога патрэбна, і кропка. Няма чаго раскісаць».

Пасуравеў Рабкоў у Сібіры. Не пазналі б яго землякі-краснадарцы. А жыццё пачынаў, як і ўсе. Школа, потым вучылішча. Чыгуначнае. Была ў яго мара — паязды вадзіць па Сібіры. Аднойчы, яшчэ падлеткам, ён уцёк з дому, каб падарожнічаць, як Джэк Лондан. Лёшкава маці працавала на ткацкай фабрыцы, і зробленых грошай ёй ледзьве хапала, каб пракарміць сябе і сына. І каб назбіраць грошай на падарожжа, Лёшка ўпотай ад маці разам з сябрамі здаваў бутэлькі, працаваў у калгасным садзе. Грошай хапіла толькі ад Краснадара да Свярдлоўска, і ўцекачы мусілі вярнуцца дамоў. Але думкі пра суровы сібірскі край не пакідалі хлопца. І вось пачуў Лёша: ад Цюмені да Сургута магістраль павядуць. Па першаму камсамольскаму закліку

ён едзе ў Цюмень. Кім толькі ні працаваў — муроўшчыкам і бетоншчыкам, лесарубам і матарыстам, слесарам і электрыкам. А потым брыгадзірам стаў. За дысцыпліну яго празвалі «камбатам». Брыгада яго лепшай была. У Цюмені ажаніўся з аптэкаркай Вольгай, якую таксама рамантыка сібірская прывабіла. А потым у армію яго прызвалі, там і сярэднюю адукацыю атрымаў. Пасля звальнення ў запас пасяліўся ў адным з паўднёвых гарадкоў, працаваў на заводзе, паступіў на завочнае аддзяленне ў інстытут. Як быццам нармальна ўсё. Але засумаваў Рабкоў: у Сібір цягнула. А тут яшчэ пісьмо атрымаў з Цюмені. Пісаў яму Генка Сергіенка, з якім у брыгадзе разам рабілі: «Дарогу мы, братка, і без цябе пабудуем, ды вось толькі якімі вачыма на былых сяброў паглядзіш, калі раптам выпадзе табе па дарозе той ехаць?» Прачытаў гэтае пісьмо Лёша і яшчэ больш затужыў. Праз які тыдзень упакавалі маладыя свае няхітрыя пажыткі і пакінулі ўтульны паўднёвы гарадок, зноў апынуліся ў Цюмені. Лёша стаў брыгадзірам цесляроў. Пра яго брыгаду зноў хутка загаварылі. Нават занеслі ў ганаровую кнігу. А тут Байкала-Амурскую магістраль пачалі будаваць. Брыгаду Рабкова як самую лепшую паслалі на БАМ. І апынуўся Лёшка ў Паўночна-Байкальску. За будаўніцтва тэлевізійнай станцыі «Арбіта» ён атрымаў прэмію Ленінскага камсамола. З той пары людзей яго вадой не разліць. Так і вандруюць разам. З жонкамі, з дзецьмі. Потым у Кічару паехалі. І Генка з імі, Лёшкаў неразлучны сябар... І што за хлопец быў! Родам з Горкага. Без бацькоў рос, бабка гадавала. Бабка памерла — цётка прытуліла. Дзесяць класаў скончыў, потым курсы трактарыстаў — і таксама сібірская рамантыка яго захапіла. Прыгожа і сумленна жыў. Не чалавек — а золата. Любілі яго ў брыгадзе. А працавіты быў! Заўсёды самую цяжкую працу сабе выбіраў. Як ён марыў аб самым галоўным — укласці рэйкі, а потым па іх пракаціцца далёка-далёка на ўсход...

Бяда звалілася нечакана. Эх, Генка! Як жа так?! Не верылася Лёшку, усё ніяк паверыць не мог у смерць сябра. І чаму не перайшоў у яго брыгаду! Гаварыў жа яму, упрошваў... а ён усё адкладваў, усё чакаў, калі рэйкі прывязуць, калі іх укладка пачнецца. Лесарубам працаваў ужо, а хацелася яму ўсё зведаць.

Глядзеў Лёша ў агонь — і раптам паўстаў перад ім

твар з белазубай усмешкай, адкрыты, шчыры, са светлым чубам над прыжмуранымі вачамі. Ён добры быў, Генка, і не мог адмовіць нікому, калі яго аб чым-небудзь прасілі. Вось і паехаў з чужымі людзьмі ў тайгу... І зноў боль сціснуў Алёшкава сэрца.

Ён стаяў і думаў.

— Гэ-э-эй! — пачуў брыгадзір голас вальшчыка. Павярнуўшы галаву на крык, ён убачыў, як падае кедр. Вопытным вокам Лёша вызначыў месца, куды паваліцца дрэва. Кедр упаў па другі бок вогнішча. Снежны віхор даляцеў скрозь агонь — на твар пырснулі вільготныя кроплі расталага снегу.

Растрывожаны і злосны, сам не ведаючы на каго, вярнуўся Лёша да сваёй бензапілы, адагрэў яе, застылую на марозе, завёў і зноў накінуўся на работу. На ўсю акругу ашалела скавытала яго піла.

— Строчи, пулеметчик, за синий платочек! — весела крыкнуў старэйшы Дрозд, праходзячы міма.

Каб ведаў ён, што адбываецца ў душы «пулеметчика»...

Паляць павалены лес лесарубы і пасоўваюцца ўсё далей і вышэй па адхоне. За іх спінамі дагаралі вогнішчы, на снезе засталіся трэскі, сажа, попел... На камлях, на паваленых дрэвах ляжаць зімовыя спяцоўкі, якія людзі паскідалі, узмакрэўшы ад працы. Адышоў таежны дэсант, і гукі бою ўсё цішэй далятаюць да апусцелай дзялянкі.

Пасля поўдня паваліў пухкі снег. А ў канцы дня за драбналессем, зацярушаным іскрыстым снегам, узнікла ружаватая, нібы размытая вадой, круглая пляма... Пачынаўся захад сонца. Быццам ад лямпы, мяккай чырванню засвяцілася тайга.

На змярканні перастаў снегапад — і туману як не было. Скрозь рэдкалессе адкрылася цудоўная панарама — унізе Кічара з азёрамі і выспачкамі, сіні далягляд, што зліўся з небам, шэра-бурым ад дыму вогнішчаў. На фоне белай заснежанай ракі рэльефна абазначыліся дрэвы, што раслі на ўскраі прасекі: тонкія бярозы, кедры, старыя, замшэлыя лістоўніцы. А нейкія сухастоіны без кары і вершалін стаялі тарчма, нібы тэлеграфныя слупы. Усё гэта адкрылася раптоўна. А зусім нядаўна быў густы туман і здавалася, што, акрамя прасекі, нічога няма на свеце.

У змрочнае неба адлятаюць іскры, патрэсквае, да-

гараючы, драўніна, а недзе далёка, як лясныя сірэны, усё выюць, трывожна выюць бензапілы...

Яшчэ палыхала вячэрняя зара, калі на прасецы паявіўся Чубакоў. Закураныя, стомленыя «рабчыкі» ішлі яму насустрач уніз па адхоне. Яны ішлі на аўтатрасу, дзе іх, як заўсёды, павінна чакаць вахтоўка.

Настырны гэты Чубакоў! Угаварыў брыгаду паехаць з ім на радонавыя крыніцы. Неахвотна згадзіліся хлопцы: дамоў збіраліся, стаміліся вельмі. Усё ж упрасіў прараб. Не пра іх думаў. Пра сябе. Закарцела яму купацца, а дзе машыну возьмеш?

«Урал» стаяў на дарозе ля падножжа сопкі. Вельмі хутка Дзергачоў дамчаў брыгаду да месца.

Тут і ўдзень, нібы адвячоркам: такі густы лес. Сярод векавых разгалістых елак стаіць голая заснежаная скала, з яе і выцякае гаючая цёплая крыніца. Сцякаючы ўніз па стромкім схіле, вада разлівалася раўчукамі, а тыя, прабіўшы сабе шлях па распадку, з бульkatannem беглі далей сярод векавых нерухомых дрэў, быццам апранутых у белае футра. Па дарозе ручаі распадаліся на больш дробныя, сям-там ствараючы неглыбокія басейны. І над усім гэтым разлівам падымалася пара, і ўсё было як у тумане. Там, дзе разліваліся крыніцы, дрэвы чамусьці не раслі, затое было адкрытае неба. Улетку тут кішаць змеі, аблюбаваўшы гэтую парыльню. А зімой бяспечна.

Зноў паваліў снег. Распрануўшыся дагала, напоўніўшы лес апантаным гіканнем, хлопцы з асалодай боўталіся ў цёплай гаючай вадзе. Яшчэ летам яны самі зрабілі купальні, абгарадзіўшы ваду каменнямі і дошкамі. Нават паставілі раздзявальню — сасновы зруб. Купальні былі неглыбокія: калі сядзеш — дык вады па пояс, але выпрастацца лежачы можна.

Ад пары, што падымалася над купальнямі, валасы на галаве пакрыліся наледдзю, але ніхто гэтага не адчуваў. Набоўтаўшыся хвілін пятнаццаць (больш нельга, хто пераседжваў, адчувалі сябе кепска), усе выйшлі з купальняў, ступаючы па снезе басанож, пакуль яшчэ не адчуваючы марозу,— і так лёгка раптам стала спіне і напрацаваным мышцам — хоць ты заспявай! Куды падзелася стомленасць!

— Быццам скінуў гадкоў пятнаццаць,— парадаваўся Чубакоў.

А потым выціраліся майкамі і наспех нацягвалі ка-

шулі на вільготнае, усё ж не абцёртае насуха цела. Але нішто. У кажухах ды ў машыне (хоць і ў кузаве, але пакрытым брызентам) не змерзнуць. Дый ехаць нядоўга, усяго кіламетраў пятнаццаць.

«Урал» каціўся, асвятляючы фарамі бязлюдную дарогу. Цесна прытуліўшыся адзін да аднаго, купальшчыкі выбівалі зубамі чачотку. На паўдарозе машыну раптам пачало кідаць у розныя бакі. «Урал», бы п'яны, праехаў яшчэ метраў дваццаць, звярнуў на абочыну і спыніўся. Бразнулі дзверцы кабіны, зарыпеў пад нагамі снег, і хлопцы пачулі голас шафёра:

— З лёгкай парай, браткі! Прыехалі! Кола разулася.

Усе анямелі.

— Вось дык выкупаліся. Казаў, не трэба ехаць,— нарэшце прабурчаў нехта.

— А яшчэ кажуць у прыкметы не верыць. Калі на крыніцы ехалі, ваверка дарогу перабегла.

— Ой, браточкі! Устаць не магу! Прымёрз! — прастагнаў нехта.

— І я! — пачуўся спалоханы голас.

— Д-ды ўсе мы п-папрымярзалі! — весела аб'явіў невядома чаму ўзрадаваны Дроздзік.

У кузаве грымнуў дружны смех. Ледзь ададраўшы адзін аднаго ад лавак, лесарубы павыскоквалі на залітую месячным святлом дарогу. Рашылі развесці вогнішча, каб сагрэцца і чакаць папутку: мо якая і праедзе. Але каго панясе ў такі позні час па гэтай пустэчы, у баку ад аўтатрасы? На свой «Урал» спадзявацца няма чаго. Яго не адрамантуеш. Пакрышка на адным коле згарэла ўшчэнт, толькі некалькі шматкоў матлялася. А запасной не было. Прыйшлося пакінуць «Урал» на дарозе і дабірацца ў пасёлак пехатой.

Ішлі, увесь час азіраючыся: ці не ідзе якая загулялая? І ўсё ж нагнаў іх самазвал з пяском. Побач з шафёрам маглі сесці толькі двое. Чубакоў ускочыў першы і ўжо з кабіны крыкнуў Рабкову:

— Давай садзіся!

— А як жа людзі?

— Дойдуць!

— Я не паеду,— як адрэзаў Лёша.

— Ну і чорт з табой! — зазлаваў Чубакоў.

— Садзіся, хто жадае,— звярнуўся шафёр да лесарубаў.

Ніхто і з месца не крануўся. У Дзергачова ўсё ж быў намер сесці ў кабіну: надта ж ныла цела, так ныла, быццам хтось яго ледзянымі абцугамі сціснуў. Але нешта падказала Віктару не ехаць з прарабам, а застацца з усімі. І ён застаўся.

Рабкоў разам з хлопцамі пагрузіў у кабіну сякеры, рукзакі, бензапілы. Чубакоў сярдзіта ляпнуў дзверцамі — і самазвал паехаў.

— Прараб у нас — падаруначак,— нявесела сказаў нехта.— Заманіў нас і кінуў.

Чубакова больш не ўспаміналі: ва ўсіх застаўся непрыемны асадак ад яго ўчынку.

— К-катастрофікі! — весела аб'явіў Дроздзік.

— Наперад! — загадаў Рабкоў.

І ўсе пайшлі. А з імі Віктар.

Нейкі час ішлі моўчкі. І раптам Дроздзік заспяваў:

Здесь одна тайга лишь вековая,
Вьюги да метели тут метут.
А где же ты, родная моя мама,
Где же ты, домашний мой уют?

Гэта было так нечакана, што ўсе засмяяліся. Сагрэтыя песняй, прапетай зухаватым голасам, бедалагі ўзбадзёрыліся, і пасыпаліся жарты, вясёлыя ўспаміны накшталт таго, хто як пачынаў працаваць на БАМе.

— Ой, б-браточкі! — заікаючыся загаварыў Дроздзік. Ён быў заікам, толькі спяваў гладка. Але цяпер здавалася, што Валодзя заікаўся ад холаду.— Я папазней за ўсіх п-прыехаў, у ж-жніўні... а ўжо ха-халодна, як увосень. І вось п-прыехаў я. Гляджу: д-дождж ідзе — яны п-працуюць, ліўні сякуць — яны п-працуюць. А ў мяне та-такі мазоль вялікі! Ж-жывот я свой так н-называў... З-заплакаў я горкімі слязьмі. Думаю: па-паеду! Заўтра ж! А ра-раніцою чую: «Пад'ём!» П-пацісную плячыма. Як тут па-паедзеш? Уставаць, аднак, т-трэба, на ра-работу ісці. Потым адчуваю: худзею, худзею, худзею...

Поўніцца смехам начная тайга. Віктар ішоў і думаў аб тым, што правільна зрабіў, застаўшыся з гэтымі дружнымі шчырымі людзьмі. Ён зайздросціў «рабчыкам» светлай зайздрасцю і адчуў жаданне ніколі з імі не разлучацца. «Заўтра ж пайду да Рабкова прасіцца ў брыгаду»,— рашыў Віктар. Ён ужо не думаў пра ўцёкі. Сёння следчы гаварыў з ім як са сведкам.

Адбылося непрадбачанае: уцёк Забелін і тым самым выклікаў да сябе падазронасць. Сёння толькі пра Забеліна пыталіся ў Віктара. Ці даўно ён яго ведае? Куды мог уцячы ці, можа, намякаў? Што ён за чалавек? Віктар расказаў пра напарніка ўсё, што ведаў. Але галоўнае — Дзергачоў ужо не выклікае падазрэння. І зноў Віктар падумаў: як гэта цяжка, калі табе не вераць, калі падазраюць у тым, чаго не рабіў. Але цяпер усё ззаду, і ён рэабілітаваны. Вось чаму Віктару было так лёгка. Ён ужо не адчуваў сябе адрынутым. Як добра яму з гэтымі хлопцамі: здаецца, так бы і ішоў з імі ўсё жыццё. Дзергачоў канчаткова рашыў заўтра ж прасіцца ў брыгаду.

Так разважаў Віктар, крыху сагрэты шпаркай хадой.

— Глядзіце, што гэта? — спалохана спытаў нехта.— Як каціныя вочы.

— За намі крадзецца... Няўжо рысь?!

— Выходзь на сярэдзіну дарогі, хлопцы! Не ідзіце гужам, падцягніцеся! — даў каманду Рабкоў.

Усе паслухмяна падцягнуліся і цяпер ішлі гуртам. Усім стала не па сабе. Людзі ўглядаліся ў тайгу. У небе свяціў месяц і пераміргваліся зоркі, асвятляючы дарогу. А ў тайзе была густая, няпраглядная цемра. І таму выразна было відаць, як з левага боку то хаваліся за дрэвамі, то ўзнікалі дзве зялёныя фасфарычныя кропкі.

— Гэта рысь? — спытаўся нехта баязліва.

— Ты пад дрэвамі не разгульвай,— строга сказаў Рабкоў.

— А мо прамахнецца? — пажартаваў хтосьці.

— Яго шчасце. Рысь двойчы не нападае. Пакіне тэрыторыю. Але прамахнецца рэдка,— сур'ёзна дадаў брыгадзір.

Жартаваць больш не хацелася. Усе ішлі моўчкі. Толькі рыпеў пад нагамі снег ды было чутно дыханне людзей. А дыхаць было цяжка: пад ноч мароз мацнеў і, залазячы ў рот і ноздры, быццам душыў за глотку. Як ні цяжка было ісці апошнія кіламетры, сёй-той азіраўся, ці не крадзецца яшчэ які звер? Але толькі два фасфарычныя вокі паблісквалі з левага боку дарогі, ні на крок не адстаючы ад людзей.

І прыгадаў Рабкоў. З тыдзень назад ён ехаў з Ніжняга. Таксама сапсавалася машына, таксама было поз-

на, і ён з шафёрам, пакінуўшы грузавік, ішлі па дарозе. Цяпер хоць дарогу відаць. А ў той дзень ні табе месяца, ні зорак. Цемра такая, хоць вока выкалі. Раптам збоку дзве зялёныя кропкі бліснулі. Жудасна стала. Так і ішлі ўтрох восем кіламетраў: ён, шафёр і, відаць, рысь. Пакуль не падабрала папутка.

Лёша ведаў, што, калі жыўнасці ў лесе хапае, рысь на чалавека не нападзе, кідаецца толькі параненая. Але з той пары як пачалі будаваць БАМ, лясных жыхароў стала меней. І хто яго ведае, можа, гэтыя кошкі цяпер галадаюць? Асцярожнасць не перашкодзіць.

Усе ішлі цесным гуртам. І Віктар з імі. І зноў Віктар парадаваўся, што застаўся з гэтымі людзьмі. Хоць і мароз, хоць цяжка і небяспечна, але з такімі не страшна.

Рысь кралася па тайзе за дрэвамі ўздоўж трасы. Здалёк данеслася ляскатанне рухавічка электрастанцыі. Драпежныя вочы яшчэ раз бліснулі і згінулі.

Пасёлак быў побач.

## РАЗДЗЕЛ ВОСЬМЫ

### «Флібусцьеры».— Руфіна.— Зноў адзінота

У пасёлак прыйшлі, калі ўсе ўжо спалі. Шпаркая хада стаміла, але не сагрэла. Вільготныя кашулі студзілі і сырасць прабірала да касцей. Знясіленыя, скалелыя, выпілі хлопцы гарачага чаю, пакрысе спірту і спалі як забітыя. А раніцай падняліся, як звычайна: дапамагла сібірская загартаванасць.

Была субота. У гэты нерабочы дзень уся брыгада сыходзілася на застолле. Так павялося ў брыгадзе: па выхадных збіраліся ўсе разам — летам на ўлонні прыроды, зімой у хатах, каб справы свае абмеркаваць ды калі-нікалі «божай расы» з напарстак глынуць для весялосці. Так яно спакайней для Лёшы: усе на вачах, дый пра сямейныя справы даведацца можна, якія патрэбы ў людзей, пра вучобу спытаць. Сам ён вучыўся ў інстытуце, дый шмат хто ў брыгадзе студэнты-завочнікі, сёй-той вячэрнюю школу заканчвае.

А сёння як ніколі хлопцам патрэбна шчырая раз-

мова: столькі хваляванняў за апошні тыдзень — і радасці і расчараванні — у іх трэба разабрацца. Бяседу вырашылі праводзіць у Рабкова. Расстаючыся з брыгадай пасля радонавых крыніц, брыгадзір запрасіў да сябе і Віктара, хоць і не ведаў яго. Але спадабаўся яму ўчынак шафёра, які не кінуў брыгаду ў цяжкую хвіліну.

У выхадны паспаць бы, але Віктар падняўся раней: трэба ехаць па «Урал». Памяняўшы кола, ён прыгнаў машыну ў гараж, паабедаў і пайшоў да Рабкова.

Рабкоў з брыгадай жыў у тым самым шчытавым дзевяцікватэрным доме, за які папракаў яго Чубакоў. Але брыгадзір меў рацыю, пасяліўшы ў ім сем'і лесарубаў. Дзіцячы сад пабудуюць цесляры. Гэта іх справа, для таго і прыехалі сюды. А для рабочых з дзецьмі кватэры важней! Ну жылі б яны ў інтэрнатах для сямейных па некалькі чалавек у адным пакоі, у цесначе і з невыгодамі — і што б было? Не высыпаліся б — і працавалі б горш. Сабе дык вунь якую хаціну адгрукаў! А ці ж ён надрываецца ад працы? Толькі паперы піша. Пісака! А рабочаму ж чалавеку ў першую чаргу ўмовы патрэбны, асабліва сямейнаму. Не, недарма Лёша адстаяў гэты дом, які самі ж будавалі. Тэлефона няма, дык ён пастукае ў сцяну ўмоўным кодам — сусед і прыбяжыць ці другому штосьці перадасць праз тую ж сценку. Зручна, калі ўсе гуртам.

Калі Віктар увайшоў, амаль уся брыгада была ў зборы. Лёшава жонка з маленькай дачкой гасцілі ў маці ў паўднёвым гарадку. Рабкоў гаспадарыў сам.

Чаго толькі не было на абрусе-самаборы, які замянілі газеты, разасланыя на падлозе паверх дывана! І піражкі з капустай, і здобныя булачкі хатняй выпечкі, і салаты з рыбных кансерваў. Пасярэдзіне ўзвышаліся пляшкі з віном. Тут, як і ва ўсіх брыгадах, «сухі закон». Але калі-нікалі брыгадзір дазваляў паласавацца віном, ды толькі сухім. Спірт яны ўжывалі толькі ў выключных выпадках. Для прафілактыкі. Вось як учора, пасля радонавай ванны з паходам у саракаградусны мароз.

Дзверы Лёшавай кватэры не зачыняліся — хто прыходзіў, а хто выходзіў: балазе ўсе жывуць у адным доме, можна на пару хвілін выскачыць ды паглядзець, што ў сям'і робіцца, або замест сябе жонку прыслаць, а самому за дзецьмі прыглядзець. Прыходзілі са сва-

ёй закускай, прыгатаванай жонкай, стол быў па-хатняму ўтульны, сямейны.

Пераступіўшы парог, Віктар быццам у другім свеце апынуўся: ні табе тайгі, ні пякучага марозу, і так добра яму стала. Нават у вачах зашчыпала: прыгадалася маці, хатні спакой...

У пакоі панаваў вясёлы шумок: хлопцы аб нечым спрачаліся, жартавалі. Быў тут і Рустамаў, які вось ужо чатыры дні як паліў ламачча на адхоне (за два дні ўсё ж не ўправіліся).

Спачатку Віктар занепакоіўся, убачыўшы Рустамава, але потым падумаў: «Можа, гэта і лепей... У яго прысутнасці лягчэй будзе прасіцца ў брыгаду. Рустамаў сам жа абяцаў пагаварыць з Рабковым. Толькі каб пра яго мінулае не расказваў».

— А-а, сябар па няшчасцю! — як свайго прывецціў яго Лёша.— Сядай за стол! Дарагім госцем будзеш!

Жыццё ў Сібіры абчасала Віктара, навучыла мірыцца з нягодамі і з першай сустрэчы сыходзіцца з людзьмі. Чаму-чаму, а гэтаму Сібір навучыць, калі не захочаш жыць ваўком.

Дроздзік нешта ціха наігрываў на сяміструннай гітары. Калі Дзергачоў сеў побач з ім, Валодзя паклаў інструмент на калені.

— Ты ад-адкуль? У нас д-даўно? — спытаўся Дроздзік у Віктара.

— У Кічары тры тыдні, а сам я з Мінска,— адказаў той.

— А-а, землячок! Я тут паўгода п-пацэю. У нас тут с-спрэчка. Нашаму «к-камбату» п-прапанавалі ў майстры. На п-павышэнне. А мы не адпускаем. Ён для нас як б-бацька родны. Камбат! — павярнуўся Дроздзік да Рабкова.— К-калі ты ад нас по-пойдзеш — і я за табой. Без цябе не з-змагу.

— Куды мне ісці! Прывык да вас, чарцей,— супакоіў яго Рабкоў.

— Разумееш,— зноў павярнуўся Дроздзік да Віктара.— Гэта такі ча-чалавек! Пра яго т-трэба кнігу пісаць. Ён адзін паўбрыгады варты.

— Не перабірай,— нахмурыўся Рабкоў.

— А ты, камбат, не п-перабівай.— Валодзя нахіліўся да вуха Дзергачова.— У камбата хутка с-сямейны юбілей. Яго б-батальён р-разам з жонкамі і дзецьмі п-пяць гадоў па Сібіры вандруе... а ра-разлучацца з

камбатам ніхто не ж-жадае. І мой б-братан таксама. Іван мой хлопец што трэба. Ф-фізкультурны інстытут с-скончыў, а ў рабочыя п-пацягнула. Маляром працаваў, токарам, ра-рамонтнікам на з-заводзе... і вось на БАМе. Братан! Зрабі ласку. Р-раскажы земляку, як Паўночна-Байкальск б-будаваў.

— Угаманіся,— паспрабаваў ухіліцца старэйшы Дрозд. Цяпер, у хатніх умовах, твар яго быў мякчэйшы. Белабрысы дзяцюк з добразычлівым круглым тварам і пульхнымі вуснамі, Іван, мусіць, не любіў раскрывацца перад людзьмі, тым больш незнаёмымі. І па тым, як ён гаварыў, павольна і распеўна, як трымаў сябе, у ім адчувалася ўраўнаважанасць, чаго не хапала яго малодшаму брату, такому ж росламу, камлюкаватаму прыгожаму кучараваму брунету.

— Што тут расказваць? — неахвотна пачаў усё ж Іван.— Ну, прыехаў я. Іду ў кантору. Прашуся ў брыгаду Рабкова — не бяруць. А тут Лёша ўваходзіць. Пытаюцца: «Возьмеш?» Паглядзеў на мяне ўважліва Лёшка і кажа: «Вазьму». Так я ў яго брыгадзе апынуўся. У маі, помню, прыехаў. Спачатку на траншэях, на пракладцы кабеля рабіў. Ломікам зямлю дзёўб. Без рукавіц. Усім не хапіла. А мароз яшчэ градусаў за дваццаць. Сібір жа, хоць і вясна... Далоні потныя... да ломіка прымярзаюць... усю скуру паздзіраў. Але не кідаць жа ломік у першы дзень. Скажуць: здрэйфіў! Нічога. Вытрымаў. Дапамагло, мусіць, тое, што пасля фізкультурнага на будоўлі працаваў. Праўда, потым з забінтаванымі рукамі хадзіў. Ой, распякаў мяне Лёша!.. Ды што расказваць. Ты да нас ідзі. Не баісь. Спачатку цяжка будзе.— Іван зірнуў у бок Рабкова і, панізіўшы голас, каб не пачуў брыгадзір, зашаптаў Віктару: — Калі ты разумны мужык, сам сцяміш: такіх, як наш камбат, днём і агнём не знайсці. Ён разумее нас. Мяне, Валодзьку, Белазёрава... Другі б нас адштурхнуў, а Лёша не... Гэта такі чалавек!.. Слоў няма. Верыць нам. Але дысцыпліна-а-а... жорсткая! Спаць — дык спаць, працаваць — дык працаваць. Іначай нельга. Цяжка мне было на новы лад сябе перайначваць. Без бацькі рос. Бацька працаваў брыгадзірам на пасажырскім. Закладваў здорава, ну і трапіў пад цягнік. Маці ў сталоўцы рабіла, з двума саплякамі не ўпраўлялася. Адбіўся я ад рук, басячыць пачаў і ў калонію трапіў. А вось Лёша з мяне чалавека зрабіў. Папраца-

ваў я з ім год, ажаніўся, сынок ужо расце. Дый не толькі мяне ён падняў. І Сашу Белазёрава таксама. Не пазнаць цяпер хлопца. Камсорг брыгады. Дый Валодзьку майго выцягнуў. Яго вуліца, як і мяне, выхоўвала. Ды ён сам табе раскажа...

Дроздзік уважліва слухаў старэйшага брата і ціха наігрываў на гітары, падпяваючы напаўголаса. І калі той змоўк, ён адразу ж з вясёлай зухаватасцю расказаў пра сябе:

— У мяне залёт не вельмі культурны быў. Пабіў аднойчы дзядзьку — два гадкі ўмоўна. Завод на парукі ўзяў. А было так. Выйшлі мы ад гасцей. Я і мая дзяўчына. Ну, выпілі там крыху, вядома. Па дарозе пасварыліся. І рассталіся назаўсёды. З гора я яшчэ паддаў. Іду па вуліцы. Позна ўжо. А тут дзядзька нейкі прычапіўся: запалак яму дай. Я кажу яму: «Дзядзька, ідзі дамоў». А ён не ідзе. Дай яму прыкурыць, і ўсё тут. Ну, я і даў... Хруснула нешта ў яго. Вось і адхапіў два гадкі. Маці плача: «З'ехаў бы ты з маіх вачэй! Каб цябе зямля не насіла!..» Ну, усё, думаю, кончылася маё жыццё. А тут братан з БАМа прыехаў, пра сваю брыгаду расказвае, аж захліпаецца: брыгада, кажа — во! А хлопцы — во! Пераканаў мяне Іван. Паехаў я. І што ты думаеш — чалавекам стаў! То ледзь на самым дне не апынуўся, то раптам на Дошку пашаны ўзляцеў!..— Дроздзік адпіў маленькі глыток.— Ты не глядзі, што я віно п'ю. Квасок жа. А наконт «зялёнага змія» ў нас строга. Двух хлопцаў з брыгады за гэта мы ж самі і выгналі. А якая ад іх карысць? Дый страху набярэшся: а што, калі дрэвам прыдушыць? Мы тады ў палатках жылі. За два месяцы чалавека можна спазнаць, калі з ім у адной палатцы жыць... Ты частуйся, браце, не саромся. Нашы гаспадынькі смачна гатуюць. У брыгадзе ўсе жанатыя. Вось толькі я халасты. А твая дзе?

— Адзін я,— сумна адказаў Віктар.

— А ты не бядуй. Мы цябе тут хутка ажэнім. Дзяўчат у нас небагата, але ты хлопец відны. Любая за цябе пойдзе. Нашы прыгажуні ў дзеўках не сядзяць. За паўгода тут амаль усе паражаніліся. І я, мусіць, хутка ажанюся. Ёсць тут у мяне дзяўчына...

Віктар слухаў братоў, і жаданне быць побач з гэтымі людзьмі ў яго душы ўсё мацнела. Як ім, мусіць, лёгка і цікава. А ён адзін, зусім адзін, як трухлявы пень

пры дарозе. А як хочацца і яму вось такога жыцця. Цяпер ён ведае цану сапраўдным людзям. Да гэтай пары яму даводзілася працаваць з шабашнікамі. І якасць не тая, і заробак не той. Ды і брыгадзіры былі не лепшыя. А тут... Віктар даўно чуў, што на БАМе народ іншай закваскі.

Ледзь кранаючы струны, Дроздзік заспяваў напаўголаса. На супрацьлеглым канцы стала брыгадзір распякаў хлопца за тое, што ён адаслаў у інстытут кантрольную работу, якую зрабіла замест яго жонка.

— Запомні: калі яшчэ раз пачую — з брыгадай развітаешся.

Лёшаў твар нават пачырванеў ад гневу, і голас быў строгі. Але дакараў ён усё ж па-бацькоўску, не злосна. Хлопец сядзеў збянтэжаны, апусціўшы галаву.

— А хто табе сказаў? — толькі і спытаўся ён у брыгадзіра.

— Сарока на хвасце прынесла, вось хто. А жонку крыўдзіць не смей. Даведаюся — кепска будзе. Гэта ж трэба! З Іркуцка прыязджаюць да яго настаўнікі прымаць экзамены, лекцыі чытаюць — давай толькі вучыся! А ён... Як жа ты цягнік будзеш вадзіць, калі скончыш інстытут? Жонку за пульт кіравання пасадзіш?..

У гэтую хвіліну на парозе ўзнікла дзяўчына. Бялявая, з блакітнымі, крыху спалоханымі вачыма, з румянымі шчокамі, са свавольным разлётам броваў і валявым падбародкам. І нешта дзікунскае было ва ўсім яе абліччы. Нячутна, амаль па-кашэчаму, яна абышла наўкол абруса і прысела якраз насупраць Віктара. Яна прысела лёгка, быццам спружыніла — і ў гэтым руху адчулася дужае, гнуткае цела не гарадской спешчанай красуні, а дзяўчыны, якая пабывала ў далёкіх паходах, знаёмай з маразамі і спёкай... Віктару яна здалася вядзьмаркай. Убачыўшы таежную прыгажуню, ён з хвіліну не мог апамятацца, нават дух заняло.

З яе прыходам чамусьці ўсе змоўклі. І Віктар падумаў, што гэта ад уражання, якое зрабіла на ўсіх новая госця. Хто гэта дзяўчына? Чыя яна? Віктар адчуў, як рэўнасць да невядомага саперніка заварушылася ў яго сэрцы.

— Добры дзень, Руфіна,— прывітаў яе за ўсіх Рабкоў.

Руфіна моўчкі кіўнула. І потым, на працягу ўсёй

бяседы, не вымавіла аніводнага слова. Толькі ў куточках вуснаў блукала ўсмешка, таямнічая, як у Джаконды. Дарэчы, гэта ж усмешка свяцілася і ў яе здзіўленых вачах, якія з вялікай цікаўнасцю сачылі за ўсімі.

Убачыўшы Віктара, Руфіна з несхаванай цікавасцю пазірала на яго. Калі іх вочы сустракаліся, хлопец апускаў павейкі: блакітны бляск вачэй апякаў яго. І здалося Віктару, што зусім нядаўна ён адчуў нешта падобнае. Прыгадаў! Гэта было ўчора раніцай, калі ён мыўся снегам. У месячным святле сняжынкі ззялі блакітам, як зорны россып, і калі ён узяў іх у прыгаршчы і паднёс да твару — шчокі апякло сцюжай. Вочы Руфіны таксама ззялі блакітам, і калі дзяўчына глядзела на Віктара, яго апякала то сцюжай, то спёкай. Заўважыў Віктар і тое, што хлопцы не-не ды і пазіралі на яе крадком. Але Руфіна быццам не бачыла гэтага і з усімі была роўная. Віктару вельмі хацелася пачуць яе голас. Але тая з цікаўнасцю маленькай дзяўчынкі прыслухоўвалася да ўсяго, аб чым гаварылі, а сама ўпарта маўчала. Гаворка пачала затухаць. Рабкоў настроіў гітару, потым лёгка ўдарыў па струнах раз, другі і, задумліва гледзячы ў акно, сіплаватым галасам заспяваў. Хлопцы яму падпявалі:

Но настанет час и мы проложим
Трассу, что тянули на Сургут,
И увидим, как с веселым стуком
Поезда на Север побегут.
А мы опять туда,
Где лишь одна тайга,
Туда, где трассу новую ведут.

— Вось ч-чаму мы ў К-кічары! — весела ўсклікнуў Драздзік, калі песня скончылася.

— Што вы пелі? — спытаў яго Дзергачоў.

— Спадабалася? «Цюмень — Сургут» называецца. Лёшава песня. Ён і паэт і кампазітар. Што сам перажыў, тое і піша,— растлумачыў Валодзя.

Песні спявалі адну за адной.

Потым Віктар бачыў, як Рустамаў нахіліўся да Рабкова і штосьці яму гаварыў. Брыгадзір час ад часу ўважліва пазіраў на Віктара. У таго замерла сэрца: няўжо Рустамаў аб мінулым раскажа?! І раптам Рабкоў, перакрываючы ўсе галасы, аб'явіў:

— Увага, таварышы! У нашу брыгаду просіцца Віктар Дзергачоў. Што вы на гэта скажаце? — І, гледзя-

чы на Віктара, ён дадаў: — Такое пытанне ў нас рашае не толькі брыгадзір.

Усе глядзелі на Віктара. Дроздзік сказаў:

— Чаму не прыняць? Хлопец ён дужы, нашай, рабочай касці. Ды і спагадлівы, пэўна. Разам з намі пайшоў, не ўцёк, не кінуў у тайзе.

— Хай пра сябе раскажа,— рашыла брыгада.

Віктар разгубіўся, не ведаючы, з чаго пачаць. Але тут яго выручыў Дроздзік.

— Ты не баісь. І мяне так прымалі. У нас сакрэтаў няма. Адзін аб адным усё ведаем. Усё кажы, не ўтойвай. Цябе зразумеюць. Пачні з таго, адкуль ты родам. Тое, што ты бадзяга, мы ведаем. Самі такія.

— «Ах, расскажи, расскажи, бродяга, чей ты родом, откуда ты?» — праспяваў нехта танюсенькім галаском.

Усе засмяяліся. Падбадзёраны гэтым жартам, Віктар пачаў:

— Прыехаў з Мінска. Тры гады працаваў на сібірскіх будоўлях шафёрам — будаваў Усць-Ілімскі канал, рабіў на Бадарме, у мехкалоне ў пасёлку Зорным. Цяпер вось тут на адсыпцы. Тэрмінова да вас накіравалі.

— Чаму? — пацікавіўся Рабкоў.

— Пасля выпадку на зімніку... Я ж разам з гэтым... Сергіенкам...— Віктар змоўк, заўважыўшы, як раптам змяніўся ў твары Рабкоў, які цяпер глядзеў на яго адчужана, прыжмурыўшы вочы.— Я з ім быў...— ціха прамовіў Віктар, перавёўшы спалоханы позірк на прыціхлых хлопцаў.

Твары людзей, толькі што добрыя, вясёлыя, цяпер таксама былі пахмурныя і чужыя.

— У наш батальён хочаш...— робячы націск на кожным слове, нарэшце загаварыў Рабкоў.

Віктар улавіў у гэтым голасе метал і яшчэ нешта такое, што прымусіла яго апусціць галаву і ўсяму сціснуцца.

Запанавала цяжкае маўчанне.

— Гэта... не я,— ледзь чутна выціснуў з сябе Віктар.

— А хто ж? — сурова прагучала пытанне брыгадзіра.— Ці не ты чалавека аднаго ў тайзе кінуў?

— Каб я ведаў...

— Такі хлопец быў! — са скрухай сказаў нехта.— Надзейны. Аб-са-лют-на!.. Эх ты-ы!..

Зразумеўшы намёк, Віктару захацелася абараніць сябе, апраўдаць. Але штосьці яго стрымала. У пакоі і без таго быццам навісла хмара. І раптам у гэтай цішыні нешта нясмела і жаласліва прагучала раз, яшчэ — гэта пальцы брыгадзіра ціха кранулі струны. Перабіраючы іх асцярожна, Лёша нібы прыслухоўваўся да іх, нібы пытаўся: ці адгукнуцца яны на яго боль, што завяз у грудзях, боль, які ён не можа больш насіць у сабе, не можа стрымліваць? Гітара згодна адгукнулася.

Лёша спяваў з нейкім адчаем і разам з тым сурова і задушэўна. На вачах яго выступілі слёзы.

У Віктара было такое адчуванне, быццам яго, зусім голага, выставілі на шасцідзесяціградусны мароз і ён, ужо скаваны лёдам, не можа паварухнуцца. Усё ў ім абмярцвела. Толькі цяпер ён зразумеў увесь цяжар сваёй віны.

Як зачараваны глядзеў Віктар на правую руку Рабкова, якая мерна ўдарала па струнах. На тыльным баку далоні ён бачыў наколку, але не мог разгледзець яе ўзор, таму што сядзеў досыць далёка. Утаропіўшыся на Лёшаву руку, Віктар баяўся падняць вочы, каб не ўбачыць твары людзей, якія асудзілі яго і адштурхнулі. Устаць бы зараз ды пайсці — але быццам хтось прыкаваў яго. Так і сядзеў ён зніклы, адзінокі.

Песня змоўкла. З хвіліну Лёша сядзеў, задумліва гледзячы некуды ў кут. Панавала панурая цішыня.

Старэйшы Дрозд раптам схамянуўся і сярдзітым басам крыкнуў:

— Што вы, чэрці, затужылі!

І тут Лёша рашуча ўдарыў па струнах і заспяваў «Брыганціну». Усе падхапілі. Спявалі так страсна пасля перажытага хвалявання, нібы хацелі ўтапіць у гэтым пачуцці боль па тых, каго не вернеш. І здавалася, што песня для гэтых людзей — крыніца, з якой яны чэрпаюць мужнасць. І здавалася, што гэта яны флібусцьеры, вось гэтыя, абсалютна надзейныя хлопцы. Непрымірымасць гучала ў іх галасах да маладушных баязліўцаў, якіх не прымаюць іхнія людзі, людзі брыгады «камбата».

Віктар зразумеў гэта. І зусім панік. На яго шкада было глядзець: такі ён быў няшчасны.

Усе паводзілі сябе так, быццам Віктара тут і не было. Быццам наогул тут нічога такога не адбылося.

Забыліся на Віктара. Зусім забыліся... Так, гэта быў

прысуд. Віктар адчуваў сябе невыказна адзінокім. Зараз ён устане і пойдзе. Але як цяжка гэта зрабіць, пайсці так, каб ніхто не бачыў...

— Камбат, што ж гэта такое? Ніякай культурнай сувязі з Вялікай зямлёй — пласцінкі не шлюць, кнігі не шлюць...

— Піва не шлюць!

— Ды змоўкні ты са сваім півам!.. Музычныя інструменты не шлюць! Даўно б ансамбль быў. А то кожная мошка табе заўвагу робіць: у вас, маўляў, толькі патагонная сістэма, а культуры аніякай! А хіба гэта так? Вунь колькі талентаў прападае: тры гітарысты, чатыры салісты, Белазёраў і Дроздзік дуэтам спяваюць — заслухацца можна! У нас жа пеўчы батальён!

— Во-во! Не брыгада, а птушнік: дроздзікі, рабчыкі...

— Пеўнікі...

А Віктара быццам няма. Ён знайшоў у сабе сілы падняцца і, не развітаўшыся, ціха выйшаў з пакоя. Ніхто як быццам і не заўважыў гэтага. Адна Руфіна праводзіла яго доўгім, трывожным, спалоханым позіркам.

Віктар ішоў, задумаўшыся, і амаль не чуў, як ад яго цяжкіх крокаў незвычайна гучна рыпеў снег на бязлюдных вуліцах ужо заціхлага пасёлка. Іншы раз спешна праходзіў хто-небудзь, але, не дайшоўшы да Віктара, зварочваў у завулак. Ліхтары на слупах рэдзенькім жоўтым святлом асвятлялі дарогу, што вяла на другі канец пасёлка: там стаялі халасцяцкія інтэрнаты і вагончыкі, у адным з якіх цяпер жыве Віктар.

Як ніколі, адчуваў сваю адзіноту Віктар. А зусім нядаўна ён быў перапоўнены самымі светлымі надзеямі, яму здавалася, што яго прымуць у брыгаду і нарэшце ён стане такім, як усе. Цяпер усё прапала. Стаміўся ён ад такога жыцця: і людзі побач, а жыве адзінока, адчужана. Мо паехаць адсюль? Але куды? Навошта? Так і бадзяцца ўсё жыццё, як «зорнаму хлопчыку»? Дый чаму ён павінен бегчы? Ад каго? Ад сябе? Гэта немагчыма. Віктар успомніў, як Аня яшчэ ў будаўнічым атрадзе неяк сказала яму: «Ад сябе не ўцячэш». Што праўда, то праўда — ад сябе нікуды не падзецца. А жыццё — яно ўсюды адно. Жыццё — як вялікая кузня: камусьці горача, камусьці холадна. А бывае, і ўперамешку. І галоўнае ў ёй — кавалі. Кавалі — гэта «рабковы», «рустамавы», і такія, як Аня. А ён, Віктар, уся-

го толькі знявечаная балванка, якую то на кавадле дубасяць, то ў агонь сунуць, то ў ледзяную ваду акунаюць. Гэта яму, Віктару, то горача, то халодна. Усё чысцяць яго, шліфуюць, выраўняць хочуць — а ён ніяк не паддаецца. Не паддаецца?.. Хіба?.. А можа, выпраўляюць, а самі не вераць у яго? Вось як сёння. Ці калі Рустамава сустрэў і той спытаўся: «Да Рабкова хочаш? Аб высокіх заробках прачуў?» Ну навошта так спытаўся? Не верыць яму? Другі цяпер Віктар. Не той. Не, не грошы яму патрэбны. Ёсць у яго гэты метал. Зарабіў за некалькі год. Туга па людзях добрых у яго, па такіх, як гэтыя «флібусцьеры», «абсалютна надзейныя хлопцы». За тры гады ў Сібіры ўсяго нагледзеўся Віктар. Уведаў, пачым фунт ліха. А пра Рабкова яму Сергіенка расказваў. Хваліў яго вельмі. Збіраўся ў яго брыгаду вярнуцца ды Віктара з сабой прыхапіць. Але не паспеў. Жыццё па-свойму распарадзілася. Рабкоў мае рацыю. Віктар вінаваты, што чалавека аднаго кінуў. Каб жа ён ведаў, каб толькі ведаў!.. Ну пападзіся яму Забелін — Віктар у барановы рог яго скруціць!.. Ох ты, як цяжка... Туга такая, хоць ты ваўком завый. А ён жа воўк і ёсць. Адзінокі, затраўлены воўк. І суцешыць няма каму. Дый каму ён такі патрэбен?..

І ўявілася Віктару, як ён прыйдзе ў вагончык, ляжа ў сваю астылую пасцель... А час бы ўжо прыгожа жыць. Трыццаць гадоў — узрост сямейны. І раптам перад ім узніклі блакітныя вочы Руфіны. Як зорны россып, які ён чэрпаў прыгаршчамі. І падумаў Віктар: а ці не быў гэты зорны снег знакам? Ці не да вялікай перамены ў яго жыцці? Ён зразумеў: усё, што было ў яго да гэтай пары з дзяўчатамі — выпадковае, мімалётнае. А вось Руфіна... салодкае хваляванне агарнула яго пры адным толькі ўспаміне аб гэтай дзяўчыне. І здалося Віктару, што нягледзячы на тую кару, якую ўчынілі яму «рабчыкі», вочы Руфіны, толькі яны адны, усё ж не адрынулі Віктара, а глядзелі на яго чулліва. І няясная надзея зацеплілася ў яго душы. І стала крышачку лягчэй. Не, нікуды ён адсюль не паедзе. Пара кінуць якар. Віктар сэрцам адчуў, што ў Руфіны нікога няма, і разумеў, што такую дзяўчыну трэба заваёўваць. «А раптам і яна кіне ў мяне камень, як кідалі ў таго «зорнага хлопчыка»? — са страхам падумаў Віктар. Трэба нешта рабіць. Ён зразумеў, што ад Руфіны паехаць ужо не зможа. І гэта думка была яму прыемнай.

— Ну што ж, наперад! Смялей да добрых спраў, каб заслужыць любоў, спяшайся да свайго шчасця,— з горкай усмешкай сказаў самому сабе Віктар.

На душы ў яго стала спакайней. Звонка рыпеў снег ад яго крокаў.

## РАЗДЗЕЛ ДЗЕВЯТЫ

### «Фядотаў — хто ж вы?» — «Да трэціх пеўняў».— Міласэрная сястра

Як хутка ляціць час! Быццам з-пад зямлі павыскоквалі новыя дамы ў пасёлку, а прасекі для трасы і лініі электраперадачы дзвюма паралелямі ўразаліся ў тайгу настолькі імкліва, што леснікі ды паляўнічыя толькі языкамі цмокалі. «Адзін раз снег растане ў гарах — і поезд паедзе!» — пачалі пагаворваць яны. Не, не адзін яшчэ раз снег растане ў гарах, пакуль паедзе поезд. Але праца ішла спорна.

«Тэмп працы такі вялікі, што іншы раз месяц на БАМе раўняецца году»,— сказаў неяк Ані намеснік начальніка поезда Фядотаў. Паварыхай яна не стала: калі тэрмінова спатрэбіўся намеснік начальніка поезда па выхаванню моладзі, выбар спыніўся на Ані. Фядотаў сказаў ёй: «Нам патрэбен сумленны і добры таварыш. Вы — член партыі. Мы спадзяёмся на вас». Яе сур'ёзнасць спадабалася Фядотаву. Аня ўжо не раз звярталася да яго з рознымі пытаннямі. Адбылася ў іх размова і аб халодненцах: Аня расказала аб тым, што бачыла і чула ў тунгускім пасёлку — пра разбураны мост, пра спілаваныя электрычныя і тэлефонныя слупы, пра тое, што людзі не задаволены не толькі гэтым, але і тым, што паўцякалі звяры і знішчаецца рыба.

Фядотаў выслухаў Аню вельмі ўважліва і пераканаў яе ў тым, што ва ўсім гэтым няма нічога дзіўнага, бо калі пачынаецца вялікая будоўля, не абыходзіцца без памылак: загадзя ўсё не прадугледзіш. Але потым усе страты акупяцца. Фядотаў гаварыў так пераканаўча, што Аня паверыла яму і супакоілася.

Але сёння паміж імі адбылася непрыемная размова. Аня даведалася, што першае месца, якое праараб выпрасіў у Рабкова за мінулы квартал, дасталося не Шутаву,

а... Бандарчуку! Гэты падман стаў вядомы ўсяму атраду, людзі абураліся. Дзеля чаго спатрэбілася гэта Чубакову і Бандарчуку, пакуль што ніхто не ведаў. Аня вырашыла шчыра пагаварыць з Фядотавым. Да яе дайшлі чуткі і пра тое, што мост у Халодным брыгада Бандарчука рамантавала не за «дзякуй». Рамонт быў аплочаны вельмі высока, але гэта ўтойваюць. Дзеля чаго спатрэбіўся гэты маскарад?» — дзівілася Аня. Каб паказаць бескарыслівасць брыгадзіра?.. Але бог з ім, з мостам. Можа, потым брыгада не згадзілася працаваць бясплатна. А вось першае месца, аддадзенае Бандарчуку,— гэта пытанне сур'ёзнае. Таму што калі аплату за мост чым-небудзь можна растлумачыць, дык для гісторыі з першым месцам, бадай, ніякага тлумачэння не прыдумаць. Дый не схаваеш гэты факт, таму што перадавікоў вывешваюць у «маланцы», на самае віднае месца. І прыгадала Аня легенду, якую расказаў ёй Рыгор, што падвозіў яе з Халоднага ў Кічару. І падумала: «Здаецца, ён меў рацыю, параўнаўшы Бандарчука з маленькай птушкай, якая занадта высока ўзляцела да сонца і ўпала з апаленымі крылцамі. Падтасоўка з першым месцам — ці не пачатак падзення Бандарчука?..»

У брыгадзе адчувалася нездаволенасць. Падмануты і засмучаны Рабкоў адмовіўся высвятляць гэтае пытанне: сціпласць не дазваляла яму. І Аня сама вырашыла вывесці на чыстую ваду «вялікіх камбінатараў». З гэтым яна і пайшла да Фядотава.

Дзень яшчэ толькі пачынаўся. Кіраўніцтва, як звычайна, сабралася на «пяцімінутку» ў начальніка поезда. Калі Аня ўвайшла ў кабінет Яцэнкі, там вырашалася пытанне: каго паслаць на два месяцы на ўкладку другога пуці ў Тайшэт — Лену, бо тэрмінова патрабуецца дапамога: працы шмат, а людзей не знойдзеш.

— На прарыў трэба паслаць моцную брыгаду. Давайце пашлем Бандарчука,— прапанаваў Яцэнка.

— Ні ў якім разе! У яго ж тэатр! Яму рэпеціраваць трэба! На гастролі выязджаць! — аж падскочыў Чубакоў.

— Тады Рабкова,— прапанаваў нехта.

— Вы што, звар'яцелі?! А хто ж працаваць будзе? У камандзіроўкі трэба пасылаць адстаючыя брыгады. Вось Шутава, напрыклад. Яго мы і пашлем! — заявіў Чубакоў.

Усе згадзіліся. Прараб лепш ведае: брыгады лесарубаў яго, ён адказвае за парубку.

«А Шутаў, здаецца, тут казёл адпушчэння, як некалі Сярожа Казлоў у «Блакітным экспрэсе»,— падумала Аня.

Аня пайшла ўслед за Фядотавым, які накіраваўся ў свой вагон.

Фядотаў выслухаў яе з алімпійскім спакоем. Ён слухаў, апусціўшы вочы, быццам нешта вельмі ўважліва разглядаў на стале. Потым загаварыў. Гаварыў ён доўга, не спяшаючыся, аўтарытэтна, быццам чытаў лекцыю па загадзя падрыхтаваным канспекце. І так хітра расстаўляў паўзы, што Ані не ўдавалася ўставіць аніводнага слова.

А пачаў ён здалёк:

— Асоба і калектыў — праблема вечная. Нездаровы калектыў можа загубіць чалавека, і наадварот, калектыў са здаровым маральнымм кліматам спрые фарміраванню асобы, выяўляе лепшыя чалавечыя якасці. І галоўнае, што фарміруе чалавека — гэта праца. Працоўны калектыў — гэта вялікая сіла... Вы толькі паглядзіце, што мы зрабілі за паўгода! Усякія непаладкі ўзнікаюць у калектыве, але і на працоўныя поспехі не звяртаць увагі не след.

Фядотаў гаварыў гладка, дакладна. Быццам з трыбуны. І ўсё ж непрыемна было, што ён выказвае нібы загадзя падрыхтаваныя аксіёмы. Спадабалася Ані, што Фядотаў хваліць яе землякоў-беларусаў, але ж не па гэтую пахвалу прыйшла да яго Аня! Чаму ён ухіляецца ад асноўнай размовы? Але перабіваць яго не пасмела: яна адчувала сябе студэнткай на лекцыі ў інстытуце.

— За два першыя месяцы шмат людзей паўцякала,— працягваў Фядотаў.— Таму што прыслалі непадрыхтаваную моладзь. А некаторых мы самі дамоў адправілі. Я ўжо дваццаць гадоў працую на ўдарных будоўлях, шмат чаго пабачыў. Вы ведаеце, як пішуць пра БАМ? Добра пішуць. Прыгожа. Але пісаць трэба больш аб цяжкасцях, якія мы зазнаем у сувязі з недахопам будаўнічых матэрыялаў, транспарту, зімовага спецадзення і ўсякіх нястач.

Аня слухала Фядотава і згаджалася з усім, што ён гаварыў, настолькі ўсё было проста і ясна. А ён так за-

хапіўся, што і не заўважаў, як яго спакваля разглядае Аня.

Фядотаў ужо немалады. Гадоў за сорак. Высокі, у гімнасцёрцы зеленаватага колеру; русыя, з чуць прыкметнай сівізной валасы, зачасаныя назад, адкрывалі высокі разумны лоб. Вочы шэрыя, уважлівыя, ледзь прыжмураныя, валявы падбародак, голас нізкаваты, роўны. Але ў постаці яго было нешта халоднае, быццам высечаны ён з каменя. «Чалавек-манумент»,— падумала Аня.

Фядотаў ужо не сядзеў за сталом, як у пачатку размовы, а хадзіў па вагоне, ад акна да электраабагравальніка з распаленай да чырвані спіраллю. Падыходзячы да печкі, Фядотаў грэў над ёю рукі. Яго крокі прыглушалі мядзвежыя унты з вывернутым наверх футрам.

Аня слухала роўны, спакойны голас Фядотава і верыла яму.

— Вы кажаце, крыўдзяцца на нас. А ці ж мы вінаватыя? Вось вам прыклад. Будуе брыгада цесляроў пілараму. Усё як быццам нармальна. І брыгада лічыцца добрай, а настрой у моладзі сапсаваны: прастой за прастоем, няма будаўнічага матэрыялу. А чаму яго няма? Хто вінаваты? Будаўнічы трэст вінаваты. Просім, просім — дайце цвікі, дайце малаткі! Дзе там! Быццам і не чуюць. Ці ж мы вінаваты?.. А гэтых жа штучных цяжкасцей магло і не быць.

Фядотаў гаварыў аб тым, што моладзь, ад'язджаючы на БАМ, марыла, вядома, не аб такіх цяжкасцях, а аб натуральных, каб праверыць сябе і ў сцюжу і ў спёку... ды ці мала іх, усякіх нягод у Сібіры! Адна машкара чаго варта! Заесці можа!

— Не ўсе вытрымліваюць. А некаторыя, хто і застаўся, свае благія звычкі тут укаранілі, звычкі, з якімі трэба змагацца. Ёсць, напрыклад, людзі, якія бачаць сэнс жыцця ў тым, каб набываць рэчы. Ужо ў маладыя гады! Я ўвогуле не супраць гэтага. Але калі гэта становіцца самамэтай, галоўным у жыцці — чалавек ператвараецца ў абывацеля. І з гэтым трэба змагацца. Цяжка, вельмі цяжка за ўсім угледзець. Ёсць у нас кіраўнікі, якія перагінаюць палку. І каб потым зняць з сябе адказнасць, заяўляюць: гэта БАМ, ведалі, куды ехалі. Гэта няправільна. Такіх кіраўнікоў трэба перавыхоўваць або здымаць. Бывае, што і мы памыляемся. І мы не святыя. Ды ёсць сярод камсамольскіх важакоў такія

зубастыя, што пальца ў рот ім не кладзі — адкусяць! Быў у нас адзін такі, Саша Каплеў. Да вас выхавацелем працаваў. Крытыкаваць нас любіў. Ну што ж, малайчына! На павышэнне пайшоў. У Ніжнім цяпер працуе. Не думайце, што мы такія ўжо бессардэчныя,— Фядотаў дастаў з шуфляды пісьмовага стала паперу.— Вось глядзіце. З Паўночна-Байкальска прыслалі загад аб узнагародзе чатырох чалавек за добрую працу на Даване. У ліку ўзнагароджаных і Шутаў. Абком запатрабаваў на ўсіх характарыстыкі, а на Шутава характарыстыка ў нас не вельмі... Дысцыпліна ў яго кульгае. Праўда, цяпер ён паводзіць сябе лепей. Павалтузіліся мы з ім. Але працуе хлопец адчайна. І мы не павінны блытаць адно з другім. Да ўзнагароды мы яго прадставім. Кіраўніцтва павінна быць гуманным. Хто бярэцца кіраваць калектывам, той павінен разумець, што за ім стаяць людзі.

Фядотаў зірнуў на гадзіннік і падняўся.

— Прабачце, мне пара.

— Валерый Пятровіч, а як жа...

— Не, не! Я не забыўся! — перабіў Аню Фядотаў.— Што гэта за метад! Ці ж так падцягваюць адстаючых? Хай самі заваююць першае месца, а не бяруць яго ў пазыку. Бач, што надумалі? Я пагавару з Чубаковым. Вы не хвалюйцеся, любая, мы разбярэмся самі.

Гаворачы апошнюю фразу, Фядотаў неяк вельмі выразна прамовіў слова «самі» і паглядзеў на Аню доўгім уважлівым позіркам. Потым далікатна раскланяўся з ёю, даючы зразумець, што час візіту скончыўся.

Ідучы ад Фядотава, Аня злавіла сябе на думцы, што слухаць гэтага чалавека ёй было прыемна. Прыгадала і тое, што заўсёды, пагаварыўшы з ім, яна адчувала заспакаенне і ўсе яе трывогі некуды знікалі. Вось і зараз Аня ішла і думала, што не так ужо і страшна, з гэтым пытаннем разбяруцца, і ўсё будзе добра. Але раптам яе ахапіла сумненне: ці шчыры з ёю Фядотаў? Няясная трывога закралася ў Аніна сэрца. А чаму? Можа, таму, што Фядотаў ухіляўся ад пытання, з якім яна прыйшла да яго? А што, калі б Аня не напомніла яму ў канцы размовы, ён, пэўна, зрабіў бы выгляд, што і забыўся зусім?.. А Каплеў?.. Можа, пазбавіліся ад яго, каб ён не выступаў супраць начальства?.. «Ох, якая ж я стала недаверлівая! Мусіць, характар з узростам псуецца. А можа, гэта нервовасць таму, што я цяжар-

ная?» — шукала адказу на свае пытанні Аня. Як бы там ні было, але сёння яна ўсумнілася ў шчырасці Фядотава. Прыгадаўшы ўсе свае візіты, супаставіўшы словы яго са справамі, Аня раптам адчула недавер да гэтага красамоўнага чалавека. Яна зразумела, што за яго шматслоўем адны абяцанні. «Вось табе і на,— думала Аня.— Няўжо я памылілася ў ім? Здаецца такім прыстойным, а на самай справе... Фядотаў, хто ж вы?» — усё шукала адказу Аня.

Калі Рустамаў вярнуўся з прасекі, Аня пераказала яму размову з Фядотавым, выказаўшы свае сумненні. Той пачаў суцяшаць, сказаў, што ў жанчын у перыяд цяжарнасці павышаецца падазронасць. Здавалася, ён супакоіў Аню, але раптам яна спыталася:

— Скажы, а чаму кульгае дысцыпліна ў Шутава?

— Як кульгае? — не зразумеў Рустамаў.

— Так Фядотаў сказаў. Кульгае ў Шутава дысцыпліна, таму характарыстыка на яго кепская.

Рустамаў нахмурыўся.

— Гэты Фядотаў нагаварыў табе сто сорак бочак... Шутаў выдатны хлопец. Смелы і рашучы. Аднойчы бухгалтэрыя брыгадзе грошы не выдала, амаль удвая меней налічылі па накладных. Ён заступіўся за сваіх людзей, патрабаваў вярнуць ім грошы. Вось і наклікаў на сябе гнеў.

Аня глядзела на мужа здзіўленымі вачыма.

— Як?.. І тут... тое ж? — неяк жаласна спытала яна, мусіць, прыгадаўшы жыццё ў будаўнічым атрадзе «Блакітны экспрэс».

— Жыццё, Анюта, усюды адно. А людзі розныя. І той-сёй паганыя звычкі з сабой у дарогу прыхапіў.

Насупіўшы бровы, Аня маўчала. Потым зноў спытала:

— Што ты ведаеш пра Каплева?

— І Каплеў чалавек што трэба. Летам тайга загарэлася ля Заімкі. У канцы ліпеня было. Агонь вось-вось перакінецца на хаты. Каплеў першы кінуўся тушыць пажар. А за ім усе. Любілі яго хлопцы: завадатар, смелы, вынаходлівы... сапраўдны камсамольскі важак. Але адна бяда ў яго была — начальству палкі ў колы ўстаўляў. Асабліва з Фядотавым не ладзіў.

Рустамаў змоўк.

— Ну і што? — нецярпліва спыталася Аня.

Той усміхнуўся.

— Перавялі на другую пасаду. Каб не замінаў. У Ніжнім цяпер працуе. І камсорг быў хлопец выдатны. Замест яго — другі цяпер. Слабахарактарны, здаецца. Што ні скажуць яму — усё робіць. Маўчыць і робіць. Хутка сход, будуць падводзіць вынікі года. Паслухаем, мо і скажа што-небудзь...

«Дык вось чаму Фядотаў ухіляўся ад размовы! — падумала Аня.— Значыць, яму не спадабалася маё ўмяшанне. Пэўна, ён падумаў, што жанчына пабаіцца ўмешвацца ў іхнія справы, таму і ўзялі мяне на месца Каплева...»

— Аня, я прашу цябе: будзь асцярожнай,— сказаў Рустамаў.— З тваім характарам... ды ў тваім становішчы... табе зараз нельга хвалявацца. Падумай пра нашага малога...

Аня, пачырванеўшы, хуценька падышла да мужа, пацалавала яго. Ужо з парога кінула:

— Ты як заўсёды асцярожны!.. Бягу! Спазняюся!

З непрыемным пачуццём прыкрасці і трывогі Аня ішла на рэпетыцыю новага спектакля, які рыхтаваў тэатр Бандарчука. Клуб яшчэ не дабудаваны, і часова ў сталовай ставілі спектаклі і праводзілі рэпетыцыі і сходы.

Аня крыху спазнілася, яна ўвайшла ў залу, села ля самай сцяны і пачала глядзець. Рэпеціравалі сцэну з новага спектакля «Да трэціх пеўняў» паводле сатырычнай аповесці-казкі Шукшына. У Ані таксама была невялікая роля ў гэтым спектаклі. Іграла яна адну з недарэчных мадэрновых дзяўчын са світы царэўны Алкі Несмяяны.

Рэжысёр тройчы пляснуў у далоні, спыніў рэпетыцыю.

— Гаранава, не прыціскай руку да сэрца. А ты, Граф, не праводзь пяцярнёй па валасах. Ад гэтых штампаў трэба пазбаўляцца. І расслабцеся, расслабцеся, сябры! Ніякага напружання. Ну-тка, давайце яшчэ разок. Пайшлі!

Сказаўшы гэта, высокі хударлявы рэжысёр, у акулярах, з доўгімі валасамі пачаў уважліва сачыць за ігрой акцёраў.

Аня з цікавасцю прыглядалася да Анатоля Бітава. Звычайны хлопец з-пад Кастрамы, здавалася, зусім нядаўна на заводзе працаваў токарам — а глядзі ж ты, як вырас! Рэжысёрскі факультэт у Маскоўскім універ-

сітэце культуры завочна скончыў. Праца ў тэатры не перашкаджае яму быць і лесарубам. Бітаў з самага пачатку будуе БАМ. З пасёлка Зорнага пачынаў, там і тэатр ствараў. Адкуль столькі энергіі? На ўсё ў яго часу хапае. Тэатр любіць да самазабыцця. Увесь свой вольны час яму аддае. І акцёраў не шкадуе: іншы раз рэпеціруюць нават уначы. Затое гледачы іх палюбілі. Такога пасёлка ў Забайкаллі не знойдзеш, куды б тэатр не выязджаў на гастролі. А на адным з фестываляў ён атрымаў званне народнага. Толькі чаму яго называюць тэатрам Бандарчука, а не тэатрам Бітава? Адзін — дырэктар, другі — рэжысёр. Дзіўна!

Рэпеціравалі сцэну ў хаце Бабы Ягі. Гаранава іграла Ягу, а Сярожа Казлоў — Іванку-дурня.

Бітаў зноў спыніў рэпетыцыю, зрабіў заўвагу Казлову:

— Праўдзівей, Сярожа, праўдзівей! Цябе самога не адзін раз падсмажвалі. Успомні, як прараб хацеў у цябе дошку адабраць. Ты за адзін канец учапіўся — ён за другі: хто каго перацягне? Не саступай! Нізавошта не саступай, хаця і быць табе падсмажаным!

Аня падумала: гэта сцэна быццам з жыцця выхаплена. Чубакоў і сапраўды Бабу Ягу нагадвае. Вунь як Рабкова не ўзлюбіў за тое, што той адмовіўся катэдж яму пабудаваць. Аня глядзела, як рэпеціруюць, і міжволі параўноўвала кічарцаў з героямі шукшынскай казкі. Сяргей іграў сябе самога: ён і ў жыцці быў такі ж сумленны. А калі рэпеціравалі сцэну, дзе Іван прыходзіць да Мудраца па даведку аб тым, што ён разумны, Аня злавіла сябе на думцы, што Фядотаў нечым нагадаў ёй далікатнага ў паводзінах Мудраца, які так і перасыпаў сваю мову загадзя завучанымі аксіёмамі. Але ў чым усё ж галоўнае падабенства, Аня пакуль што не ўлавіла. І зноў ёй прыгадалася сённяшняя размова з Фядотавым... «Дык хто ж вы, Фядотаў?» — які ўжо раз пытала ў сябе Аня.

Калі рэпетыцыя скончылася, дамоў Аня ішла разам з Тохай: ім было па дарозе.

На Тосі быў імпартны кажушок і футравая шапка-вушанка. Невысокага росту, прысадзістая, яна ішла ўпэўненай хадой. Гэтую ўпэўненасць і спакой Аня прыкмеціла і ў яе твары, маючы магчымасць бачыць Тоху на рэпетыцыях.

Ціха было ў тайзе. Ні гуку. Толькі аднастайны шум

электрарухавічка звінеў у паветры. Але кічарцы так прывыклі да яго, што і не заўважалі зусім.

Размова пачалася неяк сама сабой. Можа, таму, што абедзве даўно хінуліся адна да адной, кожнай хацелася больш сяброўскіх адносін, хацелася пачуць адной пра адну нешта цікавае. Рэпетыцыі зблізілі іх, але не настолькі, каб стаць сяброўкамі. Усе гаварылі пра Тоху як пра дзяўчыну незвычайнай дабрыні. Аня наслухалася пра яе шмат добрага. Адны здзіўлена глядзелі на Аню: «Як, вы не ведаеце Тохі? Гэта ж наша Тоха!» Іншыя гаварылі з захапленнем: «Якое шчасце, што з намі Тоха! О, каб вы толькі ведалі, што гэта за дзяўчына!» Да таго ж у Тохі аказаліся не абы-якія акцёрскія здольнасці. Іграла яна ўдумліва, умела ўваходзіць у ролю. Дзівіла Аню тое, што пра Тоху гаварылі з павагай усе, літаральна ўсе, і добрыя людзі, і благія. Усё гэта, безумоўна, Аню заінтрыгавала: ёй хацелася пазнаць гэтую дзяўчыну бліжэй.

І вось яны ішлі побач. Абмяняўшыся нязначнымі фразамі аб надвор'і і пра тое, як хутка ляціць час, яны загаварылі аб п'есе, якую рэпеціравалі сёння. Аня прыгадала Ілью Мурамца, якога іграў Бандарчук.

— А вам не здалося, Тоня, што гэта роля не для яго?

— Чаму? — здзівілася Тоха.

— Ілья Мурамец — герой станоўчы... Я разумею тэатр — гэта адно, а жыццё — другое, але... Я хацела сказаць...— Аня сумелася,— хацела сказаць, што ў жыцці Бандарчук зусім іншы. Па знешняму выгляду — асілак, магутны, самавіты. А вось наконт дабразычлівасці... Хочаце шчыра? — раптам рашылася Аня.

— Валяйце,— проста адказала Тоха.

— Гэта праўда, што ваша брыгада ў апошнім квартале выйшла на першае месца?

— Па ачыстцы прасекі?

— Так.

— Мяне не было, але па прыездзе з Японіі я аб гэтым пачула.

— Не ведаю, як вам і сказаць... Разумееце, Тоня, Бандарчук павёў сябе несумленна. Першае месца заняла брыгада Рабкова, а прараб упрасіў аддаць яго брыгадзе Шутава, каб такім чынам падцягнуць яе. І рап-

там гэта месца апынулася ў вас... А брыгадзе Рабкова аддалі толькі чацвёртае, ваша.

— Не можа быць! — усклікнула Тоха. Яна нават прыпынілася.

— На жаль, гэта так. Я не разумею, навошта гэта спатрэбілася Бандарчуку. Вось я глядзела сёння, як ён іграе волата, мужнага, добрага, справядлівага... І дзівілася: як можа ён так раздвойвацца? У жыцці — адзін, на сцэне — іншы. Вы маеце рацыю: Бандарчук са сваім тэатрам робіць карысную справу, ставячы спектаклі, якія дапамагаюць змагацца з несправядлівасцю, пошласцю, мяшчанствам... Гэта ўсё так. Але сам ён які?!

Тоха ішла моўчкі, апусціўшы галаву. Потым загаварыла:

— Для мяне гэта навіна. Магчыма, кандыдатуру Бандарчука хочуць вылучыць на прэмію. Нешта я чула. Так, у гэтым ёсць нешта несумленнае... Але, разумееце, Аня, трэба ўлічыць і тое, што яго брыгада, занятая тэатрам, нясе культуру ў сібірскія вёскі і, займаючыся выхаваннем моладзі, ён усё ж робіць вялікую справу... і можна яму дараваць такое...

— Але ж гэта мана! — вырвалася ў Ані.

— Не ўсякая праўда прыносіць карысць. Значыць, некаму гэта мана патрэбна. Не мне, не вам, і не Бандарчуку... Не нашага розуму гэта справа. Некаму спатрэбілася такая мана, каб аблегчыць становішча. Я думаю, што ад гэтага брыгада Рабкова страты не панясе. І зноў жа, трэба ўлічыць, што «бандарчукам» даводзіцца шмат рэпеціраваць, выязджаць на гастролі — адным словам, яны абараняюць гонар усяго атрада. Мы ж павінны не толькі да сёмага поту працаваць, але і далучацца і іншых далучаць да культуры, духоўнага жыцця. Можна дараваць.

— А вам не здаецца, што гэта кепская паслуга не толькі самому Бандарчуку, але і членам яго брыгады. Дый вам, Тоня?

— Вы хочаце сказаць, што благія прыклады заразлівыя, ці не так?

— Вось іменна. Праз нейкі час і вам захочацца такой жа цаной атрымаць узнагароду — за кошт іншых людзей. Гэта завецца... даруйце мне за грубасць... чужымі рукамі жар заграбаць.

Тоха ціха засмяялася.

— Я не пакрыўдзілася. Я ніколі на такое не пайду. Але людзям такое дараваць усё ж трэба. Значыць, яны не могуць іначай.

— Значыць, калі вы ўбачыце, як рабуюць чалавека — вы адыдзецеся ўбок і будзеце глядзець, склаўшы рукі? — наступала Аня.

— Не зусім так. Памагчы я не магу. Я слабая. Але мараль прачытаю... Паслухайце, Аня. Вы занадта прынцыповы чалавек! Трэба больш паблажліва ставіцца да людзей. Гэта ж так цяжка — знайсці сваё месца ў жыцці і захаваць яго за сабой. Не трэба быць дзіцём. Вы яшчэ маладая. А я прайшла такую школу!.. Калі жыццё падрапала мяне наждачком, я зразумела, што трэба ласкавейшай быць да людзей.

— Я чула пра вашу дабрату... Вас усе любяць... Суцяшаеце ўсіх... Вы, як сястра міласэрная.

— І такія людзі патрэбны,— сумна сказала Тоха.— Помніце, як Ганна гаворыць Луку, ласкавым яго называе, мяккім. Вось і я, як Лука: жыццё памяла, таму і ласкавая. Гэта ж лепей, чым агрубець, стаць жорсткай. І потым, між намі, дзяўчынкамі, кажучы, не нам з вамі ўвязвацца ў гэту няроўную барацьбу.

— Чаму?

— Мы жанчыны. Слабыя і безабаронныя.

— А вам не здаецца, што ў вас загаварыў прыстасаванец?

— Можа, і так,— не адразу адказала Тоха.— Можа... не пярэчу. Жыццё, яно ўсіх з часам абцірае, як марская хваля каменьчык. І ён, глядзіш, гладзенькім робіцца. Эх, каб вы ведалі маё мінулае!.. Вы светлякоў бачылі? — раптам узбуджана спытала Тоха.— Я ўпершыню ўбачыла іх у грузінскім лесе, у гарах. Ішлі мы лясной сцежкай. Тут вечар настаў. Раптам бачу — агеньчыкі лятаюць. Лятаюць і гараць. Спалохалася я, думаю: што гэта? Пацягнулася рукой да аднаго, злавіла — святляк! Заціснула ў кулак. Потым расціснула, гляджу — а ён не свеціць. Вось так і я, як той светлячок. Пакуль дзяўчынкай жыла — свяціла, а выйшла замуж — быццам у кулаку апынулася. Патухла. А як пайшла ад мужа і прыехала на БАМ — зноў гару! Ці ж гэта кепска, Аня? Вы толькі агледзьцеся! Як хораша тут жыць! Трэба дараваць слабасці людзям. Гэта ж так добра адчуваць сябе дужым! Быць вышэй за ўсё дробязнае, не корпацца ў чужых грахах. І мы ж не святыя.

Вы паглядзіце, якія тут людзі ёсць — як злiткі золата: вось і імкніцеся да іх! Пераймайце іх! «Хто ідзе да зорак — лужын не заўважае!..» — і раптам неяк сумна і сардэчна Тоха прызналася.— А тэатр... Хоць у ім душу адводзім... У тэатры цёпла.

У той вечар яны рассталіся, і кожная пайшла сваёй сцежкай. Тая і другая панеслі ў сваіх сэрцах няясную збянтэжанасць, выкліканую шчырай размовай.

Потым Аня часта ўспамінала гэтую размову. Тоха здавалася ёй дзіўнай. Удумлівая, вельмі чалавечная, яна чымсьці ўсё ж насцярожвала Аню. Трымала сябе Тоха на адлегласці. Сама падыдзе да чалавека, суцешыць яго, але да сябе не падпускала блізка. Быццам з людзьмі, а сама адзінокая. Быццам людзей баіцца. Пэўна, таму, што апяклася аднойчы, і цяпер на ваду дзьме. Мудрая, разумная, але асцярожная, пабітая жыццём Тоха. Так пра яе думала Аня. І яшчэ ёй здалося, што ў Тохі з Фядотавым ёсць нешта агульнае. Абое прыгожа гавораць, і гавораць пераканаўча. Тоха верыць у тое, што кажа. А Фядотаў? Так ці іначай, пасля іх красамоўства справы ідуць як ішлі, без перамен. Ці можна верыць такім? Ці не падвядуць у цяжкую хвіліну?

## РАЗДЗЕЛ ДЗЕСЯТЫ

### Вялікі сход.— Аня бярэ слова.— «Дык вось яна якая!»

Віктар стаяў на ганку сталовай і ў роздуме глядзеў у асветленыя вокны насупраць: за імі, за гэтымі вокнамі, у вялікай зале было шматлюдна. Людзі ўсё ішлі і ішлі. Сталовую будавалі ў выглядзе літары «п». Гэта была зручная планіроўка — кухня злучала дзве залы. Адна з іх яшчэ была неабсталявана. Гэта і была тая самая зала, якая часова замяняла кічарцам клуб. Сёння тут будзе праводзіцца сход. «Ісці ці не?» — разважаў Віктар. Ён рашыўся пайсці толькі тады, калі за вокнамі ўлеглася мітусня, калі, пасеўшы на лаўках, усе слухалі чалавека, які стаяў за трыбунай. Высокі, падобны на манумент, мужчына гаварыў і так энергічна махаў рукамі, што ў Віктара міжволі ўзнікла параўнанне: «гаворыць, як рэжа».

Віктар прайшоў уздоўж сцяны да задніх радоў і,

убачыўшы незанятае месца, сеў. Зняў шапку, стаў слухаць.

— Дык вось, дарагія таварышы. Мы з вамі маем права ганарыцца. Наш будаўніча-мантажны поезд яшчэ ў жніўні выканаў гадавую норму. Усяго за паўгода! Але і выканаўшы план, мы не сядзелі склаўшы рукі. За апошнія чатыры месяцы пабудавана звыш плана дваццаць чатыры жылыя дамы. Будуецца дзіцячы сад, сховішча для гародніны, хлебапякарня, лазня. А да Новага года брыгада цесляроў абяцае здаць клуб. Новы год, як вы ведаеце, не за гарамі, праз якіх-небудзь дзесяць дзён. Наш атрад прыехаў у канцы сакавіка, а цяпер канец снежня. І калі па календары мы жывём яшчэ ў старым годзе, то працуем фактычна ў лік будучага. Так што самі бачыце, якія ў нас касмічныя тэмпы. Нездарма кажуць, што месяц на БАМе іншы раз раўняецца году. Цяжка, вельмі цяжка было пачынаць, асабліва тым, хто прыехаў сюды ўпершыню, непадрыхтаваны ні маральна, ні фізічна. Што прываблівае сюды моладзь? Перш за ўсё рамантыка, працоўная рамантыка, жаданне праверыць сябе, сваю волю: працаваць у любую непагадзь, пры любых абставінах і не ныць. Вытрымаеш усё гэта, пройдзеш выпрабавальны тэрмін — значыць, ты сапраўдны бамавец. Але не ўсе, як вы ведаеце, вытрымліваюць гэтыя суровыя выпрабаванні. Знайшліся такія, што проста, як кажуць, здрэйфілі. Напужаліся цяжкасцей і паўцякалі. А таго-сяго мы самі дамоў адправілі. Адным словам, кепскія паехалі, добрыя засталіся. І добрых мы не забываем, працу іх ацэньваем як мае быць. Гэтыя людзі — гордасць нашага атрада. Яны — наша апора, і на іх трэба раўняцца. З цягам часу іх становіцца ўсё больш і больш. Вось на днях, напрыклад, прадстаўлены да ўзнагароды чатыры нашы таварышы за самаадданую працу на Даване. А Грамата Паўночна-Байкальскага абкома партыі — гэта самая вышэйшая ўзнагарода ў нашым раёне. Вось яны, узнагароджаныя...

Фядотаў пачаў называць прозвішчы. Сярод пералічаных быў і Рустамаў. І гэта балюча кальнула Віктара. Зноў ён адчуў сваю занядбанасць, нікчэмнасць, адзіноту. З'явілася жаданне пакінуць залу, але ён усё ж застаўся. Дый куды пойдзеш? Аднаму бавіць вечар? Моташна. І ён сядзеў. І слухаў. І глядзеў, як прамоўца рассякае рукамі паветра.

— ...Але мы не пакарылі б Даван, калі б не было такога магутнага калектыву, як наш,— гаварыў Фядотаў.— Пакарэнне Давана — гэта перамога тых, хто па закліку партыі і па загаду сэрца прыехаў на будоўлю века. Мы ганарымся тым, што лепшыя таварышы з нашага атрада атрымалі права забіваць «сярэбраны касцыль» на перавале Даван, прыняўшы эстафету ў Іркуцка ад атрада імя XXVII з'езда камсамола. У тыя дні камсамольцы неслі карчагінскую вахту, яны абяцалі забяспечыць прыход першага поезда на Даван да юбілею камсамола. І сваё слова стрымалі: нягледзячы на завеі і люты мароз, перавал быў узяты! Я быў там, бачыў, як цяжка было камсамольцам, але затое тыя, хто пакараў і пакарыў Даван, на ўсё жыццё запомняць дзень, калі святочны поезд з партрэтам Ільіча ўрачыста пераехаў граніцу Бураціі і спыніўся ля ўсходняга партала Байкальскага тунеля на «сярэбраным звяне». З гэтага дня пачаўся новы этап будаўніцтва Байкала-Амурскай магістралі на ўчастку, што праходзіць па Паўночна-Байкальскім раёне. Ад пакаронага Давана рэйкі пабягуць далей на Усход, да нашага Байкала, і міма нашай станцыі да ракі Віцім, той самай Угрум-ракі, якую ўславіў Шышкоў у сваім рамане.

Але мне хочацца напомніць некаторым таварышам, што поспех у нашай працы шмат у чым залежыць не толькі ад энтузіязму, але і ад кіраўніцтва.— Тут Фядотаў павярнуўся да жанчыны ў каланковым кажуху, якая сядзела ў прэзідыуме.— Хочаце верце, хочаце не, Вераніка Мацвееўна, але будаўнічы трэст іншы раз прысылае нам сякеры без тапарышчаў, а цвікі шавецкія. Як бачыце, нават самым неабходным матэрыялам не забяспечваюць! Адсюль прастоі, аўралы і нездаволенасць. Вось чаму мне яшчэ раз хочацца напомніць некаторым таварышам, што трэба ўсё ж забяспечваць брыгады будаўнічым матэрыялам, і забяспечваць своечасова. Галоўнае ў нашай справе — гэта людзі, іх настрой, ад якога залежыць паспяховая праца. Трэба памятаць пра гэта, таварышы. І той, хто бярэцца кіраваць калектывам, павінен зразумець, што за ім стаяць людзі. Заканчваючы сваё выступленне, я хачу ад імя нашага кіраўніцтва павіншаваць усіх будаўнікоў з надыходзячым Новым годам. Жадаем і далей з годнасцю несці эстафету мінулых пакаленняў, эстафету слаўных спраў

у імя Радзімы, у імя будучыні. Віншую вас, дарагія таварышы, з працоўнымі перамогамі!

Зала доўга апладзіравала Фядотаву. Потым выступаў Чубакоў.

— Валерый Пятровіч мае рацыю, кажучы аб кіраўніках, якія забываюцца пра тое, што за імі стаяць людзі. Каб жа толькі яны ведалі, як цяжка бывае нашым тралёўшчыкам! Тут вялікая ўзгоркавасць. Паспрабуй пакаці ўручную бервяно!.. А даводзіцца! Таму што не хапае трактароў. Неўзабаве прывязуць першыя рэйкі. А ці паспеем мы ачысціць прасеку з такой тралёўкай? Вось няхай і падумаюць таварышы і забяспечаць людзей усім неабходным для выканання плана. Далей.— Чубакоў зазірнуў у паперку.— Пару слоў аб мінулым спаборніцтве на званне лепшага вальшчыка. На першае месца выйшаў Аляксей Рабкоў са сваёй брыгадай. А астатнія, колькі я іх ні вучыў — што гарохам аб сценку! Рабкоў распрацаваў сваю тэхналогію і варта ў яго павучыцца. Праўда, ёсць у яго сапернік — Бандарчук. Але такое саперніцтва толькі акрыляе! І ўсё ж мы малайцы! Год завяршаем з высокімі паказчыкамі. Прыбайкальскае лясніцтва Паўночна-Байкальскага лесгаса задаволена. Яно праверыла нашу працу і пераканалася ў тым, што на працягу ўсёй трасы, якую мы высякаем пад чыгунку і пад ЛЭП, усё як мае быць. Астатняе — справа тралёўшчыкаў.

Чубакоў сказаў пра тое, што мост у пасёлку Халодным адрамантаваны брыгадай Бандарчука без аплаты, на грамадскіх пачатках. Пахваліў яшчэ раз Рабкова і прапанаваў паслаць яго як перадавіка ў Маскву на нараду будаўнікоў Байкала-Амурскай магістралі. А ў канцы выступлення прараб раптам накінуўся на аднаго лесаруба, які надакучыў яму са сваім ныццём наконт жылля: маўляў, хутка прыедзе жонка і яму неабходна пабудаваць катэдж.

— Гэта ж чорт яго ведае што! — абурыўся Чубакоў.— Дзе ж камсамольскі запал? Энтузіязм? Вы ўспомніце першапраходцаў, як яны пачыналі — у палатках, без святла, без вады! Распесцілі тут вас! Каб меней думалі пра камфорт, больш зрабілі б! І потым — гэта БАМ! Гэта вам не курорт! Ведалі, куды ехалі!

Пасля Чубакова слова ўзяла прадстаўнік трэста, тая жанчына, што сядзела ў прэзідыуме. Вераніка Мацвееўна гаварыла спакойна і разважліва. Да задаваль-

нення прысутных яна прынялася дакараць Чубакова за яго «залішні энтузіязм» у жыллёвым пытанні. Не век жа хадзіць у рамантыках. Людзі сталеюць. За чатыры гады будаўніцтва шмат якія абзавяліся сем'ямі, і таму жыллёвыя ўмовы ім неабходны. У палатках ужо ніхто не жыве, месяц-два пасля прыезду ў тайгу — і ўсё! Колькі ўсяго набудавана — і інтэрнаты, і «самбуд»... Ці ж няма дзе жыць? Няхай будуюцца маладыя людзі. Галоўнае — каб працавалі добра. А добрая праца залежыць, вядома, і ад нармальнага побыту.

Чубакоў нервова круціўся на сваім месцы. А Вераніка Мацвееўна ўжо гаварыла пра тое, што ў пасёлку Халодным трэба паставіць новы помнік загінуўшым у гады Вялікай Айчыннай вайны. І прапанавала стварыць у атрадзе таварыства па ахове помнікаў гісторыі і культуры.

А потым выступаў Рабкоў.

— Чубакоў выказаў прапанову паслаць мяне на нараду ў Маскву,— пачаў ён.— Я ж толькі што з Кубы вярнуўся! Можна падумаць, што Рабкоў незамянімы...— Перадавікі вытворчасці ў нас у пашане, на адсутнасць увагі да сябе не скардзяцца. Але добра, калі ўсё ў меру. Варта было брыгадзе дабіцца значных поспехаў, як мяне з брыгадзіра ператварылі ў гэткага «шлюбнага генерала». У Маскву на нараду — Рабкоў, ва Улан-Удэ на партактыў — Рабкоў, у Тынду на агульны злёт бамаўцаў — зноў Рабкоў! Калі да маіх узаконеных прагулаў прыплюсаваць чарговыя і вучэбныя водпускі — невясёлая карціна атрымаецца. Мне, напрыклад, сорамна пасля кожнай адлучкі хлопцам у вочы глядзець: брыгада працуе, БАМ будуе, а ў славе купаецца — брыгадзір. Я ўпэўнены, што большасць з нас паехала на БАМ не за славай, не за ордэнамі і медалямі, не за высокім заробкам. Мы ехалі, каб будаваць пасёлкі і аўтадарогі, масты і тунелі, высякаць прасекі і ўкладваць рэйкі. І самае галоўнае — будаваць сябе, а не для сябе... Можа быць, адно з самых сур'ёзных выпрабаванняў, якое нам давядзецца вытрымаць — гэта выпрабаванне славай. Я не называю прозвішчы людзей (вы іх самі добра ведаеце), якія «завалілі» свой экзамен толькі таму, што з іх занадта настойліва рабілі герояў. Сапраўдны гераізм — гэта штодзённая праца з поўнай самаадданасцю. У маёй брыгадзе ёсць такія. Але яны

такія сціплыя, што паспрабуй я ім скажы пра гэта — магу і кухталя зарабіць.

У зале засмяяліся.

— А ты назаві! — весела крыкнуў нехта.— Не бойся, Лёша! Хай толькі пальцам крануць, мы за цябе пастаім!

Калі вясёлы шумок улёгся, на трыбуну выйшла Аня. Убачыўшы незнаёмую дзяўчыну, зала зусім прыціхла.

— Адзін таварыш сказаў мне, што ў першыя два месяцы шмат людзей паўцякала. І вінаватыя ў гэтым, маўляў, камітэты камсамола, якія ў атрад накіравалі моладзь, не падрыхтаваную да цяжкасцей. Не падрыхтаваную маральна і фізічна. На маю думку, гэта называецца — зваліць з хворай галавы на здаровую.— Аня прыкметна хвалявалася. Яна трошкі памаўчала, і толькі цяпер прадставілася.— Я — намеснік начальніка поезда па выхаванню моладзі. У Кічары жыву два месяцы. Выхавацелем працую месяц. Тэрмін дастатковы, каб зрабіць такія-сякія вывады. Я ўважліва выслухала ўсіх, хто сёння выступаў з гэтай трыбуны, і не з усімі згодна.— Аня павярнула галаву да Фядотава.— Вы сказалі, Валерый Пятровіч, што кепскія паехалі, а добрыя засталіся. Кепскія, па-вашаму,— гэта слабыя, добрыя — дужыя. Але ж БАМ называюць школай жыцця! «Мы будуем БАМ — БАМ будуе нас»,— так тут гавораць. І калі ў атрадзе ўсе добрыя, то выходзіць, што і выхоўваць няма каго! Засталося больш лёгкае — фізічная праца. Але ці так гэта? Людзі сюды прыехалі розныя. У нас шмат прыкладаў, як слабыя ў добрым калектыве мужнеюць, дзякуючы ўмелым выхавацелям, такім, скажам, як Аляксей Рабкоў. Але каб жа ўсе былі такімі, як ён! У некаторых сем'ях ёсць любімыя і нелюбімыя дзеці. Так і ў нашым атрадзе — ёсць любімыя і нелюбімыя брыгады. Любімыя своечасова забяспечваюцца працай, неабходным будаўнічым матэрыялам і нармальнымі бытавымі ўмовамі, ім аказваюць усякія ўшанаванні. А нелюбімыя, вядома, гэтага не маюць. Хто ж трапляе ў разрад «любімых»? Як правіла, падатлівыя, паслухмяныя, якія выконваюць любое жаданне начальства, калі гэта нават і не на карысць агульнай справе. А «нелюбімыя» — гэта, так званыя «ўпартыя», якія праўду гавораць. І такія смелыя людзі, а з імі і цэлыя брыгады аб'яўляюцца адстаючымі. Адзін хлопец

сказаў мне: «Паспрабуй узнікні» — тут жа атрымаеш пакаранне ды яшчэ прылепяць табе ярлык баязліўца, які спалохаўся цяжкасцей, і адправяць дамоў. Ці ж гэта нармальна? Смелую моладзь падтрымліваць трэба! Тое, што яна «ўзнікае», сведчыць аб тым, што камсамольцаў у атрад падабралі вартых, прынцыповых, а не прыстасаванцаў, якія клапоцяцца толькі аб сваім дабрабыце. Гэта сапраўдныя грамадзяне, якія ўмеюць паважаць і сябе і іншых, якія ўмеюць разважаць. Вось тут гаварылі аб натуральных і штучных цяжкасцях. Як ні дзіўна, а натуральныя цяжкасці адольваюцца лягчэй. І гэта зразумела: да такой непрадбачанай цяжкасці, як несправядлівасць, вядома ж, моладзь ніхто не рыхтаваў. Суровыя кліматычныя ўмовы, цяжкую фізічную працу ды яшчэ несправядлівасць — вядома, не ўсякі вытрымае. Нават у самога Валерыя Пятровіча (па яго ж словах) не ўсё атрымліваецца, хаця за яго плячыма ўжо дваццаць гадоў ударных будоўляў! Дык што ж тады хацець ад дваццацігадовых юнакоў, якія толькі пачынаюць жыць? Не спісваць іх трэба, а дапамагаць, вучыць. Няма людзей ідэальных, а калі хто і прыехаў з якімі-небудзь хібамі, дык на БАМе ён праходзіць цудоўную школу таварыства, узаемавыручкі, бескарыслівасці і сумленнасці. Тым і славіцца БАМ, што выхоўвае моладзь і духоўна і фізічна, выхоўвае грамадзянскасць, далучаючы да працы, да вялікай будоўлі. І калі кажуць, што добрыя застаюцца, а кепскія едуць дамоў, я не заўсёды гэтаму веру.

Аня на хвіліну змоўкла. У зале па-ранейшаму было ціха: усе ўважліва слухалі яе. У прэзідыуме сёй-той сядзеў, апусціўшы галаву. Але ніхто яе не спыняў, і яна гаварыла далей:

— Некаторая частка моладзі настроена нявесела з той прычыны, што імкненне праявіць сябе з самага лепшага боку не заўсёды падтрымліваецца. Маўляў, у атрадзе ўжо ёсць вядучыя — і баста: нікому за імі не ўгнацца. Як жа тут не знізіцца высокаму напружанню працы? Валерый Пятровіч мае рацыю, гаворачы, што поспех у працы залежыць не толькі ад энтузіязму, але і ад кіраўніцтва. Ёсць у атрадзе выдатныя брыгады, сярод якіх брыгада Сашы Бандарчука, што праславілася сваім тэатрам. Але трэба больш падтрымліваць і тыя брыгады, якія імкнуцца раўняцца на лепшую ці нават абагнаць яе. Можа, яны здольны на большае. Вось пра-

гучала сёння прапанова стварыць у атрадзе таварыства па ахове помнікаў гісторыі і культуры і для пачатку перарабіць помнік загінуўшым у час вайны ў Халодным. У спісе аўтараў будучага праекта толькі людзі Бандарчука. А чаму не заахвоціць да гэтай пачэснай справы моладзь з іншых брыгад? Чаму не даць магчымасць іншым далучыцца да культуры? У Бандарчука дванцаць два чалавекі. І няўжо толькі яны вартыя пахвалы і ўзнагарод? БАМ жа на гэтым участку будуюць сотні людзей. Дарэчы, Бандарчук уявіў сабе, што ён лепшы за ўсіх і яму шмат чаго дазволена. Ці не таму ён і мост адрамантаваў не дармова, як тут было сказана? Ці не таму і першае месца за апошні квартал гэтага года апынулася ў яго, хаця па праву яно належыць Рабкову? Як бачыце, ад зазнайства лёгка дайсці да падзення. Бандарчук страціў над сабой кантроль, ён страціў тое, што прыдбаў за чатыры гады на БАМе, і здрадзіў сваім ідэалам. А ідэалы ў яго былі высокія. Некалі ён склаў для тэатра статут, у якім сказана: «Жыць прыгожа імкніся не толькі на сцэне, але і ў жыцці». Але, як бачыце, статут не адпавядае паводзінам Бандарчука. Ці ён адзін вінаваты ў гэтым? Вядома, не.

У зале ўзнік трывожны шумок. І тут Аню перабіў Чубакоў, які сядзеў пунсовы, як півоня.

— Не слухайце яе! Хто яна такая?!

— Няхай гаворыць!.. Гаварыце!..— закрычалі з месц.

Віктар бачыў, як Аня, упарта трасянуўшы галавою, нахмурыла бровы, а ў вачах яе мільганула рашучасць: хай будзе, што будзе, а яна скажа ўсё. І яна гаварыла. Голас яе цяпер гучаў званчэй і больш жорстка.

— Рабкоў меў рацыю, калі казаў, што некаторыя завальваюць свой экзамен таму, што іх робяць героямі. Вось прыклад. Аднойчы вырашалася пытанне: каго паслаць у тэрміновую камандзіроўку на Тайшэт — Лену для ўкладкі другіх пуцей? Адправілі адстаючых. Вось і паехала на два месяцы брыгада на чале з Шутавым, тым самым Шутавым, які «ўзнікаў». А на прарыў жа трэба пасылаць перадавыя брыгады. На тое яны і перадавыя, каб быць там, дзе цяжэй. Валерый Пятровіч сказаў з трыбуны слушныя словы: «Хто бярэцца кіраваць калектывам, той павінен зразумець, што за ім стаяць людзі». А людзі — хто? Гэта не толькі будаўні-

кі БАМа, гэта і жыхары таежных сяліб, карэнныя сібіракі, пра якіх таксама трэба падумаць. Я маю на ўвазе пасёлак Халоднае. Халодненцы на нас у вялікай крыўдзе. Калі ж ім правядуць электрычнасць? Трэба выпраўляць становішча. БАМ будуецца для людзей. І таму аб іх трэба клапаціцца ў першую чаргу, а не аб прэміяльных. Зноў жа — браканьерства. Той жа Бандарчук спілаваў магутныя кедры і лістоўніцы толькі дзеля таго, каб трапіць у кінааб'ектыў, каб праславіцца. І яшчэ раз аб самым галоўным: добрай моладзі ў нас шмат, вось толькі трэба яе заўважыць. Не трэба забываць аб тым, што БАМ — гэта не толькі фізічная праца, гэта і фарміраванне асобы, гэта маральнае выхаванне маладых людзей, якія яшчэ толькі ўступаюць у жыццё. І за іх мы ўсе ў адказе. У мой адрас была кінута рэпліка: хто, маўляў, я такая? Я ўжо гаварыла, што мая справа — выхаванне моладзі. І тое, што я зараз выказала,— гэта працяг размовы, якая пачалася ў кабінеце Фядотава. Валерый Пятровіч абяцаў, што ў некаторых пытаннях кіраўніцтва разбярэцца. Я маю на ўвазе пытанне аб першым месцы, што незаконна прысвоена Бандарчуком. Але Валерый Пятровіч у ім усё ж не разабраўся. Забыўся, мусіць. Вось і давялося мне сёння напомніць.

Аня пакінула трыбуну ў поўнай цішыні. І толькі калі яна села на сваё месца, у зале быццам парахавая бочка ўзарвалася: гэтак ёй зааплядзіравалі. А Чубакова нібы выбуховай хваляй вынесла з прэзідыума: ён рынуўся да вешалкі, што стаяла ў кутку, і апрануўшыся, выскачыў з залы.

Сход узбударажыў Віктара. Ён прыйшоў у свой вагончык, выпіў гарачай кавы, не распрануўшыся лёг на пасцель, і пачаў разважаць аб тым, што сёння пачуў.

...Дык вось яна якая, Аня! Пасля сходу Віктар пранікся да яе вялікай павагай. Чаму ж раней ён ненавідзеў яе? Можа, таму, што тады, у будаўнічым атрадзе, яна крытыкавала яго?.. Цяпер жа яна крытыкуе іншых. Пэўна, таму, бо сёння Віктар быў гледачом, а збоку, як кажуць, лепей відаць. Вось і разгледзеў ён сёння ў Ані такое, чаго раней, пры другіх абставінах, прыкмеціць не мог. Дый потым, ці ж сёння ён быў толькі гледачом?.. Ён такі ж пакрыўджаны, як і тыя, каго абараняла Аня. Хм... Каб зразумець людзей, трэба самому пабыць у іхняй скуры. У гэтым Віктар пераканаўся.

Зразумеў, як гэта цяжка, калі табе не вераць і думаюць пра цябе горш, чым ты ёсць на самай справе. А што да ролі гледача — то і гэта правільна. «Ці не тое ж і са мной здарылася, што і з Бандарчуком? І мяне намагаліся зрабіць лепшым за ўсіх. І я ў гэта паверыў. І пачаў патрабаваць сабе тое, што, па сутнасці, мне не належала. Вось і атрымаўся з мяне рыцар на гадзіну, герой міжволі, які вельмі хутка пацярпеў крах. Да пары я рабіў усё, што мне хацелася, пакуль не з'явілася Аня. Аня?.. Дык, можа, яна ўсё ж прычына маіх нягод?.. А чаму ж тады яе так паважаюць? Яе прамова была надзвычай смелай. Яна амаль усім спадабалася. І ўсё ж ёсць у ёй нешта такое... нешта яна разбудзіла ўва мне,— думаў Віктар,— нешта новае ў ёй я ўбачыў. А можа... гэта новае ўва мне самім? Але раней я гэтага не заўважаў. Можа быць і гэтак: змянілася не яна, а я. Я ж даўно не жыву тым жыццём, што раней. Без мамак-нянек жыву. За тры гады ў Сібіры я пабачыў шмат цікавых людзей. Вось і з Рабковым сустрэўся. Нечым ён нагадвае Аню. А чым?.. Смеласцю?.. Мусіць. А я? Ці ж я не смелы? І з парашутам скакаў, калі ў дэсантных войсках служыў. А па сібірскіх дарогах машыну вадзіць — ці ж гэта не смеласць? Ды, мусіць, не тая смеласць у Ані і Рабкова. Ці змог бы я выступіць так, як яна? Не, не змог бы. А чаму? Пэўна, для таго, каб такое гаварыць, трэба мець маральнае права. А ці ёсць яно ў мяне? Мусіць, няма. Каб зазначаць чужыя памылкі, каб выхоўваць людзей, трэба самому быць з чыстым сумленнем».

І прыгадаў Дзергачоў, як ён чапляўся да Сярожы Казлова, зрабіўшы яго казлом адпушчэння. Прыгадаў, як абдурыў сваіх выхаванцаў, калі дзялілі грошы, зробленыя імі на будоўлі калгасных аб'ектаў,— і сорамна яму стала. Так сорамна, што ён нават адчуў, як гарачая кроў прыліла да твару, быццам хтосьагнём паліць яго шчокі. Ён адчуў пякучы сорам і перад Аняй за тое, што калісьці і ёй рабіў благое. Адчуванне сораму — гэта пачуццё раскаяння. Ужо не першы раз за апошнія тры гады каяўся Віктар. Не-не дый прыгадае мінулае. Чамусьці тут, у Сібіры, жыццё ставіць яго ў выключныя ўмовы, быццам выпрабаваць хоча. То падножку падставіць — выкарасквайцеся, Віктар Іванавіч Дзергачоў, а я пагляджу, як вы гэта рабіць будзеце. Гэта — на вытрымку. А часам такое каленца выкіне,

быццам ставіць яго перад выбарам — чалавекам быць ці нягоднікам. Вось тады раптам і нахлынуць на яго ўспаміны, і тады бэрсаецца Віктар у іх, нібы тапелец, не ведаючы, за што ўхапіцца, якое знайсці рашэнне. А што ж з ім здарылася пасля гэтага сходу? Надышло прасвятленне? Магчыма. Віктар нарэшце зразумеў, хто вінаваты ва ўсіх яго нягодах. А Аня змагаецца за моладзь і за яго, Віктара, таксама! Але ці хопіць у яе сілы? У будаўнічым атрадзе не дужа хапіла. А тут...

Ніпто не замінала Віктару думаць у гэты позні час. Ён быў адзін у вагоне. Яго сусед, хлопец з брыгады Шутава, паехаў на Тайшэт — Лену на цэлых два месяцы. А ў адзіноце ды ў цішыні думаецца лёгка, і ў галаву іншы раз прыходзяць светлыя думкі. Так было і з Віктарам у гэты вечар. Непрыкметна яго думкі пераключыліся на іншае. Ён ужо думаў аб дзяўчыне з блакітнымі, як зоркі, вачамі.... Ён кожны дзень засынаў з марай аб Руфіне.

## РАЗДЗЕЛ
## АДЗІНАЦЦАТЫ

### У ноч перад калядамі.— «Наталля звар'яцела!» — «Страсць, ды і толькі!»

Апошнія лісткі календара быццам снежнай віхурай зрывала. У пасёлку і азірнуцца не паспелі, як надышоў Новы год. Таму ўсе спяшаліся, мітусіліся, нешта рабілі — трэба ж было намечаную працу завяршыць і да свята падрыхтавацца, каб не горш, чым у іншых, а можа, каб і лепей было. І каб усё паспець, людзі працавалі нават па вечарах, забыўшыся на адпачынак. Нічога, потым адпачнуць. Наперадзе год вялікі, і выхадных у ім яшчэ будзе шмат. І гэта навагодняя мітусня не стамляла, а наадварот, уносіла ў жыццё пасялкоўцаў ажыўленне, радаснае чаканне чагосьці новага, незвычайнага.

Менавіта такі настрой быў у кічарцаў. Асабліва ў дзяўчат, таму што яны чакалі вялікіх перамен у сваім лёсе. Што ж, на тое і Новы год, каб жыццё пайшло па-новаму.

Такі ж настрой быў і ў Руфіны. З самай раніцы яна хадзіла з таямнічай усмешкай, з сяброўкамі па пакоі амаль не гаварыла, і, як і ўсе, рыхтавалася да свята:

мыла бялізну, прасавала, зашывала. Але час ад часу шапталася аб нечым з Наталляй, схаваўшыся з ёю за шафай. Недзе апоўначы Руфіна ўсіх здзівіла: павымала з валасоў шпількі і надзела на сябе ўсё, што было з цёплай адзежы без зáсцежак. Яна нагадвала снягурку — у доўгай да пятак начной сарочцы з блакітнай фланелі, у пімах, захутаная ў белую пуховую хустку. Глянулі на яе дзяўчаты і ахнулі.

— Што за маскарад? — здзіўлена спытала тоўстая карантышка.

Руфіна ўжо стаяла на парозе.

— Я хутка вярнуся,— сказала яна і знікла за дзвярыма.

— Куды ты, Руфіна?! Ноч на дварэ! — наўздагон крыкнула кірпатая дзяўчына ў бігудзях.

Але Руфіны ўжо і след прастыў. Кірпатая здзіўлена паціснула плячыма.

— Пэўна хтось спатканне назначыў,— хіхікнула карантышка.

— У начной сарочцы на спатканне не ходзяць. А можа, яна... таго? — кірпаценькая выразна пакруціла пальцам ля скроні.

Толькі яна гэта сказала, як з-за шафы, за якой стаяў ложак, выйшла Наталля, пераапранутая яшчэ больш недарэчна, чым Руфіна. Яна была ў валёнках, у аленевай шапцы і ўся захутаная ў коўдру. Не паспелі дзяўчаты здзівіцца, як тая шуганула з пакоя, кінуўшы на хаду:

— Не замыкайце дзверы!

— Ды што яны, павар'яцелі? — спалохана спытала дзяўчына ў бігудзях.

— Мусіць...— прамовіла карантышка, усё яшчэ здзіўлена гледзячы на дзверы, за якімі зніклі «вар'яткі».

Не ведалі дзяўчаты, што і падумаць. Але потым рашылі: проста дурэюць дзеўкі.

— Да хахаляў пайшлі,— не магла супакоіцца карантышка.

— Не. Руфіна не. А вось Наталля... І чаго ёй дома не сядзіцца? Навошта перайшла ў інтэрнат, калі муж у яе? Маўчыць, утойвае нешта... Ой, датанцуюцца дзеўкі!

— Ану іх! Давай спаць.

Стаміўшыся за дзень, дзяўчаты заснулі хутка. Не чулі яны, як вярнулася Наталля, як ціха крадучыся,

каб не разбудзіць дзяўчат, прайшла за шафу. Скінуўшы з сябе ўвесь маскарад, бухнулася ў пасцель, уся калоцячыся пасля пагулянкі па марозе, і мігам заснула.

Ноч выдалася марозная. Месяц, як залаты пятак, ззяў над тайгой, над засынаючым пасёлкам. Віктар ішоў па тайзе бязлюднымі сцежкамі. На душы яго ніbыта май квітнеў. Дзіва што! Рабкоў усё ж прыняў яго ў сваю брыгаду! Пасля ўсяго, што здарылася з Віктарам, і пасля таго, што ён пачуў на сходзе, яму было аб чым паразважаць. Усё гэта было яму на карысць. Дзергачоў зноў папрасіў Рустамава пагаварыць з Рабковым аб яго прыёме ў брыгаду. Рустамаў не марудзіў. Прыйшоў да брыгадзіра і сказаў яму:

— Разумееш, Лёша, ёсць хлопцы з характарам, якіх з дарогі нікому не збіць. А ёсць такія, ну, скажам, як губка: усё ў сябе ўбіраюць — і добрае і благое. Віктар такі. Адпіхнём мы яго — ён зламацца можа, а прыпмем — уратуем. Ты ж ведаеш: з кім павядзешся... перадумаў ён шмат. Гаварыў я з ім.

— Я думаў пра гэта,— адказаў Рабкоў.— Тады я гарачку спароў. Цяпер астыў. Быць па-твойму. Але толькі скажы яму, што бярэм з выпрабавальным тэрмінам. Ты ж ведаеш, як у нас. Ён павінен заслужыць давер. Так і скажы. А лепей... хай да мяне зойдзе. Я сам пагавару.

Віктар прыйшоў да Рабкова. Доўга з ім гутарыў брыгадзір. Аб тым, што навічкі павінны вытрымаць «маральны каранцін» і што ў іх праводзіцца цвёрды курс: прыносіць людзям брыгады толькі тое, што паспрыяе іх духоўнаму росту. Усё добрае, што ўжо ёсць, падтрымліваць і развіваць, а ўсё благое выдзіраць з карэннем, як пустазелле. Карацей кажучы, Віктар павінен прывыкнуць да іх калектыву. І тэрмін яму даецца адзін месяц. Вытрымае каранцін — у лютым яго ўраўчыста прымуць у брыгаду, а не вытрымае — іх сцежкі разбягуцца. Што да афіцыйнага пераводу ў брыгаду, то Рабкоў бярэ ўсё гэта на сябе, сам з Яцэнкам уладкуе.

Позна сядзелі яны. А чаму і не пагаманіць двум мужчынам, калі дома іх ніхто не чакае? Лёшава сям'я толькі вясной вернецца. А Віктар халасты, і суседа няма: у камандзіроўцы. Вось і заседзеліся. Дый выхадны заўтра.

Віктар ішоў дамоў, ног не чуючы пад сабою ад радасці. Ён ішоў па тайзе нацянькі, скарачаючы шлях. Была поўнач. На небе свяціла поўня. Ад месячнага святла снег зіхацеў блакітнымі зоркамі. Віктар ішоў праз сасняк. Ствалы соснаў адкідалі чорныя цені, і таму сцежка і снег здаваліся перачэрчанымі тушшу. Віктар падыходзіў ужо да скрыжавання сцяжынак, ён прыпыніўся, каб закурыць, як раптам белы цень мільгануў перад ім крокаў за трыццаць. Віктар мог яго і не заўважыць, але цені ад дрэваў, што падалі на снег, былі такія чорныя, што выразна было відаць, як іх перасекла белая фігура. Дый лёгкае рыпенне крокаў даляцела да яго вушэй. «Вось дык цуд! — весела падумаў Дзергачоў.— Быццам у ноч перад калядамі вядзьмаркі па лесе швэндаюцца».

«Вядзьмарка» стаяла на скрыжаванні, павярнуўшы твар да поўні. Віктар прыгледзеўся: ды не, не вядзьмарка гэта, а хутчэй снягурка. На ёй было нешта блакітнае і доўгае да самых пят, а галава абвязана хусткай, з-пад якой відаць былі распушчаныя валасы. А снег наўкола ззяў блакітнымі зоркамі. Нешта знаёмае памроілася Віктару ва ўсім гэтым, і ў яго чамусьці трывожна забілася сэрца. Хто ж гэта? Але дзяўчына стаяла да яго спіной, і твару яе ён не бачыў. «Дзівосы! Быццам і сапраўды снягурка. Вось толькі Леля ёй не хапае. А можа, гэта нехта дурэе і па старому звычаю спраўляе каляды? — раптам узнікла думка.— А мо яшчэ хто зараз з'явіцца?» Баючыся спалохаць дзяўчыну, Віктар затаіўся за дрэвам і з цікаўнасцю пачаў чакаць, што будзе далей.

Дзяўчына стаяла, гледзячы на поўню. І няўцям было Віктару, што прыйшла яна сюды з-за яго. Адкуль жа было яму ведаць, што ў поўню дзяўчаты варожаць, шчасце сваё гукаюць. Ау, ау! Ах ты, доля дзявочая, і дзе ж ты ходзіш-блукаеш? Мо заблудзілася, не тою сцяжынкаю пайшла? Вось і варожыць дзяўчына, каб яе любы не заблудзіўся, каб не да другой, а да яе сцяжыначку знайшоў.

Узяла дзяўчо бярэмя галля, загадзя падрыхтаванае, перанесла на самае скрыжаванне сцяжынак і падпаліла. Калі вогнішча разгарэлася, дзяўчына стала да агню тварам, нізка пакланілася і загаварыла таямнічна, нібы заклінаючы некага.

Чорны дым,
Ляці ва ўсе бакі,
Знайдзі раба божага Віктара,
Укладзі яму ў галаву
Тугу тугучую,
Сухату сухатучую,
Глухую тугу,
Каб не мог ён без мяне
Ні жыць, ні быць,
Ні часу часаваць,
Ні ночы начаваць.

Потым зайшла з другога боку вогнішча, зноў нізка пакланілася і зноў пачала гаварыць закліананне. І ў трэці раз, абышоўшы вогнішча, пачала паўтараць тое ж самае. Віктар не мог разабраць словы, але на гэты раз ён убачыў твар, асветлены агнём, і ад нечаканасці адхіснуўся: ён пазнаў Руфіну! Яна гаварыла скорагаворкай, манатонна і напаўголаса. І ўсё ж да Віктара даляцелі некаторыя словы. І ён усё зразумеў: Руфіна варажыла, заклікала яго, Віктара!

Вогнішча затухала. Руфіна закідала вуголле снегам і хуткім крокам пайшла прэч з тайгі. І тут Віктара нібы д'ябал які падштурхнуў. Ён выйшаў з-за дрэва і пабег дзяўчыне напярэймы. Тая аслупянела, потым спалохана ўскрыкнула, шарахнулася ад яго і пусцілася наўцёкі.

— Руфіна! — аклікнуў яе Віктар.

Руфіна спынілася. Павалі павярнулася, нібы не даючы веры сваім вушам, і, пазнаўшы Віктара, які да яе падбег, здзіўленая, ні слова не кажучы, упала яму на грудзі. Віктар зняў з сябе кажушок, захінуў у яго перапалоханую, ледзь не беспрытомную варажбітку, падняў яе, трапяткую, на рукі, і панёс у свой вагончык...

Патухла вогнішча, распаленае Руфінай. Залаты месяц паволі раставаў і, ператварыўшыся ў заручальны пярсцёнак, амаль што знік з небасхілу.

А з-за сопкі ўжо ўзыходзіла сонца. Сёння яно падымалася не так, як заўсёды: хітравата прыжмурыўшы вока, яно скасавурылася ў акно інтэрната, у пакой, дзе спалі сном праведніц Наталля, кірпатая дзяўчына і тоўстая карантышка. Разбудзіў іх сонечны прамень — і што тут пачалося! Дзявочы перапалох! Дзіва што! Такога ў інтэрнаце яшчэ ніколі не было: Руфіна знікла, а Наталля звар'яцела! Як жа тут не перапалохацца!

Падняўшыся пазней за ўсіх, калі дзяўчаты ўжо снедалі, Наталля раптам пачала хапаць усё, што было ў пакоі жалезнага: шпількі, брошкі, лыжкі, відэльцы, нават чайную лыжачку выхапіла з рук карантышкі — і давай усё чапляць на сябе! Ды яшчэ спяваць пра Хазбулата.

Скончыўшы спяваць, Наталля такое панесла!.. Дзяўчаты затаіліся па кутках, з жахлівасцю назіралі за ёю і слухалі. А Наталля быццам іх не заўважае і ўсё гаворыць, гаворыць з кімсьці:

— Што лепей: салат або яечню? Лепей яечню, з дарогі — сытней будзе.

І тут Наталля ўзяла са стала патэльню з яечняй, што не паспелі даесці дзяўчаты, і паставіла на кнігу.

— Няхай падаграецца,— сказала яна.

А потым падышла да шыфаньера, абхапіла яго рукамі і кажа:

— Ну-тка, пацалуй мяне — як ты ўмееш? О-о, дык ты не ўмееш нічога... А лапці зняў? Трымаю! Ну? Пачакай, патэльня перапалілася, мусіць. Ты глядзі, які ты! А дзіця ўмееш спавіваць? Зараз пакажу. Яечню пастаўлю... і пакажу.

Наталля пераставіла патэльню з кнігі на стол. Потым падышла да ложка, узяла падушку і пачала загортваць яе ў коўдру. Пры гэтым яна пяшчотна прыгаворвала:

— Халосенькі мой... Сынуленька мой. Ну-ткі, усміхніся матульцы. Ну-ткі, як мы ўмеем усміхацца? Ну-ткі?

Скончыўшы спавіваць падушку, Наталля ўзяла яе на рукі і пачала люляць пад калыханку.

Тут ужо дзяўчаты не вытрымалі і выбеглі з пакоя. А калі вярнуліся, Наталля, як быццам нічога і не было, сядзела за сталом і папівала чай. Дзяўчаты з апаскаю падышлі да яе.

— Што з табой, Наталлюшка? Табе нядужыцца? — асцярожна спыталі ў яе.

Наталля зарагатала.

— Вы напалохаліся?

— Не... але ты скажы... можа, ўрача?

— Ды кіньце вы, дзяўчаткі,— рагоча Наталля,— я варажыла.

— Варажыла?! — пераглянуліся дзяўчаты.— Але... якая ж гэта варажба, калі ты абдымала шыфаньер?

Наталля перастала смяяцца і, гледзячы на ўсё яшчэ напалоханыя твары сяброўак, ужо сур'ёзна сказала:

— Так і быць. Я вам усё па парадку. Я з Сярожкам пасварылася. І пайшла ад яго на пару дзянькоў, каб даць яму час падумаць, пакаяцца і надалей мяне слухацца. А каб ён мацней мяне любіў, я... варажыла. Мяне Руфіна навучыла. Хочаце — раскажу. Цяпер можна. Слухайце. Варажыць трэба ў канцы месяца ў поўнач. Зняць з сябе ўсё жалезнае: завушніцы, пярсцёнкі, кулоны і каб ніякіх на табе засцежак. Роўна апоўначы стаць на скрыжаванні дарог у бязлюдным месцы, каб ніхто цябе не бачыў, потым пакланіцца, развесці рукі ў бакі і гаварыць заклінанне. Потым трэба напяцца, як струна, і ўявіць сабе, як накідваюцца на твайго любага лясунчыкі праз вушы, нос, усе поры і ўсе дзірачкі і робяць сваю чорную справу...

— Якую чорную справу? — спалохана спытала карантышка.

— А ты слухай і не перабівай,— сказала Наталля.— Як нагаварылі заклінанне, трэба прыйсці дамоў, ні з кім не размаўляць і легчы спаць. А раніцай падняцца, тры разы плюнуць цераз левае плячо, потым цераз правае, зноў цераз левае, і ўсё, што трапіць пад руку жалезнага, чапляць на сябе і гаварыць, гаварыць абы-што — гэта каб нячыстая сіла да цябе не прыстала... Вось і ўсё,— весела закончыла Наталля.

— Ну, а... падушку навошта спавівала? Навошта яечню на кнізе смажыла? — усё яшчэ недаверліва спытала карантышка.

— І шыфаньер абдымала? — падтрымала яе кірпатая.

Наталля зноў засмяялася.

— Ой, дурненькія! Ды гэта ж я рэпеціравала! Каб больш балбатаць, я ролю сваю прыгадала. Я ж іграю дачку Бабы Ягі ў «Пеўнях»! А Сярожа мой Івана-дурня! Мы з ім часта гэту сцэну рэпеціруем. Ну, а тут замест яго я... шыфаньер цалавала.

Наталля раптам стала сур'ёзнай.

— Не, вы толькі падумайце! Ён хоча пайсці ад Бандарчука! Я ў яго пытаюся: «Чаму?» А ён мне: «Ты разумееш, Наталля, абрыдла мне пад чужую дудку скакаць, па чужой указцы жыць». А Бандарчук такі... Не любіць, калі яму ўпоперак дарогі. Вось і рашыў Сяргей пайсці ад яго. А я ўпрошваць пачала: «Уціхамір,—

кажу,— свой характар. Не лезь на ражон!» А ён — нізавошта! «Пайду,— кажа,— да «рабчыкаў». І ўсё тут. Вось і пасварыліся мы...

Паведаміўшы гэта дзяўчатам, Наталля зажурылася. Кірпаценькая пачала яе суцяшаць. А карантышка раптам спыталася:

— Ну і наслала ты на яго сухату сухатучую? Уклала яму ў галаву?

— А ну цябе! — адмахнулася Наталля.— Гэта ж я жартам. Каляды ж.— Яна памаўчала.— А Руфіну вы не шукайце. Яна таксама варажыць хадзіла. Раз начаваць не прыйшла, значыць, знайшла свайго любага. І Валюха з суседняга пакоя варажыла...

— Баюся, Наталля, што ў вашы галовы ўкладуць на нарадзе інтэрната. Вахцёрка запісала ў журнал, маўляў, ты ў мужчынскі інтэрнат ноччу бегала. А калі сведкаў не дасі, ніхто табе не паверыць,— раптам сказала карантышка.

Наталля разгубілася. Цяпер ужо яна спалохана глядзела на дзяўчат.

— Як жа гэта, дзяўчаткі?.. Што Сярожка пра мяне падумае?.. Я ж толькі... каб правучыць яго... ну, як развод на два дні...

— Дурыкі ў тваёй галаве сядзяць, вось што! — пачала дакараць Наталлю кірпаценькая.— Вось як прапясочаць цябе — адаб'е ахвоту жартачкамі такімі займацца. Дый не да твару камсамолцы варажыць, Руфіна — іншая справа. Яна тутэйшая, з Заімкі, таежніца. Яе перавыхоўваць трэба. А ты?.. І не сорамна табе? Дабегаешся! Дасць табе Сярожка развод!

Наталля зусім зажурылася. Пачалі дзяўчаты думаць-гадаць, як яе выручыць. Раптам дзверы расчыніліся і ўвайшла... Руфіна. Яшчэ з парога яна аб'явіла:

— Я выходжу замуж!

Не паспела яна гэта сказаць, як услед за ёю ў пакой уляцеў Сяргей.

— Дык вось ты дзе? Ану, марш дамоў! — накінуўся ён на Наталлю.

І не даўшы той апамятацца, Сяргей нацягнуў на яе кажушок, схапіў за руку і пацягнуў з пакоя.

Падзеі адбываліся з такой хуткасцю, што дзяўчаты ахнуць не паспелі. І калі за Наталляй і Сяргеем зачыніліся дзверы, карантышка развяла рукамі і здзіўлена сказала:

— Страсць, ды і толькі! Няўжо і сапраўды варажба дапамагла?

Як бы там ні было, Сяргеў усё ж знайшоў Наталлю, а Руфіна знайшла свайго суджанага.

Так закончыліся каляды. Дзяўчаты пачалі рыхтавацца да Новага года, а заадно збіраць Руфіну замуж.

## РАЗДЗЕЛ ДВАНАЦЦАТЫ

### Сон.— «Што пасееш — тое і пажнеш».— Бяда.— Прызнанне

Табун гіганцкіх коней нясецца па тайзе. Быццам нейкая сіла падхапіла яго. Уперад, грывастыя, уперад! Ох і прыгожыя яны! Коні храпуць, з раздутых ноздраў струменіць пара, стракатыя грывы палошчуцца, нібы сцягі! Капыты высякаюць не іскры — вогнішчы! Сакрушальны гэты бег! Налятаючы грудзьмі на тайгу, табун усё дашчэнту на сваім шляху змятае. Вараны грывасты конь, што скача ў табуне,— гэта Рустамаў! Табун імчыць, не азіраецца. І раптам нехта клікнуў варанога. Ён ведае: спыняцца нельга! Ледзь затрымаешся — цябе растопчуць! І ўсё ж спыніўся вараны, на імгненне, толькі на імгненне! Ён азірнуўся...

Табун ужо далё-о-о-ока!.. А там, дзе ён прабег,— прасека, вогнішчы, паваленыя дрэвы і сярод іх... грывасты... нерухомы... вараны...

Рустамаў доўга ляжаў з заплюшчанымі вачыма: не мог зразумець, дзе ён, што з ім? Цяжка дыхаў, нібы пасля шпаркага бегу. Ён чуў яшчэ тупат конскіх капытоў. А калі канчаткова прачнуўся, зразумеў — гэта стукае яго сэрца. Ён расплюшчыў вочы — была ноч. Побач з ім роўна дыхае Аня. Цікае будзільнік на стале. Гэтая мірная ўтульнасць яго крыху супакоіла. Рустамаў з палёгкай уздыхнуў. Але заснуць ужо не змог, і нейкае нядобрае прадчуванне мучыла. Рустамаў пачаў сябе лаяць, што надае значэнне нейкаму сну. Усё проста — гэта вынік стомленасці і невясёлых думак. Дзіва што! Столькі давялося перажыць за апошні месяц! Жыццё на БАМе ляціць з касмічнай хуткасцю. Не паспелі кічарцы сустрэць Новы год — і ўжо столькі падзей! Увесь пасёлак асабліва ўзбударажыў той факт, што людзі пачалі пакідаць брыгаду Бандарчука. Праў-

ду кажуць: «Што пасееш — тое і пажнеш». Аніна выступленне на сходзе дарма не прайшло. Больш за ўсіх дасталося Чубакову. Падтасоўка ёсць падтасоўка, яе нічым не апраўдаеш. Чубакоў хацеў аддзякаваць Бандарчуку за ўсё, што ён яму зрабіў у мінулым і зробіць надалей. Але Рабкова абагнаць таксама не было ніякай магчымасці. Таму і пайшлі на хітрыкі: Рабкоў нічога не губляе і Бандарчуку пашана. Толькі ўсё гэта павярнулася адваротным бокам. Адзін за адным ішлі ад Бандарчука людзі. Выпрасіў пайсці ад яго і Сярожа Казлоў. І ўсе пачалі прасіцца ў брыгаду Рабкова. Але той, каб не абвастраць адносіны з Бандарчуком, нікога да сябе прымаць не стаў. Адмовіў ён і Казлову. А сам пагаварыў з Бандарчуком аб яго непрыгожых справах. Той апраўдваўся тым, што Чубакоў нібыта хацеў зрабіць эксперымент. Але пасля такога эксперыменту ўцекачоў аказалася так многа, што брыгадзе пагражаў развал. Трэба было тэрмінова прымаць меры і думаць, што рабіць далей, каб выратаваць брыгаду Бандарчука.

Было аб чым задумацца.

Неўзабаве Фядотаў выклікаў Рустамава і сказаў яму, што Аня не спраўляецца са сваімі абавязкамі, што не пад сілу ёй. Больш таго, яна ўносіць разлад. Рустамаў камсорг брыгады і павінен зразумець, што Аня не на сваім месцы, што яны дапусцілі памылку, узяўшы яе на гэтую пасаду. Няхай, маўляў, жонка падае заяву аб звальненні па ўласнаму жаданню. Гэтую размову Рустамаў ад Ані ўтаіў, каб яе не хваляваць.

Рустамаў стаў рассеяным, усё часцей задумваўся. Можа, рассеянасць вінавата, ці, можа, стомленасць (і на лесапавале паспявай, і дома), але прадчуванне бяды яго не пакідала.

Не пакідала яно і сёння на прасецы.

А дзень выдаўся шэры, золкі: з самай раніцы быццам саванам зацягнула неба. І было яно змрочным, як думкі Рустамава. Дый сама прасека — справа нялёгкая. Кожны дзень брыгада па тры кіламетры дае. Робіш, робіш, а тайга сцяной стаіць, нібы нічога і не зроблена, нібы і з месца не крануўся. І толькі калі азірнешся ў канцы дня, убачыш,— як шмат ты зрабіў — лёгка так стане!

Гэтак разважаў Рустамаў, працуючы на прасецы ў змрочны, туманісты дзень. Успомніў размову з Фядотавым, думаў пра Аню...

Як і Рабкоў, ён працаваў вальшчыкам. Адно за адным падалі спілаваныя дрэвы. Вось Рустамаў падышоў да лістоўніцы, завёў бензапілу — і тут здарылася непрадбачанае... Ці то зноў задумаўся Рустамаў, ці то няўдала павярнуў пілу, але яна чамусьці ўчапілася ланцугом, быццам кошка кіпцюрамі, у крысо яго спяцоўкі і папаўзла ўверх. Калі яна дапаўзала да каўняра, раптам ад уласнага цяжару сарвалася і закруцілася ў снезе ваўчком з шалёным віскам. Рустамаў апамятацца не паспеў, так хутка ўсё адбылося. Але цяпер ён стаяў бледны і, гледзячы на жалезнага раз'юшанага звера, не ведаў, што рабіць. У гэты момант падбег спалоханы Рабкоў.

— Не чапай яе! Пакуль не сажрэ ўвесь бензін, не падыходзь! — Ён уважліва ўгледзеўся ў твар Рустамава.— Што гэта ты сёння, браток? Не выспаўся? Выгляд у цябе...

— Угадаў. Спаў я кепска.

— Будзь асцярожней. Чаго не бывае...

Падышлі лесарубы.

— Закурка, хлопцы. Адпачнём і зноў за працу,— сказаў брыгадзір.

Пагаманілі пра тое-сёе, абмеркавалі бензапілу, выказаўшы папрок яе канструктару, яшчэ выпадкі прыгадалі, ды страшнейшыя,— і разышліся па сваіх рабочых месцах. Рустамаў пакінуў пілу, пакуль не перагарыць увесь бензін. Ён пайшоў да сучкарубаў уверх па прасекы.

Ішоў, і ўсё яму здавалася змрочным. Вось убачыў бярозку, сагнутую ў дугу, яе макаўка была прыціснута старым паваленым кедрам. Пэўна, падаючы, ён пацягнуў за сабой і прыціснуў гнуткую верхавінку. Так і засталіся яны — павалены кедр і сагнутая, быццам схілілася над ім у жалобе, бярозка. Абое захутаныя снегам.

Рустамаў ішоў да сучкарубаў.

А Рабкоў ужо зноў валіў дрэвы. І ўсё паглядаў на адхон, куды ўзбягала дзялянка: там, нібы картачны дамок, стаяла чародка дрэў. Яшчэ раніцай Лёша прыкмеціў яе. Чатыры спарахнелыя кедры, падаючы, у свой час утрымаліся за дзве здаровыя разгалістыя лістоўніцы. Так і стаялі яны дамком: тры кедры па адзін бок лістоўніц, чацвёрты — па другі, абапіраючыся на магутныя здаровыя ствалы. Гэта вельмі небяспечна, калі дрэвы стаяць чародкай: спілуеш здаровыя — і

струхлелыя за імі пападаюць, а куды — хто іх ведае. Тут трэба ўсё разлічыць, каб дакладна было і бяспечна. Вось і меркаваў Лёша, як спілаваць той «картачны дамок». А пакуль валіў іншыя дрэвы.

Нарэшце, брыгадзір падышоў да чародкі дрэў. Людзі былі далёка: цяпер валіць можна. А вырашыў ён так: калі падпілаваць дзве лістоўніцы, старыя кедры паваляцца самі. Трэба толькі падпіхнуць, каб яны трапілі ў вогнішча. Ён падпілаваў адну лістоўніцу — тая ўпала, і два кедры, пазбаўленыя апоры, чмякнуліся побач з паваленым дрэвам. Брыгадзір паднёс пілу да другой лістоўніцы... затрашчалі рэшткі недапілаванай драўніны, і дрэва, пахіснуўшыся, пачало падаць на зямлю. За ім пацягнуўся спарахнелы кедр і адразу ж другі... уся чародка навалілася на піхту, што стаяла на адлегласці — і тая таксама пачала валіцца, але зачапілася вершалінай за сук суседняй сасны. І гэты сук адляцеў далёка ўбок, ён ляцеў не туды, куды накіраваў падзенне дрэў Лёша...

Рустамаў тым часам падымаўся ўсё вышэй. Ён мінуў візірку, яшчэ летась пакінутую геолагамі, і ўжо набліжаўся да Дроздзіка, які адсякаў сучча з паваленага дрэва, як раптам нешта цяжкое навалілася на яго, аглушыла, выбіла з-пад ног зямлю. І ў той жа міг ён адчуў, як па ім прамчаўся табун імклівых, разгарачаных коней, які падмяў яго пад сябе, раздавіў, расплюшчыў...

Рустамаў ужо не чуў, як да яго з крыкам беглі людзі. Побач з ім ляжаў сасновы сук, той самы, што ляцеў з боку «картачнага дамка». Рустамаў упаў якраз ля паваленай лістоўніцы, ад якой Дроздзік адсякаў суччя. І не зразумець было, ці то гэта кропелькі крыві пунсавелі на снезе, ці то чырвонае пілавінне лістоўніцы — усё перамяшалася...

Рустамава адвезлі ў бальніцу на спадарожнай машыне. Пакуль яго неслі да аўтатрасы, ён так і не апрытомнеў. А што было далей: што з ім, ці ачуняў пасля таго, як страціў прытомнасць,— ніхто не ведаў. Разам з ім паехаў старэйшы Дрозд. Да Ніжняга пяцьдзесят кіламетраў, дарога цяжкая, дый другая палова дня, а вечар надыходзіць хутка. Пакуль той вернецца... Рэшткі дня людзі працавалі панурымі.

А калі вярталіся ў пасёлак, пачалі хлопцы думаць-гадаць, як пра гэтую нечаканую бяду сказаць Ані?

Яна ж цяжарная! Ды таго, што здарылася, ад яе не ўтоіш. Трэба сказаць. Але каму даручыць, каб не вельмі яе напалохаць? А можа, не варта пакуль што гаварыць? Але ж яна яго чакае! Усе прыедуць — а Рустамава няма. Хвалявацца ўсё роўна будзе. Што рабіць? І вырашылі ўсё ж падмануць: сказаць, што Рустамава тэрмінова выклікалі ў вобласць. І добра было б паслаць да яе Тоху: яна жанчына разумная, калі што — суцешыць зможа. Дый ведалі хлопцы, што Аня і Тоха як быццам пасябравалі. Так яны і зрабілі.

Тоха прыйшла ўвечары ў той час, калі звычайна вяртаўся з прасекі Рустамаў. Аня ўжо ставіла на стол вячэру, рыхтуючыся сустракаць мужа, як увайшла Тоха. Перакінуўшыся двума-трыма малазначнымі фразамі, Тоха перайшла да галоўнага.

— Лёню чакаеш? — спытала яна, гледзячы, як Аня клапатліва расстаўляе сталовыя прыборы на траіх.

— Ну, а як жа! Зараз уварвецца галодны, як звер! — весела сказала Аня.

Тоха падышла да акна, каб схаваць сваё хваляванне, каб Аня не бачыла яе твару.

— Ён папрасіў перадаць... хлопцы казалі... што сёння ён не прыедзе,— пачала Тоха. Голас яе раптам задрыжаў. Перавёўшы дух, яна зрабіла над сабой намаганне і закончыла: — Яго тэрмінова выклікалі ў вобласць.

— У вобласць? — здзівілася Аня.— Тэрмінова? Навошта? — насцярожылася яна.

Паставіла на стол хлебніцу, падышла да Тохі. Тая адвярнулася, хаваючы слёзы, што раптам навярнуліся на вочы. Аня павярнула да сябе яе твар і, уся пабялеўшы, спыталася:

— Што... з ім?

Тоха маўчала.

— Што?! Ну кажы ж ты, кажы! — патрабавала Аня нейкім глухім, не сваім голасам.

Тоха стаяла перад ёю разгубленая, слёзы каціліся з вачэй. Вусны дрыжалі, і яна не магла вымавіць ні слова. Аня ўчапілася ў Тохіна плячо, моцна трасянула і, упіўшыся ў яе спалоханымі вачыма, з адчаем ускрыкнула:

— Ды ці скажаш, нарэшце?!

Але Тоха, канчаткова страціўшы самавалоданне,

схавала твар у далонях і ціха ўсхліпвала. Аня адпусціла яе плячо, падалася назад і, хапаючыся рукамі за паветра, знясілена апусцілася на падлогу. Тоха, апамятаўшыся, кінулася да яе.

— Аня! Анечка! Нічога страшнага! Лёгкі удар... драпіна... яго адвезлі ў бальніцу... ён заўтра прыедзе, вось пабачыш... Ой, мамачка родная! Што ж я нарабіла! Аня!.. Аня!..

Аня глядзела перад сабой і, здавалася, нічога не бачыла. Яна была, як скамянелая. Даўшы Ані валяр'янкі, Тоха выпіла сама, села побач на падлогу і абняла яе.

— Нічога страшнага? — уважліва зірнуўшы на Тоху, нарэшце спытала Аня, крыху апрытомнеўшы.— Гэта праўда?

— Праўда...— паспрабавала ўсміхнуцца Тоха.

— Тады чаму слёзы? — зноў спытала Аня, у якой не выкацілася з вачэй аніводнай слязінкі.

Тоха неяк прыціхла, памаўчала і, дзіўна зірнуўшы на Аню, раптам прызналася:

— Я... любіла яго.

Здзіўленне Ані было настолькі вялікім, што яна не задала ніводнага пытання, не вырвалася з яе грудзей ніякага воклічу. Толькі бровы спалохана ўскінуліся, і сама яна адхіснулася ад Тохі. Гэта было толькі імгненне. І зноў страх адбіўся ў Аніных вачах. Але гэта быў другі страх, не за жыццё Рустамава.

— А... ён? — раптам вельмі ціха спытала яна.

— Ён пра гэта не ведаў.

— Не ведае,— строга паправіла Аня, нахмурыўшы бровы.— Эх ты, міласэрная сястра,— намагалася пажартаваць яна. Але раптам, прыклаўшы руку да жывата пад самым сэрцам, быццам прыслухоўваючыся да нечага, слаба ўскрыкнула і, неяк дзіўна ўсміхаючыся, часта задыхала.

— Анечка, родная, што з табой?! — спалохана закрычала Тоха.

Але Анін твар выказваў лёгкі спалох, здзіўленне і... шчасце. Ні слова не кажучы, яна ўзяла Тохіну руку і прыклала да свайго жывата. І Тоха адчула пад далоняй жывыя штуршкі. Там, у чэраве маці, зараджалася новае жыццё, і гэта было працягам жыцця Рустамава. І пад чарамі нейкай незразумелай сілы абедзве жанчыны раптам кінуліся адна адной у абдымкі і пла-

калі, доўга плакалі, аблягчаючы слязьмі сваю душу, абмываючы слязьмі сваё гора, таму што хоць і ўтойвалі яны адна ад адной, хоць і цяплілася ў іх надзея, але кожная была амаль упэўнена ў тым, што Рустамава няма ў жывых. Таму і прызналася Тоха ў сваім пачуцці да Рустамава. Таму і даравала ёй Аня. А штуршкі пад сэрцам, гэты першы прызыў дзіцяці быў для Ані агеньчыкам, тым самым агеньчыкам, да якога імкнецца падарожнік пасля доўгага пад'ёму на перавал. І ён, гэты агеньчык, будзе зваць яе і свяціць ёй яшчэ не за адным жыццёвым перавалам, будзе падтрымліваць і весці яе ўсё жыццё. І Аня, працягнуўшы рукі, ужо ішла яму насустрач. Сутыкнуўшыся са сваёй першай у жыцці бядой, змучаная, узрушаная страшнай навіной, яна ўся памкнулася да свайго выратавальнага агеньчыка.

## РАЗДЗЕЛ ТРЫНАЦЦАТЫ

Дзённік Рустамава.—Перакаці-поле.— «Вы малайчына, Аня!» — У чаканні

За жыццё Рустамава ніхто ўжо не баяўся. Але руцэ яго пагражаў параліч, таму што ўдар прыйшоўся па плячы і быў закрануты рухальны нерв. Каб не было больш цяжкіх вынікаў, кансіліум урачоў вырашыў неадкладна адправіць хворага ў Маскву да вопытных хірургаў.

Аня засталася адна. Яе наведвала Тоха, Наталля, іншы раз забягала Руфіна, уся брыгада Рабкова. Але часцей за ўсіх — Палікарпаўна. Ані памагалі як толькі маглі, каб яна не адчувала сябе адзінокай. Цяпер яна працавала бібліятэкарам. Не ведала Аня, што яе хацелі вызваліць ад ранейшай пасады, і атрымалася так, што яна сама перайшла на новае месца, больш спакойнае, таму што нервавацца ў яе становішчы было нельга: час родаў набліжаўся. Рустамаў пісаў ёй пісьмы, у якіх было шмат цеплыні, прасіў яе не хвалявацца за яго, бо ён пайшоў на папраўку, а сябе яна павінна берагчы для іх будучага малога. Гэтыя пісьмы прыносілі Ані радасць і спакой.

Аднойчы, прыбіраючы хату, яна знайшла дзённік Рустамава, які ён завёў на БАМе. З вялікай цікавасцю чытала Аня рустамаўскі дзённік. Не адзін раз перачыт-

ваючы запісы, шмат думала аб мужу, аб сабе, аб людзях, з якімі лёс іх звёў у Кічары. Але больш за ўсё яна думала пра мужа, таму што дзённік адкрыў ёй вочы на такія рысы ў яго характары, якіх яна не заўважала ці мо крыху ўгадвала. Прачытаўшы яго шчырыя думкі, яна нібы дакранулася да тайнай споведзі любімага чалавека. Ён стаў ёй больш зразумелы, больш блізкі і родны. Застаючыся доўгі час без Ані, Рустамаў раскрываў сваю душу, давяраючы думкі і пачуцці дзённіку, як самаму надзейнаму сябру, з такой шчырасцю, з якой не мог бы адкрыцца, можа, нават і перад жонкай. І, прачытаўшы гэтую споведзь, Аня зразумела, як моцна любіць яе Рустамаў. З душэўным хваляваннем шмат разоў перачытвала яна радочкі, прысвечаныя ёй, і тыя, што раскрывалі характар Рустамава.

*10 красавіка*

«У Сібіры вясна. Растае снег. Пара знімаць валёнкі. Водар вясны ў тайзе — не ведаю больш хмельнага. У нас такой вясны няма. На захадзе яна прыходзіць ціха, непрыкметна. А тут у адзін дзень зіма ператварылася ў вясну.

Вясновымі вечарамі Аня ўспамінаецца часцей. Ад яе прыходзяць харошыя пісьмы. Гэта прыемна і пакутліва. Хутчэй бы сустрэцца з ёю назаўсёды».

*14 мая*

«Такія гучныя фразы, а на справе... Работы цеслярам няма, будаўнічага матэрыялу няма і калі будзе — невядома. Цэлымі днямі займаемся абы-чым, п'ём бярозавы сок літрамі, а вечарамі бегаем на рэчку рыбачыць.

Аня... Я заўсёды чакаю ад яе пісьмаў і мне заўсёды мала таго, што ў іх напісана. Гэта як смага: п'еш і не можаш напіцца».

*26 чэрвеня*

«Час бяжыць. Вось ужо канец чэрвеня. Я паціху ўрастаю, або, як мы тут кажам, пачынаю «буграваць». Абралі мяне нядаўна ў члены камітэта камсамольскага бюро адказным за ідэалагічны сектар. А я ўжо рэдактар газеты, камсорг брыгады, прафгрупорг і грамад-

скі інспектар па тэхніцы бяспекі. Пасад надавалі столькі, што і не памятаю нават, хто я такі. Як з усім гэтым спраўлюся?..

У лістападзе прыедзе Аня. Хутчэй бы дажыць. Яшчэ цэлых тры месяцы! Жахліва!»

*1 жніўня*

«Прыхварэў крыху. Валяюся з тэмпературай. Уяўленне малюе будучую восень. Аня... У час хваробы аб ёй думаю часцей, чым на працы. Праўда, праца ў нас цяпер такая — не да лятункаў, пасля прастояў — аўрал. І ўсё ж, як я люблю маю мілую Аню! У разлуцы з ёю гэта ўсведамляеш больш востра. Прайшло чатыры месяцы з той пары, як мы рассталіся. Але здаецца, што нас раздзяляе вечнасць».

*3 верасня*

«Думаў — не хворасць, дробязь. А на самай справе запаленне лёгкіх. Урач кажа, што гэта вынік прастуды, якую я схапіў яшчэ летам у час паводкі, калі вадой змыла мост на Кічары і мы, цесляры, яго аднаўлялі. Прастудзіўся і не вылежаў, на нагах хворасць перанёс. Але цяпер усё ззаду. Другі дзень, як працую. Цэлы месяц сядзеў без справы. Як гэта ўсё ж добра — працаваць! Пачынаеш паважаць сябе. Праўда, праца не зусім мяне задавальняе. Ну, але гэта не надоўга. Хутка пайду ў лесарубы. Да Рабкова.

Аня. Усяго нейкіх два месяцы засталося чакаць. Хочацца думаць, што яны праляцяць хутка. Лічу дні».

*15 верасня*

«Прыняты ў брыгаду Рабкова. Як там будзе далей, пакуль не ведаю. Але быць кепскім лесарубам не збіраюся. Дый не атрымаецца, бо дысцыпліна ў брыгадзе жалезная. І заробак што трэба. Рабкоў мне падабаецца. Хлопцы любяць яго. Чалавек разумны, сур'ёзны і на жыццё глядзіць гэтак жа, як я. Павінны спрацавацца.

Жывём упяцёх у адным пакоі. Цеснавата, але весела. Заканчваю будаваць хаціну. Да Анінага прыезду будзе гатова. Усё ідзе як быццам добра. На харчаванне трачу да трох з паловай рублёў на дзень. Але нічога не зробіш: пасля валкі апетыт воўчы.

Хутчэй бы прыехала Аня. Сумна да вар'яцтва. Што нас чакае? Упэўнены, што нам не будзе кепска, як і не было. Нам не можа быць кепска. І ўсё ж, як яна прыме гэта жыццё, не зусім камфартабельнае, і іншы раз не пазбаўленае рызыкі?.. Ці не паедзе назад? Не, яна не такая. Не ўяўляю, што б са мной было, каб я яе страціў. У мяне няма чалавека больш блізкага і роднага, чым яна. Мы будзем шчаслівыя. Мы маем права на шчасце. І нам ніколі не будзе сумна разам у любых умовах, таму што мы любім адно аднаго».

*21 верасня*

«Перабраўся ў хаціну. Якая раскоша! Вось узрадуецца Аня! Пакуль ёй не скажу. Хай гэта будзе для яе сюрпрызам».

*8 кастрычніка*

«У мяне вялікая радасць. Гордасць распірае грудзі. Гэта ж трэба! Я еду на Даван! Каб несці Карчагінскую вахту! Каб забяспечыць прыход першага рабочага поезда з Іркуцкай вобласці на перавал Даван да 60-годдзя камсамола! Я буду ганаровым пасажырам! Я праеду па БАМе! Ведала б Аня — мною б заганарылася. Трэба ёй пра гэта напісаць. А зрэшты, чаму я так радуюся? Як хлопчык. Што ў гэтым асаблівага? І чаму тут, на Малой зямлі, ўсякія ўрачыстасці і ганаровыя даручэнні ўспрымаюцца больш эмацыянальна, чым на Вялікай зямлі?.. Аб гэтым варта падумаць».

*31 кастрычніка*

«Васемнаццаць дзён з бяссоннымі начамі ззаду. Штурм Давана закончаны. Захапленне было спачатку і ў канцы, калі святкавалі гэтую падзею з музыкай, песнямі, хлебам ды соллю. А ўсё, што было між гэтым — успамінаецца, як цяжкі сон. Класці рэйкі для мяне не навіна. Чыгунка ж — мая прафесія. Але рабіць укладку пуцей у люты мароз, пургу, ды яшчэ без скарыстання тэхнікі, рукамі... а ўкладвалі мы ад двухсот да чатырохсот метраў трасы ў дзень, і так на працягу больш двух тыдняў без адпачынку — такога мне яшчэ не даводзілася. Асабліва крыўдна было, калі зробіш, і тут

жа пурга ўсё замятае. Чысціш, чысціш гэты снег, а ён усё роўна мяце. Гэта як казка пра белага бычка. Перавал настолькі круты, што механізмамі карыстацца не было магчымасці. Уся надзея заставалася толькі на свае рукі. Рукі ніколі не падводзяць. Вось толькі некаторыя хлопцы іх паабмарожвалі... Будзе пра што ўспомніць. Хто з намі ў тыя дні не працаваў, той не зразумее, што значыць заклік: «Даеш Даван!» На першым поездзе ехаць мне не давялося. Білет так і застаўся ляжаць у кішэні. Я ў гэты час працаваў. Увесь рэйкавы пуць прайшоў побач з цеплавозам-разведчыкам, што спрабаваў новыя рэйкі. А за ім ішоў упрыгожаны транспарантамі поезд з ганаровымі пасажырамі. І ўсё роўна я адчуваў і зараз адчуваю гордасць».

*4 лістапада*

«Сённяшняй ноччу быў выпадак, калі я падумаў: «Вось так, пэўна, прыходзіць смерць: нават спалохацца не паспееш». Ехалі мы з Ніжняга. Сцямнела. Калі праехалі пасёлак Халоднае, паваліў снег. Бачнасць не больш як за пяцьдзесят метраў. Хуткасць — восемдзесят кіламетраў. І тут вылятае насустрач «Магірус». І ён таксама добра шпарыць. Звярнуць няма калі — за снегам разгледзелі самазвал толькі тады, калі ён быў ужо ўпрытык. Удар. Шафёр усё ж паспеў пагасіць хуткасць, інача мы загрымелі б з абрыву. Правы рог кабіны змяла. Усё астатняе як быццам не пашкоджана. Потым трыццаць пяць кіламетраў ехалі без шкла па марозе. Уражанне яшчэ тое! У Кічару дабіраліся пехам: адмовілі тармазы. Давялося пакінуць машыну на дарозе. Дабраліся толькі ў гадзіну ночы.

А ўвогуле, я задаволены. Пасля Давана гэта было яшчэ адно выпрабаванне. Цяпер я магу сказаць самому сабе з поўнай адказнасцю: усё гэта я вытрымаў, а праз гэта можа прайсці не кожны. Але, дзякуй богу, усё ззаду. Яшчэ пажывём!

Аня затрымалася. Прыедзе праз два тыдні. Лічу дні».

*9 лістапада*

«Цяпер, калі ўспамінаеш дзень за днём усе пражытыя ў Сібіры сем месяцаў, мне здаецца, што ў другі раз

я ўсё гэта не адолеў бы. А можа, мне толькі здаецца, і я здольны вытрымаць яшчэ больш цяжкае? Адно зразумела: вытрымаць мне памагло тое, што я апантаны ідэяй: дабудаваць БАМ да канца. А чалавек, апантаны ідэяй, здольны перанесці страшэнныя нагрузкі. І ўсё ж можна было б збавіць тэмпы і больш думаць, а не крычаць: «Давай, давай!» Я пераканаўся ў тым, што некаторыя людзі, якія надзелены ўладай, робяцца жорсткімі. Яны патрабуюць, каб падначаленыя працавалі напружана пры любых умовах, не ўлічваючы ні абставін, ні фізічных мажлівасцей. Вось прыклад: Фядотаў і Чубакоў».

*15 лістапада*

«Да прыезду Ані засталося тры дні. Проста не верыцца. Няўжо я хутка буду цалаваць яе мяккія і ледзь насмешлівыя вусны, лашчыць яе непакорлівыя пасмачкі валасоў, глядзець у бяздонныя разумныя вочы?.. Абдыму яе ўсю... трапяткую... маю жаданую, родную...

І ўсё ж немагчыма, каб усе мае імкненні зводзіліся толькі да таго, каб есці, спаць ды мілавацца з каханай. Мне гэтага мала. Дзіўна. Нават у такім узросце мне хочацца як пяцікласніку зрабіць подзвіг. Сёй-той лічыць, што будаўніцтва БАМа — гэта гераізм. А на маю думку, гэта звычайная штодзённая праца. Кажуць, што герояў нараджаюць буры. Бур у нас няма. А задач шмат. І адна з іх — гэта барацьба з мяшчанствам. Вось тут і можна сябе праявіць. Вось толькі ў чым будзе выяўляцца барацьба? Гэта для мяне пытанне. Адно зразумела: з такімі людзьмі, як Фядотаў і Чубакоў, трэба змагацца. Але як?.. Чым я мог, напрыклад, дапамагчы Каплеву? Ён Фядотаву праўду казаў. І той далікатна адаслаў яго ў Ніжні, каб падалей, каб у жыццё атраднае не ўмешваўся. Ну, паспрабаваў я за яго заступіцца. А ён што? «У Каплева абудзіўся дух эгаіста». Гэта Каплеў эгаіст? Ды я ж разам з ім пажар у тайзе тушыў! Ён першы кінуўся ў агонь! Як цяпер яго бачу, ускудлачанага, абгарэлага, але вочы яго як радасна свяціліся, калі з пажарам было ўсё скончана! Людзі Заімкі, поўныя падзякі, рукі яму ціснулі, не помнячы сябе ад шчасця! Ну сказаў я Фядотаву. Але... Ну што яшчэ я мог зрабіць? Аня заўсёды папракала мяне ў нерашучасці, у лібералізме і нават у кампраміс-

насці. Маўляў, я ўсё і ўсім дарую, усім патрапіць магу. Вось прыедзе яна — і дапаможа мне ва ўсім разабрацца. Яна ж разумная і смелая. Аня мае рацыю. З такімі, як я, несправядлівасці на зямлі меней не стане. Бачыць і разумець — гэтага мала. Трэба яшчэ рабіць нешта, трэба змагацца. А бяздзейнасць — гэта фактычна падтрымка нядобрых учынкаў некаторых службовых асоб. Як цяжка на душы. Такі асадак, быццам я нешта не дарабіў, быццам я вінаваты ў нечым. Родная мая Аня!.. Трэба забыць на нейкі час на гэтую калатню і рыхтавацца да сустрэчы з табою».

Апошні запіс у дзённіку не быў датыраваны. Але, мяркуючы па яго зместу, ён быў зроблены зусім нядаўна. Рустамаў пісаў:

«Пасля сходу мяне выклікаў Фядотаў. Гаварылі пра Аню. Дакараў мяне ў тым, што я кепска яе выхаваў, і сказаў: няхай піша заяву аб звальненні па ўласнаму жаданню. Не апраўдала, маўляў, надзеі, з працай не справілася. Як мне ёй пра гэта сказаць?! Цяпер яе хваляваць ні ў якім разе нельга. Я прапаную ёй перайсці на спакойную працу, матывіруючы тым, што ёй нельга хвалявацца. Галоўнае, каб яна не даведалася аб рашэнні яе звольніць, і паспець своечасова перавесці яе ў бібліятэку. Зараз там аслабанілася адно месца. Я ўжо даведаўся».

Прачытаўшы гэта, Аня адчула, як яе кінула ў гарачы пот, а потым у холад. «Дык вось яно што! — жахліва падумала яна.— Я замінала Фядотаву! Ці ж я аб сабе клапачуся, ці ж я кепска стаўлюся да тых, з кім абышліся несправядліва?» — думала ашаломленая Аня.

Дзённік цяпер займаў яе вольны час і даваў ёй багаты пажытак для роздуму. Гэты дзённік быў яшчэ адным пацверджаннем таго, наколькі шчырае і глыбокае пачуццё Рустамава да Ані. І дарэмнай была яе ўспышка рэўнасці да Тохі, пра якую ў дзённіку Рустамаў нават ні разу не ўспомніў. Прыемна было Ані чытаць радкі, прысвечаныя ёй. Але засмуцілі яе і прымусілі задумацца запісаныя думкі Рустамава аб людзях, якія перашкаджаюць нармальна жыць і працаваць.

Фядотаў і Чубакоў. Аня і Рустамаў часта гаварылі пра іх, спрачаліся. У выніку абое пераканаліся: і той і другі паводзілі сябе так, быццам жывуць тут часова. Фядотаў ужо даказаў гэта: ён паехаў з Кічары ў са-

мую глыбіню Усходняй Сібіры. Цяпер ён кіруе будаўніцтвам новага буйнога завода. Вельмі абуралася Аня, калі дазналася пра гэтую навіну. З'ехаць, кінуць усё ў такі час, калі будаўніцтва дарогі на іх участку фактычна яшчэ толькі пачалося! Ці ж можна было ад'язджаць! «Ды хто ж ён такі, Фядотаў? — разважала Аня.— Паляўнічыя кажуць, што ў мядзведзяў ёсць свая тэрыторыя, і калі на яе прыходзіць чужынец, яны за гэтую тэрыторыю б'юцца. Дужы застаецца, слабы пакідае гэта месца. Не, Фядотаў не слабы, хоць і сышоў адсюль. Дык хто ж ён? Хутчэй за ўсё мядзведзь-бадзяга, які трымае нос па ветры ў пошуках здабычы. Так і вандруе ён па Сібіры, доўга не затрымліваючыся на адным месцы. А можа, ён — шукшынскі Мудрэц? Так яно і ёсць! Гэта Мудрэц! Далікатны і ветлівы, ён умее пускаць пыл у вочы. Таму і цяжка яго разгадаць. Вось ужо дваццаць гадоў Фядотаў, як перакаці-поле, вандруе па сібірскіх будоўлях. І не адзін. Ён абрастае такімі людзьмі, як Чубакоў. Выгадна і трывала ўладкаваўшыся на новым месцы, ён цягне за сабой сваіх людзей. Менавіта гэтак паявіўся ў Кічары Чубакоў. Ён зручны для Фядотава. Прараб добра ведае сваю справу, на высокія пасады і званні не прэтэндуе, а галоўнае, можа дагадзіць, зрабіць паслугу, уладзіць хоць і не вялікую, але выгадную справу. Абодва яны, што называецца, спеліся. І спеліся даўно. Як сухія травінкі, сплеценыя ў адзіны камяк, гоніць іх па неабжытых сібірскіх прасторах.

Якую карысць прыносяць гэтыя людзі? — пакутліва думала Аня. І не магла не пагадзіцца з тым, што хаця яны і спажыўцы, але сваю справу ведаюць добра. Будоўля не спыняецца ні на момант. Але яны зусім не думаюць аб людзях! І ці не ствараюць яны спрыяльную глебу для тых, хто прыехаў сюды, каб лёгка праславіцца? Як Бандарчук, напрыклад. Сапраўды, духоўнае багацце, як і духоўнае ўбоства людзей, раскрываецца ў калектыве. Вось як цяпер раскрыўся Бандарчук.

Бандарчук — гэта параджэнне Фядотава і Чубакова. Гэта яны яго выпеставалі. Яны яго зрабілі прагным да славы, і той дамагаецца яе любой цаной.

«Усяго толькі месяц адрабіла я на гэтай пасадзе,— разважала Аня,— а Фядотаў сказаў, што тут месяц раўняецца году. Што ж, будзем лічыць, што ў мяне гадавы працоўны стаж. А калі так, дык чаго я за цэлы

год дабілася са сваімі ідэямі, са сваім імкненнем да справядлівасці? Я пацярпела няўдачу. Але там, дзе барацьба, там усё — і пошукі, і перамогі, і паражэнні. Дзіўна,— думала Аня,— чаму на сходзе мяне ніхто не падтрымаў? Вось Тоха, напрыклад. Яна ж ведала пра Бандарчука. Чаму змоўчала? Сапраўды Лука, які схаваўся ў цень у самую крытычную хвіліну. Нельга, нельга такім верыць! Мудрая Тоха. Зручная Тоха. Асцярожная Тоха. Але няўжо яна не разумее, што суцяшаць на нейкі тэрмін — значыць падманваць? І як дзіўна, што асцярожнасць яе ўжываецца з захапленнем. А ад чаго ў яе гэтае захапленне? Можа, гэта раданае ўспрыманне жыцця тут, на БАМе, пасля таго як яна вырвалася з сямейнага кулака? Нездарма ж яна сябе параўноўвае са светляком. Можа, акунуўшыся ў свабоднае рамантычнае жыццё, яна на нейкі час ашалела ад шчасця? Можа, таму і дарүе ўсё і ўсім, не жадаючы заўважаць наўкола нічога кепскага? І таму закрывае вочы на чужыя правінасці. Не, Аня не такая. Мусіць яна занадта цвярозая, Аня. Але і Тоха потым уцяміць, што да чаго. А пакуль... Што пакуль? Дараваць Чубаковым і не заступацца за пакрыўджаных? Такія, як Рабкоў, самі за сябе пастаяць. Але не ўсе ж Рабковы! Ёсць Шутавы, ёсць Казловы, якім неабходна чыясьці падтрымка. Не, Тоха не мае рацыі. А можа, яна, як і Рустамаў калісьці, «прыцярпелася» да жыцця? Але ж такія і іншых вучаць пакорлівасці! Вось яна, тая шкода, якую прыносяць такія, як Тоха. Не скарацца трэба, а змагацца!

Адна, зусім адна, і падтрымаць мяне няма каму,— бедавала Аня.— Дый куды я лезу? Хто я такая? Вось Рабкоў — іншая справа. Ён заслужаны. Да яго прыслухоўваюцца. А я... Вось і вырашана было пазбавіцца ад мяне, як і ад майго такога ж няўрымслівага папярэдніка.

Але тут жа Аня прыгадала рэжысёра Бітава і падумала: «Як жа я магла забыць пра яго? Не, я не адзінокая!» І Аня жыва ўявіла сабе, як падышоў да яе Бітаў пасля яе выступлення на сходзе і, паціснуўшы ёй руку, з усмешкай сказаў:

— Вы малайчына, Аня! Мы з вамі робім адну агульную справу: выяўляем заганы, асуджаем іх. Словы нашы сеюць у галовах людзей свежыя думкі — і гэта дасць парасткі добраму, светламу, а галоўнае —

смеламу. А Бандарчук? У яго дэспатычная любоў. Можа прылашчыць, але тут жа і выгнаць. Характар няроўны. Хутка ўсе пабягуць ад яго. Не, не такім павінен быць брыгадзір.

«Не, не такім,— думала Аня.— Рабкоў. Вось хто сапраўдны кіраўнік. Яго цікавіць не толькі справа, але і людзі. Рабкоў. Як адпавядае Лёшу гэтае прозвішча! Ужо колькі разоў пераконвалася Аня ў тым, што прозвішчы людзям даюцца нездарма. І прыгадалася ёй легенда, расказаная шафёрам, аб сціплым таежным рабчыку, аб гэтай высакароднай птушцы, якая не пашкадавала сябе, якая аддала сябе ўсім пакрысе. Рабкоў, як той рабчык. Думаючы гэтак, Аня не памылялася. Той і сапраўды цвёрда, упэўнена хадзіў па зямлі, а не пырхаў, не імкнуўся ўзляцець над усімі. Рабкоў быў проста працаўнік. І як рабчык, жыў са сваімі людзьмі ў адным доме, гуртам.

Калісьці Аня знайшла нешта агульнае ў характары Рабкова і Чубакова, у сутнасці, такіх розных людзей! Але цяпер яна зразумела, што іх адрознівае, чаму адбываліся паміж імі канфлікты. Рабкова вылучае ўпартасць і прамата, клопаты аб людзях. Чубакоў жа ўпарты і хітры, і гэтыя дзве якасці накіраваны ў яго на асабістую выгаду. Праўда, хітрасць яго не заўсёды разгледзіш, бо Чубакоў так глыбока яе хавае, што здаецца, нібыта ідзе на ўступкі. Але гэта на нейкі час, каб потым застацца ў выйгрышы.

Аня многа думала пра любімага чалавека. Ёй падабалася яго самастойнасць. У Рустамава былі «залатыя рукі», і ён мог прыстасавацца да любых абставін, каб быць незалежным. Ад прыроды дужы, дый валодаючы прыёмамі барацьбы, ён нікога не баяўся. «Хоць і ў тайзе мы жывём, але з табой мне не страшна»,— неяк смеючыся, сказала яму Аня. А на службе, лянуючыся траціць сілы, каб адолець перашкоды, ён прымаў усё так, як яму дыктавалі. Аня называла гэта — «прыцярпецца да абставін». Вось гэтая слабінка ў характары Рустамава як была, так і засталася. І гэта засмучала Аню.

І ўсё ж яна заўважыла эвалюцыю ў мысленні Рустамава. Гэта было відаць па яго дзённіку. Рустамаў ужо не быў тым упартым і запальчывым хлопцам, якім Аня ведала яго ў будаўнічым атрадзе «Блакітны экспрэс». Ён стаў памяркоўны, удумлівы і не прымаў

скараспелых і неабдуманых рашэнняў, як раней. Мусіць яму паспрыяла асяроддзе, людзі, аб якіх разважала Аня, што адкрылі яму, як і Дзергачову, вочы на такіх кар'ерыстаў і выскачак, як Фядотаў і Бандарчук. Пад уплывам гэтых людзей змянілася і сама Аня. Яна нібы прыкрылася заслонай. У Рустамава ж душа пакуль што заставалася адкрытай, але і ён паступова ўжо нацягваў на сябе панцыр. Гэта было прыкметна па яго дзённіку. Адна толькі думка яго, што з такімі, як Чубакоў і Фядотаў, трэба змагацца, была сведкай таму, што ў поглядах Рустамава адбыліся перамены, і ў лепшы бок.

Перачытваючы дзённік, Аня нібы нанава адкрывала для сябе Рустамава. І калі раней яна іншым разам сумнявалася ў шчырасці яго пачуцця, то цяпер канчаткова паверыла ў тое, што Рустамаў любіць яе, і толькі яе. Яна зразумела, што ён душой і сэрцам належыць ёй назаўсёды. Ані не хацелася думаць інакш, ёй не хацелася памыліцца, нават думкі аб мажлівай памылцы яна не дапускала.

Вось так, перачытваючы дзённік і разважаючы ў вольны час, прымаючы дапамогу сяброў, якія наведвалі яе кожны дзень, Аня жыла ў чаканні. Яна чакала вяртання Рустамава і нараджэння дзіцяці.

## РАЗДЗЕЛ ЧАТЫРНАЦЦАТЫ

### Пасля пасяджэння.— Незамянімы.— Мудрая, мудрая Тоха

Бывае ж так. Цягнецца час, пляцецца, як хворая каняжына, запрэжаная ў воз, але перакуліліся калёсы — і конь як памчыць! Вось і з Тохай такое здарылася.

Пасля няшчасця з Рустамавым і такога нечаканага прызнання Ані дні для Тохі пацягнуліся тужлівай аднастайнай чарадой. Толькі ў гадзіны, калі працавала, і на рэпетыцыях яна крыху забывала пра сваю тугу. А вольнымі вечарамі не знаходзіла сабе месца. Але аднойчы ўсё перамянілася. Як вясновая вада ўзломвае лёд, так і ў Тохіна жыццё ўварвалася нешта вялікае і светлае; яно страсянула яе нечакана і з такой сілай, што Тоха разгубілася і ў першы момант не магла ўця-

міць, што з ёй адбылося. А потым... Але аб гэтым пасля.

Быў сакавіцкі дзень, звычайны зімовы, з моцным марозам. Тоха вярталася з савета інтэрната, на якім разбіраліся паводзіны трох дзяўчын — Руфіны, Наталлі і Валюхі, якая працавала ў брыгадзе маляроў. Усе тры абвінавачваліся ў амаральных паводзінах. Руфіна вінаватай была ў тым, што не начавала ў інтэрнаце ў калядную ноч, а тым самым «разбэшчвала моладзь». Дзве другія вярнуліся сярод начы. Вось і «застукала» іх вахцёрка, жанчына немаладая, адзінокая, злая. Наталля і Руфіна былі замужнія, і рэпутацыю іх ратавалі хутка. А вось з Валюхай было складаней. Не першы раз ёй выгаворвалі. Цяпер было пастаўлена пытанне, ці можна ёй заставацца ў інтэрнаце? А гэта значыць, што Валюха павінна ўзяць свой чамаданчык і ехаць на ўсе чатыры бакі. А гэта значыць — біяграфія Валюхіна запэцкана і адзін толькі бог ведае, як гэта ўсё для яе скончыцца. І Тоха за яе заступілася. Адстаяла. Але якіх намаганняў ёй гэта каштавала! І вось цяпер, вяртаючыся са сходу, ёй было прыкра ад усяго, што яна там пачула. Гэта ж трэба! Жыве чалавек, зусім яшчэ малады, і, як кажуць, «лёс свой шукае». А некаму ж не даспадобы, як ён жыве. Вось і Валюху прабралі за тое, што ў мужчынскі інтэрнат хадзіла. А з якой нагоды, дык нават не пыталіся. Вахцёрка сама здагадалася. А ці ж вінавата Валюха? Ну наведвалася пару разоў у мужчынскі інтэрнат: не звяры ж там жывуць, дый хлопцы самі яе запрашалі. А ў тую калядную ноч яна, як і Руфіна, у тайгу хадзіла. Валюха, як і ўсе дзяўчаты, замуж хоча. Нашаптала ёй Руфіна заклінанне. Вось яна і надумала прываражыць да сябе хлопца, які ёй падабаўся. І варажыла ў тую ноч. Толькі варажба не дапамагла. З той пары тры месяцы мінула. І вось табе маеш! Савет інтэрната.

Сорамна было слухаць. І прыгадала Тоха, як і з ёю вось так ў студэнцкія гады абышліся. Таксама ў інтэрнаце жыла. Заглядаліся на яе хлопцы. І яна адной вахцёрцы не падабалася. Дык тая ў замочную шчыліну, як у мікраскоп, глядзела. Прыгадала Тоха і тое, як пабаялася выступіць на вялікім сходзе, і сорамна ёй стала. І вось цяпер глядзела яна на бедную Валюху, якая хавала ў шаль свой твар і слёзы свае,— і абурылася яе душа. Заступілася за дзяўчыну Тоха. І з такім

запалам выступала, з такім гневам, што абвінаваўцы сядзелі, як падсудныя, моўчкі, надзьмуўшыся, быццам вады ў рот набралі. Дый пярэчыць яны не маглі, таму што фактаў у іх не было, адны домыслы. А пасля Тохі выступіла Аня. Потым яшчэ выступалі людзі, і яшчэ... Адным словам, абаранілі дзяўчыну. Прыемна было Тосе, што яе падтрымалі. Значыць, не толькі яе абурыў учынак вахцёркі. І гэта добра, што людзі не засталіся ўбаку. А то ж іншы раз бывае іначай. Каму ахвота ўмешвацца ў «брудныя справы»!

Тоха вярталася дамоў. І сумна ёй было, і радасна, Сумна таму, што і сюды прасачыліся ўзлаваныя на жыццё і на людзей вахцёркі-цэрберы. Радасна таму, што за чалавека пастаяць змагла.

А дома чакаў яе сюрпрыз. На стале ляжала запіска. «Тоха! Я на рэпетыцыі «Незамянімага». З Зорнага цераз перавал дабіраўся пехам. Ледзь не змёрз. У мурашніку адагрэўся. Потым падабраў самазвал. Не сварыся! Не мог я спазніцца на рэпетыцыю, ды яшчэ на генеральную. Я ж Незамянімы! Дзяўчаты сказалі, што ты на сходзе. Вечарам прыйду. Чакай!

Твой Ілья».

Тоха прачытала запіску раз, яшчэ раз... Усмешка не сыходзіла з яе твару. Яна села на ложак. Зноў прабегла вачамі радкі, напісаныя размашыста упэўненай рукой, і... задумалася. Успаміны аднеслі яе ў пасёлак Зорны, у клуб «Таежнік», дзе ішла рэпетыцыя «Чатырох кропель» Віктара Розава.

Гэта было два гады назад. Брыгада Бандарчука працавала ў Зорным. Толькі што пабудавалі ў пасёлку клуб. У адзін з вечароў стомленыя пасля працы на прасецы «бандарчукі» рэпеціравалі «Заступніцу» з «Чатырох кропель». Тоха іграла Ларысу. У самы разгар рэпетыцыі ў залу ўвайшоў чарнавалосы смуглявы чалавек у цёмным шынялі і пачаў правяраць электраправодку. Гэта быў пажарны інспектар Ілья Славін. Праверыўшы правады, інспектар такі разгон наладзіў артыстам! А калі тыя зноў прыняліся рэпеціраваць, ён сеў і пачаў глядзець. Тоха памятае, як гарэлі яго чорныя цыганскія вочы, калі ён глядзеў на яе. Неўзабаве Славіна прынялі ў тэатр і ён не прапускаў аніводнай рэпетыцыі. Акцёр з яго быў няважны, але ці ў гэтым справа! Спадабаліся яму людзі, тэатр, а галоў-

нае, як высветлілася пазней, ён страшэнна закахаўся ў Тоху. Жыццё пажарнага інспектара тайгі вандроўнае: сёння тут — заўтра там. І ў Зорны ён прыязджаў цяпер не толькі па службовых справах, але і на рэпетыцыі. А калі з'яўляўся ў пасёлку, як цень хадзіў за Тохай, і аднойчы прызнаўся ёй у каханні. Тоха выслухала, але нічога не адказала, таму што не магла пакуль што разабрацца ў сваіх пачуццях. А ён чакаў. Потым брыгада паехала ў Кічару. Славін плакаў, калі праводзіў Тоху, хоць і ведаў, што расстаецца не назаўсёды, што будзе прыязджаць на рэпетыцыі цяпер ужо ў Кічару. А каб быць бліжэй да Тохі, перавёўся на службу ў Паўночна-Байкальск.

Рана страціўшы бацькоў, Славін выхоўваўся ў дзіцячым доме. Скончыў вучылішча будаўнікоў, адслужыў у арміі, яшчэ адно вучылішча адолеў, пажарнае, пасля якога куды толькі лёс яго ні кідаў! У шмат якіх гарадах працаваў Славін. І вось на БАМ паехаў. Тут ён знайшоў сяброў, і тут ён закахаўся. Тоха, якая ўмела суцешыць і абнадзеіць пяшчотным словам, і сама не падазравала, як моцна прывязала да сябе Славіна. Бачыць яе і гаварыць з ёю стала для яго патрэбай. І дзеля сустрэчы з Тохай ён здольны быў пераадолець любыя перашкоды. Вось як цяпер пераадолеў перавал.

Тоха ведала: не на рэпетыцыю спяшаўся Ілья, а да яе. Яна сядзела з запіскай у руках радасная і ўсхваляваная. У гэту цяжкую хвіліну ёй так патрэбен быў сябар! Так ёй было горка і адзінока! Але што яна скажа яму? Што? Расказаць пра сваё няшчаснае каханне? Пра тое, што пакахала чалавека ды яшчэ жанатага? Гэта значыць, страціць Ілью, страціць вернага сябра. А можа, і не, можа, ён зразумее... Ох, як цяжка ўсё гэта. І чаго яна хоча? Чаго мітусіцца? Ужо не дзяўчынка. Трэць жыцця за спіной. Да таго ж разведная, дачка ў бабулі гадуецца. Пара і аб новай сям'і падумаць. Што ж, першы шлюб не ўдаўся, можа, другі прынясе ёй шчасце... А ёсць жа чалавек, які жыццём рызыкуе, каб толькі яе пабачыць. А яна... Дурніца, дурніца! Рустамава трэба забыць, вырваць яго з сэрца. Каханне без узаемнасці толькі засмучае жыццё,

Тоха паднесла да твару люстэрка — з-пад цёмна-русай пасмачкі на яе глянулі шэрыя ўважлівыя вочы. І такія былі яны маркотныя! Ад перажывання абведзеныя блакітнымі ценямі, і без таго вялікія Тохіны вочы,

здавалася, займалі палову твару. Куточкі вуснаў панікплі, і ад іх пралеглі дзве барозначкі. Гэта не спадабалася Тосе. Яна зрабіла намаганне ўсміхнуцца, каб разгладзіць дзве пакутлівыя зморшчынкі. Але замест усмешкі атрымалася жаласная грымаса.

Тоха зірнула на гадзіннік. Стрэлкі паказвалі без чвэрці дзесяць. Ёй стала страшна. Хутка прыйдзе Ілья. Што яна скажа яму? А сэрца падказвала, што сёння Ілья захоча пачуць апошняе слова. Што ж ёй рабіць? Тоха кінулася да тумбачкі, над якой вісеў лісток паперы. На гэтым лістку Тоха выпісала думкі Льва Талстога, якія яна вычытала ў адным з яго дзённікаў. Тоха вельмі любіла Талстога. У самыя цяжкія хвіліны свайго жыцця яна звярталася да яго за падтрымкай. Вось і цяпер, шукаючы паратунку, яна чытала думкі пісьменніка, звяртаючыся да яго: «Дай мне душэўны спакой, каб прымаць тое, чаго я не магу змяніць, мужнасць — змяніць тое, што магу, і мудрасць — заўсёды адрозніваць адно ад другога».

Тоха разумела, як гэта важна — умець адрозніваць адно ад другога. Але паспрабуй разбярыся, што ты можаш, а што не можаш. Мусіць, і Талстой не заўсёды разбіраўся. Тое, што трэба забыць Рустамава, гэта ясна як белы дзень. Мудрасць тут невялікая. Але ці зможа яна? І ўсё ж трэба. Не думаць аб ім, і ўсё тут. Насільна любы не будзеш. Рустамаў не любіць яе і ніколі не палюбіць. Ён аднахлюб. І Тоха павінна гэта прыняць, бо змяніць нічога не зможа. Каб набыць душэўны спакой, яна павінна вырваць яго са свайго сэрца. Не, у яе не хопіць на гэта мужнасці. А сённяшняе выступленне? Хапіла ж у яе смеласці заступіцца за дзяўчат? Значыць, можа! Варта толькі пажадаць! На сходзе яна не падтрымала Аню, хоць і ведала пра Бандарчука такое, аб чым не павінна была маўчаць. Тосе пасля гэтага здавалася, што яна здрадзіла Ані, яна адчувала яе адчужэнне і вельмі перажывала. Зусім інача павяла сябе Тоха на пасяджэнні савета інтэрната. Спачатку ёй было страшнавата. Але калі ўбачыла радасна-здзіўлены твар Ані, калі тая ўдзячна ўсміхнулася ёй, Тоха зразумела, што зрабіла правільна. Яе смелае і гарачае выступленне прымусіла замаўчаць занадта заўзятых, што наводзілі цень на пляцень. Яна выступіла супраць хлусні, стала на абарону невінаватых. Ці ж гэта не мужнасць! Ну што ж, хай гэта пакуль што

драбніца. Але ж выхаванне мужнасці пачынаецца з малога. Тоха пачала заўважаць, што за апошні час з ёй нешта адбываецца. І тая яна, і не тая. А ці не паддалася яна ўплыву Ані, гэтай разумнай, праўдзівай, хоць часам і рэзкай жанчыны? Пэўна, так яно і ёсць. Што б цяпер ні рабіла Тоха, раней чым на нешта адважыцца, яна задае сабе пытанне: а як бы павяла сябе Аня? Аня для Тохі як барометр ці як градуснік, які вызначае здароўе. Хочаш ведаць, якім ты стаў — звярніся да Ані, яе адносіны да цябе падкажуць. Вось і цяпер жыццё паставіла Тоху перад выбарам. Што рабіць? Каб не памыліцца. Але ў такой сітуацыі нават Аня для Тохі не дарадчык. Тут трэба рашаць самой. Тосе трэба разабрацца ва ўсім, што адбываецца, ёй трэба набрацца мужнасці, каб забыць Рустамава, каб стварыць новую сям'ю. Дачка расце, а маці старыцца.

Вось так разважаючы, Тоха ўжо ведала, што не адштурхне Ілью, што скажа яму: «так».

Яна сядзела і чакала яго. Раптам патухла святло. Упоцемку Тоха намацала свечку і запаліла яе. І тут яна пачула за акном чыесьці паспешлівыя крокі, вось нехта ўзыходзіць на ганак... Уся здранцвелая, нават не адчуваючы, як моцна калоціцца сэрца, Тоха слухала, як нехта збівае снег нагой аб нагу, і нарэшце ў дзверы пастукалі. Тоха пайшла адчыняць.

І апамятацца яна не паспела, як апынулася ў моцных абдымках. Ілья Славін, рослы, у цёмным шынялі трымаў яе ў дужых руках, прыціскаючы да сябе, уткнуўшыся змёрзлым тварам у цёплую Тохіну шыю.

— Тоха... Татоха мая.

— Ілья,— ціха выдыхнула Тоха, адчуваючы, як расслабілася цела, як спадае напружанасць, у якой яна была столькі дзён, быццам скаваная абручом. Раптам стала горача і лёгка, як пушынцы, падхопленай буйным гарачым ветрам, што нечакана ўляцеў у хату. І сама не ведаючы чаму, Тоха заплакала. Яна плакала на шырокіх, як у волата, грудзях Ільі, адчуваючы сябе маленькай дзяўчынкай, кімсьці вельмі пакрыўджанай.

Потым, калі яны ўжо сядзелі за сталом, Тоха як скрозь сон слухала, што казаў Ілья. А расказваў ён аб тым, як пераадольваў перавал, каб не спазніцца на генеральную рэпетыцыю. Ён жа іграў Незамянімага адзін, без дублёра, а неўзабаве прэм'ера. Ён не мог падвесці таварышаў. Таму так спяшаўся. Ён пакуль што

не гаварыў праўды, не сказаў, што спяшаўся да яе, згараючы ад жадання хутчэй убачыць жаданую, родную Тоху, якую ён пакуль яшчэ не можа назваць сваёй, але без якой жыць болей не можа. Ён расказваў. І Тоха бачыла, як Ілья ідзе скрозь завею па глыбокім сыпкім снезе, пераадольваючы кіламетр за кіламетрам. Вось ён караскаецца на сопку, каб скараціць адлегласць, што раздзяляла іх, вось ён, зусім скалелы і знясілены, распальвае вогнішча... адагрэўшыся, ідзе далей, наперад, да перавалу... Зноў вогнішча, замеценыя пургой дарогі і аніводнай машыны! Скончыліся запалкі. Што ж рабіць? Першы раз у жыцці яму стала страшна: няўжо так і скалее? На шчасце, убачыў мурашнік. Разгроб яго і ўлез у самую сярэдзіну, як мядзведзь, падушыўшы мурашак, якія паснулі на зіму. Адагрэўся і зноў пайшоў. Пяць гадзін ішоў... дваццаць кіламетраў. Астатнюю дарогу праехаў у кабіне самазвала.

Тоха ведала, што ўсе гэтыя пакуты ён прыняў праз яе, каб убачыцца з ёю і ніколі больш не расставацца. Ён так і сказаў ёй аб гэтым. Потым сказаў, калі ўжо не мог і не хацеў сябе стрымліваць.

— Я ведаю, ведаю,— шаптала Тоха, усё мацней прыціскаючыся да яго грудзей,— ты ніколі мяне не падвядзеш... ты мой... незамянімы.

Тоха слухала Ілью і верыла яму. Яна сказала яму «так». Яна ведала, што цяпер яе дні стануць светлымі, а сібірскія ночы кароткімі. Значыць, трэба было Ільі прайсці перавал, а ёй — пераадолець усе нягоды, каб дажыць да гэтага дня, каб зразумець, што ёсць што, каб яму знайсці, а ёй дачакацца свайго шчасця.

Толькі прайшоўшы праз цяжкія выпрабаванні, чалавек здольны знайсці ў сабе мужнасць, каб прыняць тое, што не можа змяніць, каб змяніць тое, што можа, і тым самым набыць душэўны спакой. Ці не ў гэтым чалавечая мудрасць!

Мудрая, мудрая Тоха... У гэты дзень яна набыла душэўны спакой.

Успыхнула святло. На стале дагараў агарак.

## РАЗДЗЕЛ ПЯТНАЦЦАТЫ

### Кароткае шчасце.— Фёдар з Заімкі.— Дубальтоўка са ссечаным прыкладам.— Выкрыццё

Руфіна пайшла ад Віктара. Кароткім было іх шчасце. Застаўшыся адзін, Віктар шмат думаў аб прычыне, якая прымусіла Руфіну пайсці ад яго. Ён ведаў гэту прычыну. Віктар зрабіў учынак, ад якога жонка яго адгаворвала, але Дзергачоў усё ж зрабіў па-свойму. І Руфіна пакінула яго. Вярнулася ў сваю Заімку. Спачатку Віктар лічыў сябе вінаватым. Але, добра падумаўшы, прыйшоў да такога вываду: хай ён і вінаваты, але іначай зрабіць не мог.

Усё пачалося ў дзень вяселля. Ужо накрывалі сталы ў сталовай, але перад тым, як саджаць за іх гасцей, трэба было выканаць галоўны абрад — рэгістрацыю шлюбу. Пасля мітуслівых і радасных рыхтаванняў жаніх і нявеста разам з сябрамі паехалі ў Заімку, што за дванаццаць кіламетраў ад Кічары. Загса і там не было, але яго замяняў сельсавет. Калі ўсе выйшлі з аўтобуса, Віктар падняў на рукі сваю беласнежную прыгажуню і беражліва панёс у хатку сельсавета.

Усё было як трэба. Маладыя абмяняліся пярсцёнкамі, потым іх віншавалі, на шчасце білі посуд, падносілі падарункі, пілі шампанскае, крычалі «горка», цалаваліся, пелі, танцавалі. І ўсё тут, у сельсавеце, пад музыку мясцовага занадта вясёлага, таму што ўжо быў «пад мухай», баяніста, які спяваў зусім недарэчы «Шумел камыш» і «По диким степям Забайкалья». Праўда, другая песня падыходзіла болей, таму што вяселле гулялі ўсё ж у Забайкаллі.

У самы разгар вяселля Руфіна і Віктар вышмыгнулі на вуліцу і пабеглі да хацінкі, што стаяла на другім канцы пасёлка. Там жыў дзядзька Руфіны, стары паляўнічы. Хоць і не ўзлюбіў ён сваю пляменніцу за тое, што яна яго «на БАМ прамяняла», але не запрасіць яго на вяселле было нельга: людзі зганяць, дый што ні кажы, а ўсё ж ён гадаваў рана асірацелую Руфіну.

Фёдар жыў у хатцы на самым беразе Верхняй Ангары. Утульна прытулілася Заімка ў тайзе. Падковай абагнуўшы пасёлак, рака ўцякала ў тайгу. На беразе

адна ля адной прыляпіліся рубленыя хацінкі. Тут рака брала свой выток, а бліжэй да Ніжнеангарска яна, як і сотні яе сясцёр, упадала ў магутны Байкал.

Быў яркі сонечны дзень. Марознае паветра настолькі разрэджанае, што цяжка было дыхаць. А па твары нібыта хтось наждаком праводзіў. Белая густая пара курылася над Руфінай і Віктарам, і здавалася, што яны дымяць цыгаркамі. Нягледзячы на люты мароз, ім было горача. Горача ад скокаў у сельсавеце, горача ад палкага пачуцця. Разгарачаныя і шчаслівыя, падышлі яны да хаткі, што патанала ў снезе.

Руфіна пацягнула на сябе брамку і спынілася — снегу навапіла па самую макаўку штыкетніку, а сцяжынкі не было. Здавалася, гаспадар даўно адсутнічаў, таму і сцяжынку расчысціць не было каму. Дзядзька Фёдар жыве адзінока. Была ў яго Руфіна, і тая пайшла ад яго. А можа, захварэў?

— Давай абыдзем. Можа, з чорнага ходу сцежка ёсць,— сказала Руфіна, пацягнуўшы за сабой Віктара.

Яны пайшлі па чужых дварах. Там сцяжынка была расчышчана, яна і прывяла іх да хаты дзядзькі Фёдара. Руфіна пастукала. Ніхто не адчыніў. Зазірнула ў акно — і скрозь заінелае шкло ўбачыла, што ў хаце страшэннае запусценне, а на ложку, што стаяў у самым кутку, быццам нехта ляжыць. Руфіна забарабаніла ў акно. Убачыла, як заварушылася коўдра і з-пад яе высунулася заспаная, ускудлачаная, з маленства знаёмая ёй мядзведжая галава дзядзькі Фёдара. Ён сеў, звесіўшы з ложка ногі, тупа ўтаропіўся ў акно. І, нарэшце, хістаючыся, пайшоў у сенцы.

Фёдар быў п'яны. І па яго выгляду Руфіна зразумела, што ён у запоі даўно. Фёдар быў злосны. Адчыніўшы дзверы, ён тут жа вярнуўся да свайго логава, падняў з падлогі пачатую пляшку «Сталічнай» і адпіў з яе. Паставіў на тое ж месца. Толькі потым хмурна зірнуў на пляменніцу і яе спадарожніка, хрыпла спытаўся:

— Што трэба?

— Дзядзька Фёдар, мы ўжо распісаліся, гэта мой... муж,— Руфіна кіўнула на Віктара.— Мы прыйшлі запрасіць цябе на вяселле,— разгублена пралепятала яна.

Фёдар, здавалася, не чуў.

Руфіна ўжо зразумела, што ў такім стане дзядзька на вяселле паехаць не зможа. Але што ёй заставалася рабіць? Раз прыйшла, запрасіць трэба... Фёдар нічога

не сказаў і мутнымі вачыма ўтаропіўся на Віктара.

— Недзе я цябе, хлопча, бачыў?

— Тут мехкалона стаіць. Я ў ёй працаваў.

На ўскраіне пасёлка бамаўцы пабудавалі два шчытавыя дамы, дзе і жывуць шафёры з мехкалоны, якія робяць адсыпку чыгуначнага палатна. Віктар першы час таксама тут жыў. Мог і бачыць яго Фёдар. Толькі Віктар яго не прыпомніў. Вочы Фёдара быццам свідравалі яго, і Віктару было непрыемна. Калі ж ён сказаў, што працаваў у мехкалоне, Фёдар насцярожыўся.

— У мехкалоне, кажаш?.. Сябрукі ў цябе тут?

— Былі.

— А чаму... былі?

— Адзін згарэў, другі ўцёк...

Фёдар быццам зусім працверазеў.

— Уцёк, кажаш?.. Правільна зрабіў. Усім бы вам з'ехаць адсюль,— з нейкай варожасцю сказаў ён.— Чаму ж уцёк?

— Падазравалі ў забойстве,— адказаў Віктар, адчуўшы, як агрэсіўна настроены гэты чалавек да бамаўцаў.

— Ну і што? — спытаў Фёдар. Хмель, здавалася, з яго зусім выйшаў.

— Што «ну і што»? — не зразумеў пытання Віктар.

— Ну, злавілі яго... ці што?

У голасе Фёдара прагучала трывога, але Віктар гэтага не заўважыў. Ён толькі пацiснуў плячыма, маўляў, хто ж яго ведае, не цікавіўся.

— А ты адкуль усё ведаеш? — зноў спытаў Фёдар.

— Як не ведаць, калі пры мне ўсё было. Я з імі на зімніку працаваў.

Фёдар кінуў спалоханы позірк у цёмны кут, дзе вісеў абраз. Віктар перахапіў гэты позірк і ўбачыў дубальтоўку, што стаяла пад самым абразом.

— Працаваў, кажаш? — неяк занепакоіўся Фёдар.

Ён зноў прыклаўся да пляшкі. Гарэлка глуха забулькала ў горле, пацякла па падбародку, за каўнер расшпіленай кашулі, па грудзях, парослых рыжай поўсцю. Фёдар выцер брудным рукавом рот, падняўся і, ступаючы няцвёрдымі крокамі, пайшоў у кут, узяў стрэльбу і перанёс яе за шафу. Ён нёс яе і неяк нядобра касавурыўся на Віктара насцярожанымі вачыма.

Стрэльба здалася Віктару чымсьці знаёмай. Калі Фёдар пераносіў яе, Віктар паспеў заўважыць, што

адзін ражок прыклада быў ссечаны. Віктару на імгненне падалося, што ён недзе бачыў гэты ссечаны ражок. Але дзе, не прыгадаў. І адразу ж забыўся на гэта.

Схаваўшы стрэльбу за шафу, Фёдар без дай прычыны раптам накінуўся на пляменніцу:

— Ты навошта прыйшла сюды?.. Пляваць я хацеў на тваё вяселле!.. Вон адсюль!..

Гэта было так неспадзявана, што Руфіна і Віктар аслупянелі і нейкі час спалохана глядзелі на Фёдара.

— Ну?!. Я што сказаў?!. Вон!! — гаркнуў той і, схапіўшы дапітую пляшку, замахнуўся на Руфіну.

Як апараная, выскачыла Руфіна з хаты. Віктар кінуўся следам.

— І ты!.. Вон!.. Заб'ю! — віскліва крычаў яму наўздагон зусім ашалелы Фёдар.

Руфіна, не помнячы сябе, бегла да Ангары. Віктар дагнаў яе, расхінуў кажух і, схаваўшы Руфіну на сваіх грудзях, доўга суцяшаў, выціраў яе слёзы. Калі тая крыху супакоілася, ён пяшчотна сказаў:

— Я буду зваць цябе Ангарачкай.

— Чаму? — ўсхліпваючы спыталася Руфіна.

— Ты дзяўчына з Ангары.

Руфіна з адчаем усклікнула:

— Якая ж я Ангарачка? Я — Ангара!

— Якая розніца? — не зразумеў Віктар.

— А вось такая. У бацькі Байкала была непаслухмяная дачка, звалі яе Ангара. Спаткала яна на сваім шляху прыгажуна Енісея і ўцякла з ім. Раззлаваны Байкал кінуў услед уцякачцы вялізны камень...

— Ну і што? — усё яшчэ не зразумеў Віктар.

— Гэта ж пра мяне... Усе рэкі да бацькі Байкала цякуць, адна Ангара ад яго ўцякла. Вось так і я... Спаткала цябе, пайшла ад дзядзькі Фёдара... ён і кінуў у мяне... камень.

Руфіна зноў ціха заплакала. Віктар мацней прыціснуў яе да сябе.

Яны стаялі на крутым беразе шырокай, скаванай лёдам Верхняй Ангары. А за ракой насупраць стаяла сопка з беласнежнай, як вэлюм у нявесты, вяршыняй, што свяцілася ружовым святлом. А ніжэй, у сiняватай расколіне, парослай тайгой, быццам схаваўшыся ад марозу, прытулілася празрыстае белае воблачка.

Віктар, усё яшчэ пяшчотна абдымаючы Руфіну, павёў яе да аўтобуса, які іх чакаў.

Калі вярнуліся ў Кічару, крыўда крыху забылася. А потым за працай, у буднях, амаль што і не ўспаміналася. Віктар бачыў сваю маладую жонку толькі па выхадных і кароткімі вечарамі. Увесь дзень ён рабіў на трасе. Прасека на дзялянцы Рабкова прасунулася так далёка, што астатнім брыгадам не заставалася ніякай надзеі дагнаць «рабчыкаў». Гэты поспех натхняў лесарубаў, у тым ліку і Віктара, і яны працавалі да самазабыцця, адчуваючы сапраўдную асалоду ад сваёй працы. А дома стомленага Віктара чакала яго клапатлівая гаспадынька. Руфіна працавала маляром у пасёлку. А ў вольны час займалася гаспадаркай. Яна старалася, смачна карміла свайго «Енісейку» (так яна жартам наракла Віктара), здзіўляла яго нацыянальнай бурацкай стравай: саламáтам — кашай з мукі, смятаны і масла, гатавала пóзы — пельмені, прыгатаваныя па хітраму рэцэпту, сакрэт якога перадалі ёй бураты. Адным словам, пасля кіпучай працы ў тайзе Віктара дома чакалі мір ды любоў. І ўсё ж гэтаму шчасцю іншы раз перашкаджала нейкая няясная трывога — успаміналася дубальтоўка са ссечаным прыкладам. Успаміналася без дай прычыны. І гэта крыху азмрочвала шчаслівае жыццё Дзергачова. І не толькі гэты ўспамін засмучаў яго шчасце. Віктар разумеў, што камень, кінуты ў Руфіну, усё ж пакінуў вялізны сіняк на яе душы. Але пра гэта ні яна, ні ён не заікаліся, кожны перажываў цішком. Дый у Віктара не ўсё было гладка, і на яго душы жыццё пакінула шмат зарубак. Усё гэта яшчэ больш радніла абаіх. За апошнія гады, нацярпеўшыся ўсялякіх нягод, Віктар зразумеў, чаго варта шчасце, і баючыся страціць яго, не загаворваў з Руфінай аб сваім мінулым, не распытваў пра яе жыццё ў Заімцы, хаця і здагадваўся, што жыццё яе ў Фёдара было не салодкім, нічога не гаварыў ён і пра тую стрэльбу, што не давала яму спакою.

Аднойчы, робячы на прасецы, Віктар убачыў Фёдара. Спярша да яго слыху даляцеў сабачы брэх. Потым ён убачыў, як з тайгі выбегла лайка. А следам за ёю на прасеку выйшаў паляўнічы, за спіной у яго быў руказак, у руцэ — дубальтоўка. Нейкі час паляўнічы ішоў уздоўж прасекі. Параўняўшыся з Віктарам, які абсякаў галлё з паваленай сасны, ён крыху прыцішыў крок, і позірк яго, нядобры, з-пад навіслых броваў, слізгануў па Віктары, толькі на міг затрымаўшыся на

ім. Віктар пазнаў Фёдара па яго змрочным позірку, па чорнай з рыжымі падпалінамі барадзе і па дубальтоўцы са ссечаным ражком прыклада. Фёдар прайшоў міма, пэўна, не пазнаўшы хлопца.

Фёдар прайшоў міма. Віктар ужо бачыў яго спіну і паляўнічую стрэльбу са ссечаным прыкладам. І раптам... Віктар прыгадаў. Прыгадаў! Колькі разоў пасля палявання ён чысціў гэтую дубальтоўку!.. Ён прыгадаў усё: працу на зімніку, як здабываў харч, палюючы на зайцоў з Сергіенкам, прыгадаў жудасную карціну спаленай палаткі... Зноў перад ім паўстала гэта страшная праява, якую ён столькі разоў адганяў ад сябе. Знявечаныя агнём астанкі, што аддалена нагадвалі чалавека, рассыпаныя патроны, спалены палатачны брызент і чамусьці ўцалелы, хоць і крануты агнём, драўляны памост... Воддаль ад гэтага страшнага месца стаяла каністра з рэшткамі бензіну на самым дне. Усё, што магло ў палатцы згарэць, згарэла. Але як ні стараўся следчы знайсці згарэўшую дубальтоўку, не знайшоў нічога. Не знайшлі яе і ў тайзе, абмацаўшы паблізу ўсе кусты. І тады ўзнікла падазрэнне, што смерць Сергіенкі не выпадковая, тут пахне злачынствам. І самы галоўны доказ — загадкавае знікненне дубальтоўкі. Але толькі што Віктар бачыў гэту дубальтоўку ўласнымі вачыма! Не, ён не мог памыліцца! Ён бачыў яе і ў кутку пад абразом у хаце Фёдара! Значыць, не Забелін!.. Няўжо Фёдар?!. Не, не, гэта нейкае насланнё.

Віктар гнаў ад сябе гэту страшную здагадку. Але перад вачыма неадчэпна маячыў прыклад са ссечаным ражком...

Фёдар нібы спіной адчуў на сабе пільны позірк. Ён азірнуўся і, рэзка павярнуўшы ўлева, знік у тайзе.

Узрушаны Віктар доўга не мог супакоіцца, і да канца дня працаваў рассеяна і вяла. А ўвечары ён учыніў Руфіне допыт. Не хацелася Руфіне расказваць, мінулае сваіх продкаў варушыць. Але пасля настойлівых просьбаў мужа здалася. І вось што пачуў Дзергачоў.

Пасля вайны, недзе ў саракавых, пасяліўся ў пасёлку Халодным нехта Міхаіл Яроўскі. Жыў ён адзінока, шмат чытаў, а на харчы зарабляў сабе тым, што вадзіў на перавал разведачную партыю. Жыў ён замкнёна, халодненцы нічога пра яго не ведалі. Пагаворвалі людзі аб тым, што чужынец — нейкі вучоны з Ленінграда.

Ён па-ранейшаму быў адзінокі. Аднойчы прыехала

новая разведачная партыя і сярод геолагаў аказалася жанчына, ленінградка. Жыццё ў разведвальнікаў суровае, яшчэ больш суровае, чым у забайкальскіх старажылаў. Гэтыя хоць у пасёлку жывуць, а геолагі як забяруцца ў таежную глухамань, так і сядзяць там гадамі, кормяць маскітаў. Пэўна, не вытрымала такога жыцця ленінградка. Што там ды як — ніхто не ведаў, але жанчына тая пакахала праваднікá і выйшла за яго замуж. Так і засталася ў Халодным. Ніхто і не здзівіўся. Бо, расказвалі, цікавы быў чалавек Міхаіл Яроўскі. Начытаны і жартаўнік, хоць і пануры з выгляду. Прайшоў год, нарадзілася ў іх дачка Руфіна. Бацькі ў горы, на перавал з геолагамі, а за Руфінай людзі даглядалі. Карэнныя сібіракі — народ сардэчны, спагадлівы. За Руфінай глядзелі не горш, чым за сваімі дзецьмі. А неўзабаве здарылася бяда. У адзін з паходаў пад снежным абвалам загінулі бацькі маленькай Руфі. І засталася яна адна-адзінюткая на ўсім белым свеце. Пачалі думаць людзі, дзе ж сірацінку ўладкаваць? І тут аб'явіўся Фёдар Яроўскі, брат загінуўшага Міхаіла. Прыехаў ён з нейкага глыбіннага расійскага гарадка, каб забраць пляменніцу. Але здарылася так, што вельмі спадабалася яму Клаўдзя, старэйшая дачка бабы Ліны. Доўга не цягнулі, адгулялі вяселле, а затым разам з Руфінай паехалі жыць у Заімку. Там Фёдар працу сабе па сэрцу знайшоў, паляўнічым стаў у «Зверпрамгасе». Ды не наладзілася ў яго сямейнае жыццё. Поўнай супроцьлегласцю аказаўся Фёдар свайму вучонаму брату. Піў, браканьерыў, біў жонку, дзяцей, пад гарачую руку пападала і Руфіне. Не вытрымала Клаўдзя, узяла дзвюх дзяўчынак-блізнят і пайшла ад мужа куды вочы глядзяць. Застаўся Фёдар з пляменніцай. Прыціх крыху, але потым яшчэ больш запіў. Руфіна ў школе вучылася, па дому завіхалася, а ў выхадныя з Фёдарам на паляванне хадзіла. Вынослівай і дужай вырасла Руфіна. Бадзянні па тайзе ў маразы і сцюжу загартавалі дзяўчыну так, што нічагусенькі ёй у жыцці не было страшна. Вось толькі злых людзей пачала баяцца Руфіна. З цягам часу, як яна сталела, усё больш зразумелым ёй рабіўся і дзядзька Фёдар. Пачала яна баяцца Фёдара, як і ўсе пасялкоўцы. А той усё больш і больш апускаўся. І здарылася самае страшнае — Фёдар забіў мужа бабы Ліны, які даводзіўся Руфіне хоць і дзесятай вадой на кісялі, ды ўсё ж дзе-

дам. Казалі людзі, што сп'яна забіў. Фёдар, калі працверазеў, і сам зразумець не мог, за што ён пазбавіў жыцця старога, бацьку сваёй жонкі. Адно толькі памятае, што стары папракаў яго сваёй дачкой за тое, што жыццё яе згубіў і жыццё ўнучак яго. У той час не так ужо сурова пакаралі злачынцу, улічылі тое, што ён быў нецвярозы. Цяпер наадварот — гэта робіць віну больш цяжкай. Калі адседзеў Фёдар і дамоў вярнуўся, жыць са сваім дзядзькам не захацела Руфіна. А тут БАМ побач пачалі будаваць. Як пачула дзяўчына пра будаўніцтва дарогі, пайшла яна ад свайго шалапутнага сваяка. А было ёй у тую пару дзевятнаццаць, дзесяць класаў ды два гады рабочага стажу ў «Зверпрамгасе». На БАМе Руфіна рабіла спачатку кухарам у брыгадзе Рабкова. А восенню стала маляром. Але з «рабчыкамі» пасябравала моцна. І вось у адзін з лістападаўскіх вечароў яна ўбачыла сярод іх Віктара, якога пакахала з першага погляду. І калі хлопцы адпіхнулі Віктара, шкада яго стала Руфіне. Яна жыла па законах тайгі: у цяжкую хвіліну нават ліхога чалавека кідаць аднаго нельга — загіне. У той вечар яна сэрцам асудзіла «рабчыкаў» і вялікай жаласцю пранікласяда Дзергачова. Але гэта была не толькі жаласць, гэта было першае пачуццё кахання, што раптоўна прабудзілася ў дзяўчыне. Таму і гадала яна, каб прываражыць да сябе хлопца з Вялікай зямлі.

Пачуўшы ад Руфіны ўсю гісторыю яе жыцця і пра мінулае Фёдара, Віктар разгубіўся, не ведаючы, як падступіцца да Руфіны, як сказаць пра сваё падазрэнне, што ўзнікла да яе сваяка. Як яна гэта ўспрыме? У той жа час ён ніколькі не сумняваўся ў тым, што Фёдар мае дачыненне да смерці Сергіенкі. Прыгадаў Віктар і абрабаванне магазіна ў Заімцы: пагаворвалі, быццам Фёдар быў завадатарам. Калі чатыры дні не прывозілі хлеба, ён падбухторыў некалькі мужчын, разам з імі разбіў шкло і абакраў магазін. Яроўскага так баяліся, што нават у міліцыю ніхто не заявіў. Прыгадаўшы гэта, Віктар яшчэ больш паверыў у тое, што дубальтоўка была крадзеная. Можа, і не Фёдар украў, але дачыненне да гібелі Сергіенкі было відавочным.

Пасля доўгіх ваганняў Віктар адважыўся нарэшце сказаць Руфіне аб сваёй страшнай здагадцы.

Быццам громам ударыла Руфіну гэта жахлівая навіна. Рашэнне мужа заявіць у міліцыю яна спярша су-

стрэла з варожасцю. Потым замкнулася: пачала дзічыцца Віктара, нібы звярок. А затым пачала ўпрошваць не заяўляць на Фёдара. І ніякія довады не маглі пераканаць яе. Руфіна, як непрытомная, паўтарала:

— А можа, не ён гэта?.. А можа, ён стрэльбу знайшоў ці купіў?..

Руфіна рабіла ўсё, каб абараніць свайго дзядзьку, засцерагчы яго ад новай бяды. Доўга Віктар тлумачыў ёй, што калі не Фёдар, то гэта высветліцца, але заявіць усё роўна трэба. Таму што падазрэнне падае на Забеліна, і той, можа, дзе-небудзь тэрмін адбывае бязвінна, а сапраўдныя віноўнікі на волі гуляюць.

Але Руфіна нічога разумець не жадала і паўтарала адно — не заяўляць на дзядзьку Фёдара, і ўсё. Віктар разумеў, што ёй шкада дзядзьку, хоць той і не любіць яе. Такое ўжо чуллівае ў Руфіны сэрца. Дый зразумець яе трэба. Які б ён ні быў, а ўсё ж сваяк, адзін у яе застаўся, дый гадаваў яе, замест бацькоў быў. Шкада Руфіну, вельмі шкада. І задумаўся Віктар: а ці правільна ён зробіць, калі, пашкадаваўшы пачуцці жонкі, не заявіць на Яроўскага?

І пакуль ён пакутліва думаў, страшэнная праява спаленай палаткі не-не ды ўзнікала перад ім. У такія хвіліны Віктара агортвала абурэнне, змешанае са страхам і жаласцю да таварыша. Ён не ведаў, выпадак гэта ці наўмыснае забойства, але так ці інакш, Сергіенка аказаўся ахвярай. Разумеў ён і тое, што вялікая доля віны падае на яго і Забеліна. Як яны маглі пакінуць чалавека аднаго! Ці мала ўсялякага люду бадзяецца па тайзе? І ўсё ж, калі змоўчаць, прайсці міма гэтага страшнага факта — хто ведае, не сёння, дык заўтра, можа, ты сам або твае таварышы вось так жа ўпадуць і не ўстануць?.. Не, як бы цяжка ні было Руфіне, Віктар абавязаны ўсё расказаць у міліцыі, каб пакараць вінаватых, каб папярэдзіць новае зло, бо пакуль злачынцаў не злавілі, ад бяды не застрахаваны ніхто.

Ён быў амаль што перакананы ў тым, што Генадзь загінуў не выпадкова. Прыгадалася Віктару смерць яго сябра-дэсантніка ў арміі, які скакаў з парашутам і разбіўся аб скалы. Гэта выпадак. Прыгадалася траўма Рустамава, якую ён атрымаў на лесапавале — і гэта выпадак. А Сергіенка... на выпадак тут не падобна. Знікла дубальтоўка! Калі б яна не знікла, то можна было б дапусціць, што Генка сам вінаваты ў сваёй

смерці. Можа, выпіў, закурыў, акурак кінуў на драўляны памост, заснуў — і карціна зразумелая. Але ж дубальтоўка! І яна знайшлася! Не, не! Віктар не мае права маўчаць! Але як успрыме яго ўчынак Руфіна? Няўжо іх шчасцю прыйшоў канец? Ну, а калі ён ўсё ж змоўчыць, ці будуць яны шчаслівыя, утойваючы ад людзей гэту страшную таямніцу?.. Ніколі! Не заўсёды маўчанне — золата. У даным выпадку маўчаць — значыць пакрываць, і атрымаецца, што абое яны саўдзельнікі злачынства. З Руфінай трэба пагаварыць, і пагаварыць сур'ёзна. Нельга жыць, уцяўшы галаву ў плечы. А тое, што яна менавіта так жыве, Віктар паспеў пераканацца. Пэўна, адбілася ўсё ж безбацькоўшчына і жыццё ў глушы. Ніякі тэлевізар не заменіць сувязі з жывымі людзьмі. Жыццё ў Заімцы забабоннае. Прымхі, варажба, заклінанні — усё ўвабрала ў сябе Руфіна, хоць і вучылася ў школе. Знахаркі, варажбіткі, жыццё ў шалапутнага дзядзькі — са сваркамі і пабоямі — усё прывяло да таго, што Руфіна расла дзікаватай. Яе трэба перавыхоўваць. У атрадзе гэта будзе лягчэй. Ды і ў таежныя сялібы зараз уварвалася іншае, свежае жыццё. І ў тым, што Руфіна перародзіцца, няма ніякага сумнення. Але гэта прыйдзе пазней. Гэта потым. А пакуль што саступаць яе просьбам нельга, трэба заявіць у міліцыю. Так вырашыў Віктар.

Ён так і зрабіў. Яроўскага затрымалі. Спачатку той адмаўляўся, заявіўшы, што стрэльбу падабраў ля спаленай палаткі, калі выпадкова праходзіў міма. Але калі спыталі, чаму ён адразу ж не заявіў у міліцыю, заблытаўся, а потым расказаў усю праўду.

Ужо змяркалася, калі Фёдар, злосны на ўвесь белы свет, вяртаўся з палявання ў Заімку. Палявання, па сутнасці, і не было. Усяго і здабычы за дзень, што зайцоў з дзесятак падстрэленых ды соў скалелых з дзвюх пастак выняў. Ні пясца табе, ні собаля. Усе пасткі пустыя. Нават слядоў аніякіх. Далёка ўцёк звер. Не было палявання. І не будзе. Спудзілі каштоўнага звера. Збег ён у ціхія мясціны, куды шум і грукат машын яшчэ не пранік. Пакружыў, пакружыў Фёдар па тайзе, як галодны сабака, якога выгналі з хаты, яшчэ дзвюх вавёрак падстрэліў і ў пасёлак пашыбаваў. Ды не напрасцяк пайшоў, а акружной дарогай, каб старыя пасткі, пастаўленыя яшчэ ўлетку, напаследак праверыць. А калі падыходзіў да таго месца, носам гаркавы

дымок учуў. Здзівіўся Фёдар: месца глухое, зацішнае, зімоўя тут няма і слядоў паляўнічых не відаць. Пайшоў ён на дымок — і ўбачыў палатку. Дымок курыўся над ёй тоненькай змейкай. Усё зразумеў Фёдар: і сюды дабраліся. Цьмяная злосць, даўно накіпелая ў ім на прышлых і няпрошаных людзей, пачынала яго распіраць. Ён увайшоў у палатку.

Нічога благога ён не задумваў. Пагаварыўшы з Сергіенкам пра жыццё-быццё, Фёдар не схаваў сваёй непрыязні да БАМа, але не да Сергіенкі, якога і ведаць не ведаў. Ён нават са свайго рукзака біклагу выняў з рэшткамі спірту, і, падзяліўшы яго напалам, выпілі абодва. Хоць Сергіенка і не піў ніколі, а тут выпіў. Закусілі рыбнымі кансервамі, якія хлопец знайшоў у сваім сховішчы. Як быццам усё мірна было. Толькі што і выказаў Фёдар сваю думку аб цывілізацыі. Ды іншы раз бывае непрадбачанае. Пагаварылі, паспрачаліся — а там глядзіш і... Адным словам, усё, што накіпела за дзень пасля няўдалага палявання, дый не толькі за дзень, а з той пары, як з'явіліся ў тайзе людзі, што зламалі ўвесь прывычны ўклад яго жыцця,— патрабавала выйсця. Такі адчай ахапіў Фёдара, такая злосць! Ды яшчэ крыўда на пляменніцу, якая роднага дзядзьку «на БАМ прамяняла». Прыгадалася яму і тое, як выгналі яго з Халоднага, калі ён бабу Ліну хацеў пабіць за тое, што ўсялякую лухту на яго пляце. Усё ў адну кучу. Нянавісць, што даўно раз'ядала яго душу, распірала яго столькі часу, якая прыгнятала, не давала спакою — патрабавала неадкладнага выйсця. І надышоў такі момант, калі лютая злосць, што душыла Фёдара, вылілася на ні ў чым не вінаватага хлопца, якога таварышы па неасцярожнасці пакінулі аднаго ў тайзе. Пачаў Фёдар лаяць Сергіенку апошнімі словамі, пачаў прыдзірацца да яго, таму што ў той момант гэты хлопец здаўся яму вінаватым ва ўсіх яго няўдачах і няшчасцях. А той абараняўся. Слова за слова — і скончылася бойкай. Фёдар першы наляцеў на хлопца. Не памятае, чым ён стукнуў Сергіенку па галаве, можа, стрэльбай, што падвярнулася пад руку. Але памятае, як стаяў над нерухомым хлопцам, як закурыў, кінуў акурак пад ногі, выйшаў з палаткі і пайшоў па тайзе.

Хада па марозе яго працверазіла, а падыходзячы ўжо да сваёй Заімкі, злосна лаячыся і праклінаючы ўсё на свеце, ён заўважыў, што нясе ў руцэ

сваю і... чужую стрэльбу. Пачуў Фёдар аб гібелі хлопца. Спалохаўся ён. Бо зразумеў, што вінаваты.

З расказу Фёдара стала ясна, што смерць Сергіенкі была не наўмыснай, але і не зусім выпадковай. Нянавісць Фёдара ўжо была перадумовай да гэтай страшнай сутычкі ў тайзе. І гэта нянавісць была прадыктавана непрыязнасцю паляўнічага да таго новага, што так раптоўна ўварвалася ў яго прывычнае жыццё, і таму яго ахапіла жаданне зваліць на каго-небудзь віну за няўдалае паляванне дый за ўсё бесшабашнае і шалапутнае жыццё сваё. Тут і падвярнуўся Сергіенка.

Цяжка было следчаму. Агонь усе сляды злізаў. Мусіць, ад акурка загарэлася палатка. А ноччу паваліў густы снег і замёў сляды Фёдара. А калі знайшлася стрэльба, усё праяснела. Органы следства даказалі віну Фёдара. Ён і сам не адмаўляўся, што забіў хлопца.

Суровую меру пакарання прысудзілі Яроўскаму. Прыгадалі першую судзімасць, пацвердзілася і тое, што ён абрабаваў магазін. За ўсё давялося трымаць адказ.

Калі Руфіна даведалася пра арышт дзядзькі, яна ўпотай плакала, хаваючы слёзы ад Віктара. Ёй здавалася, што ва ўсім вінаватая яна: не трэба было пакідаць дзядзьку Фёдара, такога адзінокага, і не трэба было прыводзіць Віктара ў яго хату — не ўбачыў бы дубальтоўкі. Пачуццё горкай віны мучыла Руфіну. Віктар не мог зразумець яе, а Руфіна не стала яму тлумачыць. І ў адзін з лютаўскіх дзён, калі Віктар рабіў на прасецы, яна пайшла ад яго, вярнулася ў сваю Заімку. Не верылася Віктару, што Руфіна пакінула яго назаўсёды. Яму здавалася: міне дзень-другі і яна, пагараваўшы крыху, усё зразумее і вернецца. Але прайшоў тыдзень, прайшоў другі — Руфіна не з'яўлялася.

Віктар не раскайваўся ў сваім учынку. Вось толькі сэрца сціснула туга, туга па Руфіне. І ўсё ж ён верыў у яе вяртанне.

## РАЗДЗЕЛ ШАСНАЦЦАТЫ

Пасвячэнне.— Сябры пазнаюцца ў бядзе.— Апошні перавал.— «Чалавек нарадзіўся!» — Агні

Пераўтваралася тайга. На сотні вёрст на захад і на ўсход вузкім клінам уразалася прасека ў непраходную

тайгу. І тая неахвотна здавалася, адступала, не маючы сілы супроцьстаяць жалезнаму націску людзей. Мяркуючы па ўсім, на год раней пачнецца ўкладка пуці. Будучым летам абяцалі прывезці рэйкі. Як бы не давялося дастаўляць іх раней часу. І чым даўжэй рабілася прасека, тым дужэйшымі рабіліся людзі, бо яны гартаваліся і мужнелі ў барацьбе з вечнай мерзлатой, калючымі вятрамі, сцюжай. Пасуровелі іх твары, бо агрубела скура на іх ад пякучых марозаў, а на руках — ад працы. Затое позірк стаў мякчэйшы, добры. Таму што ў мужных людзей — добрыя сэрцы. А яны, гэтыя людзі, сталі мужныя.

Віктар і не заўважыў, як праляцелі тры месяцы. Неяк вельмі хутка надышоў сакавік, хоць вясной яшчэ і не пахла. У адзін звычайны, нічым не знамянальны дзень, калі Віктар працаваў на прасецы (ужо не сучкарубам, а вальшчыкам), да яго падышоў Рабкоў. Пасяброўску падміргнуў яму і сказаў:

— Заўтра збор у мяне. Надзень свой лепшы фрак.

— Навошта? — спытаў Віктар.

— Убачыш,— коратка адказаў Лёша.

На другі дзень усе сабраліся ў брыгадзіра. Калі Віктар увайшоў, усе позіркі скіраваліся на яго. І твары ва ўсіх былі ветлівыя. А на стале чаго толькі не было! «Быццам на імяніны прыйшоў»,— мільганула думка.

Брыгадзір, як заўсёды, падвёў вынікі мінулага тыдня: каго хваліў, каго дакараў, а потым з усмешкай глянуў на Віктара. І зноў усе позіркі скіраваліся на Дзергачова, нібы ў чаканні чагосьці.

— Сёння ты імяніннік,— сказаў брыгадзір. Потым звярнуўся да ўсіх: — Віктар Дзергачоў — адзін з лепшых вальшчыкаў нашай брыгады. А галоўнае — стаў чалавекам. Сёння мінуў выпрабавальны тэрмін, і, памойму, Віктар экзамен вытрымаў. Верна я кажу?

— Верна! Наш чалавек!

Урачыстае пасвячэнне ў брыгаду было нечаканай і радаснай падзеяй у жыцці Дзергачова. У гэты дзень ён канчаткова зразумеў, што ў жыцці яго адбыліся перамены, і гэтыя перамены да лепшага. Ён ужо не быў такі адзінокі. У яго былі сябры, таварышы. Гэты радасны настрой цягнуўся з тыдзень. А потым зноў туга чорным удавам сціснула сэрца: Віктар не мог забыць Руфіну. Ён адчуваў сябе вінаватым. Усведамленне таго, што ён пазбавіў Руфіну яе адзінага роднага дзядзькі,

а разам з тым і цікавага жыцця ў Кічары, не давала яму спакою. Што яна робіць цяпер у Заімцы? З кім яна? Уся моладзь адтуль на БАМе працуе. А яна што? Сядзіць з бабулькамі? Яму, Віктару, добра, а вось ёй... Вельмі вінаватым адчуваў сябе Віктар. Ён і дзяўчат, сябровак Руфіны па інтэрнату, да яе засылаў. Тыя вярнуліся ні з чым. «Не пайду»,— кажа, і ўсё тут. І вырашыў Віктар сам да яе паехаць. У канцы квартала, калі брыгада план выканае, калі спадзе гарачка.

Пасля пасвячэння ў брыгаду чамусьці часцей успаміналіся Рустамаў, які ўсё яшчэ лячыўся ў Маскве, і Аня. Цяпер Віктар іначай думаў аб гэтых людзях. Не засталося ў яго сэрцы ні крыўды на іх, ні зла. Зразумеў ён, што яны жадалі яму толькі дабра. Віктар даўно ўжо не бачыў Ані. Ён ведаў, што яна чакае дзіця. Раптам тайную і пякучую зайздрасць адчуў да Рустамава Віктар. Рустамаў хутка стане бацькам, а вось ён... І як толькі ў галаву прыходзіла гэта думка, востры боль не-не ды кальне яго ў сэрца. За трыццаць Віктару, час ужо і яму стаць бацькам. Руфіна... Як жа яна не змагла зразумець яго?.. Трэба ёй усё растлумачыць. Трэба ехаць за ёю. Да канца квартала заставалася некалькі дзён. Прыме камісія работу — вось тады і паедзе.

Не менш напружаным жыццём жыла ў гэтыя дні і Аня. Радасць і страх пасяліліся ў яе сэрцы. Радасць ад свядомасці, што хутка яна стане маці, страх перад тым, што мае адбыцца: ці вытрымае? Апошні час у яе жыла Палікарпаўна. Добрая старая паспявала спраўляцца з гаспадаркай і ў сябе дома, і ў Ані, начаваць у яе заставалася, баючыся пакідаць адну: вось-вось разродзіцца. Ад Палікарпаўны і ўсе навіны ведала Аня. Не такім ужо вялікім начальнікам аказаўся сын гэтай руплівай бабулькі — усяго толькі загадчыкам гаража, але самая гаваркая публіка — гэта шафёры. З гаража і даходзілі ўсе чуткі аб тым, што адбывалася ў пасёлку. Ад Палікарпаўны дазналася Аня і аб арышце Фёдара Яроўскага. Вось тады і прыгадала яна, як у Халодным расказала ёй баба Ліна пра свайго зяця, Фёдара з Заімкі, які забіў яе мужа. Прыгадала яна і словы, што аднойчы сказаў ёй Фядотаў: «Паедзеце ў Халоднае за казкамі — прыедзеце і раскажаце нам». Ну прыехала, ну расказала. А што з таго? Ці ж да яе прыслухаліся? Усё тыя ж спілаваныя слупы, па-ранейшаму гінуць дрэвы, рыба, разбягаецца звярына. «Ці ж гэта не настройвае

людзей супраць нас? Берагчы людзей трэба. Не шануем прыроду — і іх не шануем. Вось і расплочваемся за сваё раўнадушша. Як мала мы ведаем гісторыю гэтага краю, мясцовасць, людзей,— а трэба было б усё ўлічыць»,— так думала Аня.

Ёй вельмі шкада было і Віктара і Руфіну. Трэба ж было здарыцца так, што менавіта Фёдар, дзядзька Руфіны, аказаўся вінаватым у смерці Сергіенкі. А адна бяда, як вядома, не прыходзіць, яна за сабой кліча новую. Вось і пайшла Руфіна ад Віктара. Такая ладная пара была. Віктар пасля жаніцьбы перамяніўся. Дарэмна Руфіна пайшла ад яго. Нядаўна яна наведала Аню і сказала, што хоча вярнуцца, казала, што сумна ёй там, што не можа без Віктара, вось толькі ніяк не можа дараваць яму за дзядзьку Фёдара. Аня растлумачыла Руфіне, што іначай Віктар зрабіць не мог. Здаецца, Руфіна зразумела, калі надумала ўсё ж вярнуцца. Даведалася Аня і аб тым, што Тоха выйшла замуж. Ад душы парадавалася за яе. Пасля пасяджэння савета інтэрната Аня рэзка змяніла свае меркаванні наконт Тохі. Яна пранiклася да яе вялікай сімпатыяй, калі пачула, як тая абараняе дзяўчат. І тады зразумела Аня, што яна не адзінокая ў сваіх намерах. Тоха — яе паплечніца. Не ведала Аня, чым стала яна для яе, але затое ведала аб гэтым сама Тоха. Ані яна была абавязана сваім перараджэннем. А для гэтага ёй трэба было паехаць у Сібір, каб сустрэць Аню. Мусіць, на Вялікай зямлі ў мітусні ды ў спешцы такія людзі не прыкметныя. А тут, у Сібіры, яны гараць ярка, як зліткі золата. І тыя, хто ім блізкі па духу, цягнуцца да іх. Так і Тоха пацягнулася да Ані. Яна ўжо не была сястрой міласэрнай. Яна стала падобнай на Аню.

Ад Рустамава прыходзілі пісьмы. Ён пісаў, што хутка прыедзе, што лячэнне яго канчаецца. Пісаў аб тым, што ім трэба пераехаць у Паўночна-Байкальск, дзе Аня зможа працаваць у газеце, а ён уладкуецца майстрам у ПТВ, якое, мажліва, пабудуюць у бліжэйшы час, дый ці мала дзе — на людзей яго прафесіі тут вялікі попыт. Такія пісьмы насцярожвалі Аню. Ці не пагоршыла яго руцэ? І колькі яна ні пыталася ў пісьмах, Рустамаў упарта абыходзіў гэта пытанне. І зразумела Аня, што справы яго кепскія. «Няўжо ўрачы нічога не змаглі зрабіць і рука застанецца нерухомай?» — Аня гнала ад сябе гэту страшную здагадку, і яе боязь не была

дарэмнай. Каб не хваляваць Аню, Рустамаў не пісаў ёй, што рука будзе паступова сохнуць, адміраць. Аня ж нібыта сэрцам адчувала новую бяду і прывучала сябе да ўсяго быць гатовай.

За апошні час яна вельмі прывязалася да Палікарпаўны. Шмат чаму навучылася ў яе: і вязанню, і шыццю, і смачна гатаваць. Аню наведвалі сябры, але Палікарпаўну яна чакала, як родную маці. Іншы раз Васёк заскочыць у канцы дня з дзетсада (яго нарэшце пабудавалі), каб прыгледзець за Аняй, калі Палікарпаўна гаспадарыла ў сваёй хаце. Адну яе не пакідалі. Праўду кажуць, што сябры пазнаюцца ў бядзе.

Неяк раніцай Аня паскардзілася Палікарпаўне, што кепска спала ноччу.

— Гэта ты хвалюешся. Сынка хочаш. А калі і дачку народзіш — муж цябе не кіне. Ты прыгожая. Толькі запомні: з твару вады не піць. Мужу гаспадыня ў хаце патрэбна.

Палікарпаўна гарэзліва крутнула галавой і, узяўшыся ў бокі ды прытупваючы, звонкім голасам завяла:

Упляшуся, утончуся,
Завтра больно будет — ой!
Утром рано я не встану,
Вася, ты корову дой!

Аня заўсміхалася. Яе вабіла да гэтай бабулі.

Была субота. Усю раніцу Аня адчувала сябе кепска. А ў поўдзень у яе пачаліся першыя перадродавыя схваткі. Палікарпаўна пабегла шукаць машыну. І дзесяці хвілін не прайшло, як за акном зафырчаў матор. Гэта на «газіку» пад'ехала Палікарпаўна. За рулём сядзеў... Дзергачоў.

Віктар яшчэ не мог апамятацца пасля таго, што адбылося. Ці ж мог ён думаць, што яму давядзецца везці ў радзільны дом Аню? Карыстаючыся выхадным, ён, як і задумаў раней, вырашыў паехаць у Заімку, каб пагаварыць з Руфінай і адвезці яе назад у Кічару. Машыну ён выпрасіў у загадчыка гаража, які ведаў яго па мехкалоне. Але не паспеў Дзергачоў выехаць з пасёлка, як яго перахапіла Палікарпаўна. Яна стаяла пасярэдзіне вуліцы і махала рукой. Віктар прытармазіў. Пачуўшы аб тым, што парадзіху трэба тэрмінова везці ў бальніцу, ён міжволі падумаў: «Ці не Аня гэта?» І рука сама сабой адчыніла дзверцы машыны.

— Сядайце,— сказаў Віктар старой.

Яны пад'ехалі да дамка Рустамавых.

Віктар вёз Аню ў радзілку. «Дзіўна,— думаў ён,— нашы шляхі зноў скрыжаваліся, ды яшчэ ў такі крытычны момант. І так заўсёды: хтосьці з нас аказваецца ў залежнасці ад другога». Зараз жыццё Ані і яе будучага дзіцяці ў руках Віктара. Але ці давязе ён? Ці паспее? А што, калі роды пачнуцца ў дарозе? Добра, што з імі едзе гэта старая. Калі роды пачнуцца ў дарозе, быць ёй павітухай.

Віктар чуў, як лагодна буркавала Палікарпаўна, даючы Ані парады, каб аблегчыць ёй пакуты.

Яны праехалі ўжо мост цераз раку Халодную. Віктар паспеў прыкмеціць, што мост адрамантаваны.

Ані рабілася ўсё горш. Яна ўжо не магла стрымліваць стогны.

— А ты цярпі, любая, цярпі. Ужо хутка прыедзем,— як магла суцяшала яе Палікарпаўна, выціраючы хустачкай пот з Аніната лба.

Як ні хацелася Віктару націснуць на ўсе педалі, гэта было немагчыма: дарога ішла па перавалах, хоць і невысокіх, але небяспечных з-за наледзяў, крутых паваротаў, пад'ёмаў і спускаў, і таму на вялікай хуткасці ехаць было нельга. Яшчэ быў дзень, але вечар у гарах наступае раптоўна. Праз якую-небудзь гадзіну пачне змяркацца. А наперадзе яшчэ самы небяспечны круты перавал, той самы, цераз які Віктар ехаў у Паўночна-Байкальск да следчага. Толькі тады дзень быў змрочны і адпавядаў настрою Віктара. А цяпер усё навокал было заліта яркім сонцам, і на душы ў Дзергачова было не тое каб радасна, але адчувалася нейкая ўпэўненасць, якая нараджала незвычайны спакой. І гэты настрой быў таму, што Віктар разумеў, якая на яго звалілася адказнасць: ад яго залежала жыццё людзей. І яму даверыліся. Віктар нібы перарадзіўся, вырас ва ўласных вачах, калі зразумеў гэта. На душы яго было светла. І перавал ужо не здаваўся такім грозным і непрыступным, як у той памятны дзень, калі ён ехаў да следчага. Ён не прыгнятаў яго сваім гмахам, а, наадварот, заліты залатымі промнямі сонца, вабіў да сябе, клікаў на нібы падвешаную ў празрыстым блакіце кручу, каб з яе вяршыні палюбавацца прасторай...

Светлы настрой Віктара доўжыўся нядоўга. На змену яму вярнулася пачуццё трывогі за жыццё Ані, у

якой яшчэ больш пачасціліся схваткі. І зразумеў Віктар — яны не даедуць.

Дарога вілася серпанцінам. Зрабіўшы яшчэ два віткі, падарожнікі апынуліся на самай вяршыні адгор'я.

І вось яно, пачалося. Палікарпаўна загадала спыніць машыну. Віктар праехаў яшчэ крыху наперад, і знайшоўшы адлогі схіл, парослы рэдкім сасняком, звярнуў на яго і спыніў «газік». Палікарпаўна загадала яму распаліць вогнішча і растапіць у чайніку снег, а сама пачала завіхацца ля Ані. Усё неабходнае запаслівая жанчына прыхапіла з сабой у дарогу.

Палікарпаўна загадала Віктару адысціся далей.

Віктар пайшоў да абрыву. Спыніўшыся на самым краі, ён зірнуў уніз — і замёр: перад ім раптоўна адкрыўся Байкал. Далёка ўнізе ляжала магутнае возера, скутае лёдам. Застылае, блакітнаватае, абагнуўшы скалісты мыс, яно знікала недзе ў туманістай снегавой смузе, а па берагах яго ціснуліся адзін ля аднаго дзікія ўцёсы і беласнежныя сопкі, якія ўдалечыні зліваліся з небам... І ўсё было ў блакітных, ружаватых, беласнежных фарбах. І настолькі тонкія, няўлоўныя былі пераходы гэтых адценняў, надзіва мяккіх, пастэльных, што здавалася, быццам на ўсё гэта нехта накінуў празрысты вэлюм, тым самым прыглушыўшы колеры. Быццам міраж, намаляваны, застылы. І было ва ўсім гэтым нешта велічнае, недасягальнае, вечнае. І хацелася глядзець і глядзець бясконца.

Віктар глядзеў на гэтую прыгажосць і адчуваў, як усё ўбачанае быццам пераліваецца ў яго душу. Адгор'е, на якім ён стаяў, крута абрывалася ўніз да распрасцёртага ля яго падножжа возера. Віктар адчуў сябе незвычайна маленькім сярод гэтай велічнай і таямнічай прыроды. І яшчэ яму здалося, нібыта ён маленечкай птушкай лунае над возерам, сопкамі, дзікімі, панурымі ўцёсамі — таму што адгор'е, на якім ён стаяў, было вышэй за іншыя адгор'і і вяршыні, што акружалі Байкал. Віктар бачыў, як пад ім, у расколінах голых уцёсаў прытуліліся маленькія празрыстыя воблачкі ці проста плылі над возерам. Ён быў вышэй за іх, гэтых аблокаў! І дзіўна. Менавіта тут, на гэтай галавакружнай вышыні, на гэтай вяршыні, Віктар падумаў аб тым, што дзеля гэтай прыгажосці варта жыць. І калі ён падумаў, што мог і не ўбачыць гэтага, калі б не паехаў у Сібір, яму раптам зрабілася страшна. Як ён мог не ўбачыць тако-

га! Толькі дзеля адной гэтай прыгажосці варта паехаць сюды! І ў яго душы варухнулася пачуццё гордасці. Гордасці за тое, што ён мае дачыненне да гэтай прыроды, што ён частка гэтай прыгажосці! І як добра, што ён разам з усімі будуе дарогу, і як добра, што ён робіць вялікую карысную справу, і як ён любіць людзей! Людзі... Колькі ў іх яшчэ наперадзе спраў! Прабіваць тунель скрозь горны хрыбет, на якім зараз стаіць Віктар, высякаць прасеку, укладваць рэйкі... І ён, Віктар, будзе працаваць разам з усімі. А потым тут прамчыцца цягнік... І ўсё гэта зробяць людзі. Трэба берагчы іх. Трэба быць да іх дабрэйшым. І прыроду трэба берагчы. Калі б не было вось гэтай прыгажосці, як бы сумна жылося на свеце! Любуючыся чароўным краявідам, які так нечакана адкрыўся перад ім, з замілаваннем гледзячы на гэтае спрадвечнае хараство, Віктару раптам захацелася таксама быць чыстым, прыгожым, добрым.

Ён так паглыбіўся ў думкі, зачараваны ўбачаным, што нават забыў на нейкі час, як ён тут апынуўся, навошта ён тут. І раптам да яго вушэй даляцеў крык дзіцяці. Гэта так здзівіла Віктара, што ён не адразу сцяміў, што гэта магло быць, і вырашыў, што яму памроілася. Але крык паўтарыўся. Надзвычай дзіўна прагучаў ён над агромністым возерам, над вяршынямі хрыбта, раствараючыся ў празрыстым паветры, у блакітным бяздонні... Ён прагучаў яшчэ і яшчэ. Настойліва і прызыўна. Гэты крык ажывіў застылы міраж, разбудзіў і вывеў з роздуму Віктара. І нарэшце ён зразумеў: чалавек нарадзіўся! Не паспеў гэта Віктар уцяміць, як да яго слыху даляцеў яшчэ адзін гук, звонкі і аглушальны, быццам гарматны стрэл — гэта ўставаў Байкал! Трэск лёду перамяжаўся з плачам новага чалавека, быццам салютавала возера, быццам вітала нараджэнне яго! І зразумеў Віктар — пачалася вясна. І залпы кругалому гучалі гімнам жыццю!

Нараджэнне чалавека на вяршыні і крыгалом на Байкале — было як прадвесце новага жыцця для Віктара, яго другім нараджэннем. Не, не тады Віктар вытрымаў экзамен на чалавечнасць, калі яго пасвячалі ў брыгаду. А сёння. Во зараз. На гэтай вяршыні. Гэта быў яго галоўны экзамен. І ён разумеў, што ён яго вытрымаў. Вытрымаў таму, што змог пераадолець у сабе непрыязнасць да людзей, якіх лічыў віноўнікамі ўсіх сваіх нягод. Ён канчаткова зразумеў, што памыляўся.

Цяпер жа, стоячы на вяршыні, ён азірнуўся на пройдзены шлях і ўбачыў духоўную прыгажосць Ані і Рустамава, якія жадалі яму толькі дабра. І цяпер Віктару хацелася адплаціць ім таксама дабром. Як добра, што ён павёз Аню ў радзільны дом! А калі б не павёз, то, мажліва, не было б гэтай вяршыні, не было б гэтага возера, не было б такой упэўненасці і ўрачыстасці ў душы. Усведамленне таго, што ён памог Ані, што ён, можа, нават выратаваў ёй жыццё і жыццё яе дзіцяці, узвысіла яго ва ўласных вачах. І ўпершыню ён адчуў: як гэта добра — рабіць дабро людзям.

Віктару вельмі хацелася даведацца, хто ж нарадзіўся — дзяўчынка ці хлопчык. Але баяўся падысці, пакуль не пачуў голас Палікарпаўны, якая яго клікала. Віктар пайшоў да машыны.

Нарадзіўся Рустам! Так назвала хлопчыка Аня. Абое, маці і туга спавіты сын, ціха і мірна ляжалі на заднім сядзенні. Цяпер іх было чацвёра ў машыне. Палікарпаўна перабралася да Віктара. Віктар сарамліва павіншаваў Аню і, не марудзячы, завёў «газік».

Яны паехалі далей.

Стаўшы маці, фізічна змучаная Аня адчула ў сабе нейкае радаснае абнаўленне, прыліў душэўных сіл. Пэўна, таму, што яна цяпер у адказе за маленькую істоту, якая зараз ляжала побач і мірна спала ля яе грудзей, час ад часу цмокаючы малюсенькімі вуснамі. І прыліў пяшчотнасці адчула Аня да ўсяго, што яе зараз акружала. Усё абышлося добра. У яе нарадзіўся сын. Як узрадуецца Рустамаў! Аня была шчаслівая. Прыліў пяшчотнасці яна адчула не толькі да гэтага маленькага, такога роднага і дарагога камячка, што ляжаў побач, але і да Палікарпаўны, і да Віктара, якія памагалі ёй, а можа, і выратавалі яе і сына. Толькі цяпер, калі ўвесь страх застаўся ззаду, Аня зразумела, як абавязана яна Палікарпаўне і Віктару. Мілыя, добрыя людзі. Як хацелася Ані сказаць ім што-небудзь добрае. Яна падумала аб Віктары. І дадумалася да таго, што абое яны, і Аня, і Віктар, у чымсьці зараз падобныя. Абое адчуваюць патрэбу ў маральнай падтрымцы, у чалавечым спачуванні. Аня перажывае за Рустамава, а Віктар, відаць, нудзіцца па Руфіне, якой ён міжволі нанёс душэўную траўму. І каб зарубцавалася яна, патрэбен час. І раптам Аня зразумела, што паміж ёй і Віктарам нібы перакінуўся мосцік даверлівасці, узае-

маразумення. Яна бачыла, што Віктар вельмі перамяніўся. І Аня па заслугах ацаніла новага Віктара. Яна прыгадала словы свайго бацькі, які сказаў ёй аднойчы, што ў кожным чалавеку, нават у самым благім, ёсць зярнятка дабраты, вось толькі адшукаць яго трэба, каб яно не загінула, і памагчы гэтаму зярнятку ўзысці. Вось і з Віктарам так. Значыць, было ў ім нешта станоўчае і цяпер яно праявілася. Зярнятка ўзышло, і непрыкметны расток вырас у вялікае дрэва дабраты. Як добра, што ні Рустамаў, ні Аня, ні Рабкоў не адштурхнулі яго, не далі скаціцца ўніз. Віктар стаў чалавекам. Дзеля гэтага варта было паехаць сюды, каб сустрэць тут Дзергачова і дапамагчы яму. Бо, стаўшы прыстойным, Віктар не сапсуе жыццё і другім людзям. І ў гэтым яго перамога. І ў гэтым Аніна перамога таксама.

Аня не памылілася ў сваіх высновах. Перавыхавацца Віктару дапамаглі людзі. Віктар бачыў, як асцярожна падыходзіў да яго Рабкоў, баючыся яго параніць, як змагалася Аня, абараняючы моладзь, смела выступаючы супраць Фядотава і Чубакова, і гэта было для Віктара добрым узорам. Можа, потым ён будзе зноў спатыкацца аб падводныя рыфы, расстаўленыя «чубаковымі», хто ведае? Але крок да дабра ім ужо зроблены. Няхай гэта яшчэ не поўны трыумф, але дзеля гэтых светлых хвілін варта было жыць, варта было пераадольваць перавал. І хай сабе Аня ў барацьбе з «чубаковымі» не ўсіх змагла абараніць. Але бойку за Віктара яна ўсё ж выйграла. А калі кожны чалавек выйграе бойку хоць бы за аднаго слабейшага — гэта ўжо многа.

Гэта быў апошні перавал на іх шляху, і апошні перавал, які пераадолеў Віктар, прайшоўшы цярністы шлях, за якім адкрываўся далягляд дабраты і радасці.

Ані хацелася нешта добрае сказаць Віктару. І калі Дзергачоў спыніў на хвілінку машыну, каб працерці задняе шкло, Аня перахапіла яго руку, працягнутую да акна, і, светла ўсміхнуўшыся яму, сказала:

— Дзякуй... Я забыла табе сказаць. Да мяне прыходзіла Руфіна. Казала, што хутка вернецца... да цябе.

Аня ўбачыла, як расквітнеў Віктараў твар, якой радасцю засвяціліся яго вочы. Ён усміхнуўся Ані і, не знайшоўшы патрэбных слоў, ціха прамовіў:

— Паехалі...

Гэта навіна была ўзнагародай яму за ўсе яго пакуты, за тое добрае, што ён зрабіў для Ані.

Спуск з хрыбта быў не менш небяспечны, чым пад'ём. А ўжо бралася на змярканне. Неўзабаве настаў вечар. Усё навокал паглынула чорная ліпкая цемра. Ані стала страшна. Дарогу асвятлялі адны толькі фары. Ні зорак, ні месяца. Сустрэчных машын амаль што не было, і гэта добра: ці доўга сутыкнуцца? Доўга яны так ехалі, марудліва, амаль што вобмацкам, робячы віткі за віткамі. І раптам за паваротам далёка-далёка бліснулі агні... Наперадзе ляжаў доўгачаканы пасёлак. Нарэшце! Калі Аня ўбачыла агні, на сэрцы ў яе пацяплела, бо страх за жыццё дзіцяці раптам агарнуў яе, як толькі згусцілася цемра, і не адпускаў увесь астатак дарогі, пакуль спускаліся з кручы. Але цяпер яна ўбачыла жаданыя агні і зразумела, што небяспека мінулася.

Агні... Спрадвеку вабяць яны да сябе. Яны як здань, як міраж. Ідзеш, ідзеш да іх, усёй душой імкнешся, вось ужо і рукі гатовы працягнуць да іх, а яны ўсё далей і далей ад цябе ўплываюць... Быццам дражняць. І прыгадала Аня (колькі разоў яна ўспамінала гэта), як аднойчы ў маленстве на Каўказе ў турысцкім паходзе яна палезла на гару па кавыль адна. Дакараскалася амаль да самай вяршыні, як раптам настаў вечар. Ані стала страшна, бо ведала, што ў гарах вадзіліся мядзведзі. І калі яна спускалася з гары, раптам убачыла далёка ўнізе малюсенькія агеньчыкі — гэта дзеці з паходнямі шукалі яе. І Аня, спускаючыся з гары, не магла вачэй адвесці ад гэтых агеньчыкаў. Яны сагравалі яе, клікалі, надавалі ўпэўненасць, што яна дойдзе да іх, гэтых агеньчыкаў. А дзе агеньчыкі, там і людзі. Без людзей нельга — прападзеш, загінеш. Агні вабілі яе, клікалі, але ўсё яшчэ былі далёка.

Вось і цяпер. Наперадзе маячылі агні. Яны пераліваліся ўсімі колерамі вясёлкі. Жаданыя агні. Агні за перавалам. І ў чым іх прыцягальная сіла? Наўрад ці знойдзеш на гэта адказ... І ўсё ж, як добра, калі ў бясконцай дарозе, за крутым перавалам, недзе гараць агні...

## ЗМЕСТ



Елена Григорьевна Кобец-Филимонова

ОГНИ ЗА ПЕРЕВАЛОМ

Повесть

Для старшего школьного возраста

Минск, издательство «Юнацтва»

На белорусском языке

Загадчык рэдакцыі В. М. Новік
Рэдактар У. В. Ідэльсон
Малодшы рэдактар Г. Д. Зінчанка
Мастацкі рэдактар В. І. Кліменка
Тэхнічныя рэдактары Н. П. Дасаева, В. А. Каляда
Карэктары Л. С. Зіза, Л. І. Саўчанка

ІБ № 397

Здадзена ў набор 20.09.84. Падп. да друку 14.01.85. АТ 07008. Фармат 84×108$^{1}/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура школьная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 8,40. Ум. фарб.-адб. 8,40. Ул.-выд. арк. 8,92. Тыраж 12 000 экз. Зак. 732. Цана 60 к.

Выдавецтва «Юнацтва» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.